# ЗМЕСТ Крыніца

# Я | Юрка ВІЦЬБІЧ



*Для кагосьці гэта была "нічыйная зямля", а для слуцкіх паўстанцаў – сьвятая, за якую варта сто разоў памерці – Незалежная Беларусь...*

*Пра Яго*

**МЕНСК, А НЕ МІНСК**
**ЛІСТЫ**
**Слуцкі фронт БНР**

"ГАРЫЦЬ І НЯ ГАСЬНЕ ПАД ПОПЕЛАМ ПРЫСАК..."
ЛАБІРЫНТ ВІЦЬБІЧА
РЭГІСТРАТАР ГНЕВУ
І МЫ ІДЗЁМ ДАЛЕЙ!

 



# МЕНСК, А НЕ МІНСК

Мы, Беларусы, зь цяплынёй і замілаваньнем ставімся да сваіх родных геаграфічных назоваў. Яшчэ нашыя далёкія прашчуры, а пасьля іхнія спадкаемцы па крыві, найменавалі свае вёскі й гарады, рэкі і азёры, балоты і ўзвышшы, пушчы й гаі. У гэтых прыгожых назовах адбіліся гісторыя нашага народу, краявіды ягонае краіны, ейная флёра й фаўна... Запраўды, уявіце сабе Белавескую пушчу, і вам згадаецца стромкая Белая вежа, што з 1288 г. і дасюль аздабляе сабой Камянец. А пры ўспаміне аб маленькім цяпер Заслаўі адразу прыгадваецца ягоны заснавальнік – унук Рагвалода й сын Рагнеды – Ізяслаў, што распачаў сабой плеяду тых грозных полацкіх князёў, аб якіх з пашанай заўважыў летапісец: "меч изымают Рогволожьи внуки". Таму зусім зразумела нашая чуйнасьць да ўсякіх прымусовых зьменаў гэтых назоваў, адказаных нам продкамі.

Трэба адрозьніваць натуральныя зьмены геаграфічных назоваў, што выкліканыя зьменамі ў мове народу, ад штучных, накінутых нам суседзямі. Напрыклад, сяньняшняя Ворша 900 год таму менавалася "Рша", і ейная ймя, паводля сьцьвярджэньня некаторых навукоўцаў, паходзіць ад іржы, балотнае руды. Таксама Гомель, спачатку называўся "Гомій", бо да ягонага паўстаньня спрычыніўся, як прыпушчаюць, радзіміцкі павадыр Гом, чыё ймя ёсьць на ўмове князя Алега зь Бізантыяй. Зусім зразумела тож, чаму зь цягам часу "Полтэск" зрабіўся Полацкам, "Менеск" – Менскам, "Відбеск" – Віцебскам, "Смоліньск" – Смаленскам, "Дрюческ" – Друцкам і г.д. Самыя Беларусы паступова прыстасоўвалі свае геаграфічныя назовы да свае гутаркі, што зьмянялася пакрысе з рухам

## *Пра Яго*

***2(15) чэрвеня 1905 г.*** *Нарадзіўся ў г. Вяліж Віцебскай губ. (цяпер Смаленская вобл. Расійскай Федэрацыі) у сям'і святара.*

***1918 г.*** *Трынаццацігадовы гімназіст Юры Шчарбакоў (сапраўднае прозвішча пісьменніка) бярэ ўдзел у Вяліжскім антыбальшавіцкім паўстанні.*

***1922–1932 гг.*** *Працуе на хімічных прадпрыемствах у Маскве, дзе атрымлівае атручэнне і робіцца інвалідам.*

***1929 г.*** *Друкуе першыя апавяданні, пачынае супрацоўнічаць у часопісе "Узвышша", а пазней робіцца сябрам аднайменнага літаратурна-мастацкага згуртавання, чыім органам быў часопіс.*

***1932 г.*** *Выходзіць першая кніга прозы Юркі Віцьбіча "Сьмерць Ірмы Лаймінг".*

***1937 г.*** *Другая кніга прозы "Формула супраціўлення касцей".*

***1939 г.*** *Прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.*

***1939–1940 гг.*** *Кіруе навуковымі экспедыцыямі па пашпартызацыі помнікаў гісторыі і мастацтва ў Віцебскай, Гомельскай і Беластоцкай абласцях.*

***1941–1944 гг.*** *Уваходзіць*

# "ГАРЫЦЬ І НЯ ГАСЬНЕ ПАД ПОПЕЛАМ ПРЫСАК..."

**Тэма антыбальшавіцкіх паўстаньняў на Беларусі была аднэй з самых важных для Віцьбіча. Яшчэ з часоў Вяліскага паўстаньня, у якім ён браў удзел трынаццацігадовым гімназістам, вынес будучы пісьменьнік нянавісьць да бальшавізму і прынцыпова адрознае ад звыклага, ходавага, разуменьне характару беларускага народу.**

**У перадваенныя гады Віцьбіч не мінаў магчымасьці расказаць пра супраціў беларусаў захопнікам (як ён уяўляў сабе гэта, – у аповесьці "Арцыбіскуп і сьмерд"), вывесьці ў тым або іншым абліччы ўдзельнікаў змаганьня – дарагіх яму людзей (як у аповесьці "Сьмерць Ірмы Лаймінг", дзе гераіня сьпісана зь Іры Лаймінг, сястры гімназіста-партызана, вядомага пад імем Фульгура). У аповесьці "Лшоно Габоо Бійрушалайм" Віцьбіч зрабіў аднаго з кіраўнікоў антыбальшавіцкага змаганьня партызана Паўлюка Нілёнка літаратурным персанажам: "Удзень курная смуга зацягвала неба, засьцілаючы ад зямлі сонца, уночы гайдаліся паміж сузор'ямі водбліскі пажараў. І па дарозе, па бездарожжы павету, вей-ветрам шпацыраваў з воўчай зграяй сваіх трохсот коньнікаў і дзясят-**



 

 



*у кіраўніцтва "Беларускага культурнага згуртаваньня". Выдае зборнікі нарысаў "Вяліжскія паўстанцы" і "Нацыянальныя сьвятыні".*

***1943 г.** Удзельнічае ў вяртанні ў Полацк мошчаў святой Еўфрасінні.*

***1946 г.** Разам з Натальляй Арсенневай стварае і ўзначальвае літаратурнае аб'яднанне "Шыпшына". Рэдагуе эміграцыйныя выданні "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", "Шыпшына", "Беларускае слова".*

***1949 г.** Пераезд у ЗША.*

***1956 г.** У Мюнхене выходзіць кніга "Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман".*

***4 студзеня 1975 г.** Памірае ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрсі.*

***1975 г.** У Нью-Ёрку выйшла ў свет кніга "Мы дойдзем!".*

***1996 г.** Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў ЗША выдае кнігу Ю.Віцьбіча "Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі".*

*Друкаваўся таксама пад псеўданімамі Алесь Крыжаніч, Юры Стукаліч.*

пакаленьняў. Затое зусім іншае тыя зьначваньні, якія гвалтоўна рабілі дый робяць нашыя суседзі ў часе іхняга тымчасовага панаваньня на нашых адвечных абшарах.

Бадай ні адзін іншы горад на Беларусі не зьмяніў гэтулькі разоў свой назоў, як Дзьвінск, што ляжыць на нашай паўночна-заходняй этнаграфічнай мяжы. Пасьлядоўна ён вядомы, як Дюнебург, Новенене, Невгін, Барысаглебск, Дінабург і цяпер – Даўгаўпілс, што сьветчыць аб зьменах ягонае падпарадкаванасьці Немцам, Расейцам і Латышам. Між тым, здаўна й дагэтуль гэтыя народы зьяўляюцца тут нацыянальнымі меншасьцямі на беларускай, а некалі крывіцкай зямлі. Той-жа сумны лёс пасягнуў недалёкія ад Дзьвінску гарады – Разьніцу й Лужын. Першы знаны пазьней пад назовамі – Розіттэн, Рэжыца, Рэзэкнэ, другі чужынцы паступова перайменоўвалі ў Лудзен, Люцын, Лудза. Жамойдцы да Вільні дадалі свой юс, але тым не вярнулі ёй ейную колішнюю літоўскую славу. У Палякаў, за часы іхняга панаваньня, беларускі мілагучны назоў – Берасьце – выбухнуў цяжкім для нашай мовы – Бжэсьцем на Бугу, яны таксама перайнакшылі сяло Сеславіна на Крулеўшчызну, станцыю Іванава на Янаў-Палескі, горад Бярозу на Бярозу-Картузкую і г.д. Што датычыць Украінцаў, дык за часы сваіх нядоўгатрывалых Пятлюры, а потым Бандэры, яны абмежаваліся ў нашым дрыгвіцкім Палесьсі толькі транскрыпцыйнымі зьменамі Берасьця на "Бэрэстя", ды Пінска на "Пыньск".

Аднак усе нашыя суседзі, разам узятыя, ня спрычыніліся гэтак да накідваньня нам сваіх геаграфічных назоваў, як Расейцы. Сьпярша крамлёўскія ўладары ўвогуле выкрасьлілі былі з мапы Эўропы Беларусь, стварыўшы замест яе – Заходнюю Камуну, і толькі пазьней, каб спадмануць ды паняволіць беларускі народ, узьняты Радай БНР да змаганьня за сваю незалежнасьць, вымушаныя былі стварыць дзяржаўны эрзац – БССР – калёнію Масквы. Пасьля гэтага яны, з дапамогай калябарантаў, пачалі зьнішчаць усё нашае апрычонае, а ў тым ліку й геаграфічныя назовы. І ў гэтай галіне бальшавікі зьяўляюцца спадкаемцамі Расейскай імпэрыі. Расейскі імпэрыялізм – ці то царскі, ці то савецкі – мае для Беларусаў аднолькавы пах і смак.

**каў кулямётных тачанак бацька Нілёнак. На выпешчаных шляхецкіх конях імкнуўся бацька навосьлеп па павеце – на сьвітаньні руйнаваў камуну пад Зацьвілішкамі, а шэраю гадзінаю пад коньнікамі ўжо енчыў брук мястэчка Янавічаў, што за восемдзесят кілямэтраў ад Зацьвілішак".**

**Да навуковай распрацоўкі тэмы антыбальшавіцкай барацьбы Віцьбіч падышоў на эміграцыі. Не задавальняючыся ўласнымі ўражаньнямі і ўспамінамі, ён распытваў кожнага, хто меў нейкае дачыненьне да антыбальшавіцкага змаганьня ці быў сьведкам яго, шукаў у літаратуры хоць ускосных доказаў народнага абурэньня. Ён адкрыў для сябе шмат паўстаньняў, бунтаў, дэманстрацыяў, невядомых нават гісторыкам: "Дагэтуль мы ведалі адно-два-тры паўстаньні, якія літаральна заштампавалі, штогод перадрукоўваючы артыкулы й нарысы аб іх зь некаторымі варыяцыямі ў галіне формы. Мне пашэньціла аднавіць цэлы шэраг паўстаньняў і партызанаў, дагэтуль невядомых шырокім колам нашае эміграцыі, як, напрыклад, Мірскае, Дабранскае, Бешанковіцкае, Панькоўска-Будаўскае, Барысаўскі галодны бунт, Мсьціслаўская сялянская дэманстрацыя і г.д. Пашчасьціла таксама знайсьці шмат новага й цікавага, што датычыць трох галоўных паўстаньняў – Слуцкага, Гомельскага й Вяліскага".**

**Віцьбіч ведаў, што на Бацькаўшчыне забаронена ня толькі ўсякае праўдзівае слова пра антыбальшавіцкія паўстаньні, але зьнішчаны або, у лепшым выпадку, гібеюць у турмах і лягерах тыя, хто знаў гэтую праўду. Тут-жа, на эміграцыі, апынуліся людзі, якія ня толькі ўдзельнічалі ў барацьбе, але й кіравалі ёю. Трэба было сьпяшацца за-**



 

 



Гэтак, маскоўскі вялікі князь Дзімітра Данскі зьіначыў стары Клічаў на Асташкаў. Потым цар Іван Грозны, у часе Лівонскіх войнаў, перайменаваў Белы ў Багародзіцын, Себеж – у Івангорад, Дзьвінск – у Барысаглебск і г.д. Тыя зьмены народ адкінуў, як лушпавіньне, яшчэ да скону Івана Грознага. Тым ня менш, цар Аляксей Міхайлавіч спрабаваў перайначыць у 1655 г. стары крывіцкі Кукенойс у "Царевич Дмитриев Град". Варта таксама зацеміць, што імпэратар Мікалай Другі загадаў зьмяніць назоў Сяруцкай воласьці Невельскага павету на Аляксееўскую і такім чынам ушанаваў царэвіча Аляксея. Але ўсё гэтае амаль саматужніцтва ў параўнаньні з тымі зьменамі, што прынясьлі Беларусам бальшавікі.

Не пасьпела савецкая ўлада ўмацавацца на Наваградчыне, а ўжо 30 ліпеня 1920 г. тутэйшы павятовы рэўком перайменаваў мястэчка Ярэмічы ў мястэчка імя Валадарскага, а Турэцкую воласьць, у склад якое яно ўваходзіла, у Валадарскую. Між тым, назоў старадаўняга мястэчка Турэц, вядомага яшчэ з 14 стаг., як удзел князя Ўладзіміра Альгердзіча, падобна сялу Турэц на Ігуменшчыне, гораду Тураву на Палесьсі, ракі Турыі ў Панямоньні і г.д. паходзіць ад тураў, а не ад Туркаў. Блізка таго часу праваўзьбярэжная частка Дзісны, Дзісьненская Слабада, што ляжыць на Дзьвіне, якая часова сталася тут дзяржаўнай мяжой, дастала назоў Луначарскае – ад прозьвішча крамлёўскага наркома. Тады-ж мястэчка Раманава на Случчыне перайменавалі ў Ленін, хоць ягоны назоў старэйшы за дынастыю Раманавых і паходжаньне яго нічога агульнага зь імі ня мае.

Яшчэ за часы князя Мяндоўга горад Крутагор'е, на Меншчыне, набыў імя пераможанага й забітага пад ім у 1249 г. хана Койдана, стаўшыся вядомым, як мястэчка Койданава. За савецкія часы імя хана зьмяніла імя блізкага яму па духу шэфа чэкістых, і Койданава ператварылася ў Дзяржынск. Але, калі імя Койдана нагадвала Беларусам толькі аб іхняй перамозе над ім, дык імя Дзяржынскага сьветчыла, што тут у 1920 г. ягоныя апрычнікі раздушылі ў крыві гэраічнае супрацьбальшавіцкае паўстаньне, вядомае пад назовам Койданаўскай Незалежнай Рэспублікі, якую ачольваў слаўны Паўлюк Калечыц. Крыху раней горад Парэчча на Смаленшчыне, што займеў свой назоў ад рэкаў Касплі й Гобзы, перайменавалі ў Дзямідаў, у памяць пагарджанага намі расейскага камісара, забітага тут у 1918 г. слаўнымі вяліскімі паўстанцамі. А ў пачатку 30-х гадоў бальшавікі гвалтам зьмянілі назоў мястэчка Вызны на Чырвоную Слабаду, хоць ні адно роўнае па колькасьці насельнікаў паселішча Беларусі не дало гэтулькі змагароў зь імі – паўстанцаў, партызанаў, нацдэмаў – колькі вольналюбная Вызна.

Зь любоўю ставяцца людзі ў вольных краінах да геаграфічных назоваў рэлігійнага паходжаньня і дбайна ахоўваюць іх ад усялякіх зьіначваньняў. Згадайце, напрыклад, амэрыканскія: Сан-Францыска, або горад сьвятога Францішка Асізкага, і Сан-Сальвадор – Сьвяты Збавіцель; далей, эўрапэйскія: князёўства Манака й горад Мюнхэн, назовы, якіх паходзяць ад манахаў; азіяцкія: Багдад або – Божы Дар, і пакістанскі Алаххабад, што азначае – Божы Горад, а ў Афрыцы назоў Эгіпта тлумачыцца, як – Хорам бога Пта. І гэтак скрозь па ўсім Божым сьвеце. Нават Расейцы вымушаныя

---

**пісаць іхнія сьведчаньні-ўспаміны, пакуль яшчэ была такая магчымасьць. З болем гаварыў Віцьбіч, што "спазьніўся толькі на тыдзень, каб атрымаць неабходныя зьвесткі ад скончыўшага жыцьцё самагубствам былога кіраўніка Мірскага паўстаньня".**

**На думку Віцьбіча, "найбольш матар'ялаў у архівах НКВД, аднак з грамадзянаў СССР толькі той, хто страціў розум, будзе шукаць да іх доступ"; разам з тым, ён не сумняваўся, што надыдзе час, калі навукоўцы Незалежнае Беларусі будуць карыстацца гэтымі матар'яламі і калі дакумэнты, засакрэчаныя сёньня, знойдуць сваё месца. Але нават калі ўлады і ня зьнішчаць усіх дакумэнтаў, іхняя вартасьць не такая важкая, як сьведчаньні непасрэдных удзельнікаў антыбальшавіцкіх выступаў. Сабраць-жа такія сьведчаньні можна толькі цяпер. Таму сярод шэрагу прычын, якія падштурхнулі Віцьбіча да больш глыбокай распрацоўкі тэмы, немалаважную ролю адыграла вера, "што мая сьціплая праца станецца каштоўным матар'ялам для іншага – наступнага дасьледчыка гісторыі, у распараджэньні якога будзе больш фактаў і магчымасьцяў". Бязумоўна, засьцярога гэтая ня можа нікога зьвесьці ў зман: па-сапраўднаму, Віцьбіч лічыў сваю працу не падрыхтоўчым матар'ялам для наступных дасьледчыкаў, а хутчэй падмуркам і арыенцірам у моры хлусьні і няведаньня, з чым неадменна сутыкнецца будучы гісторык.**

**Было ў яго яшчэ адно жаданьне – разбурыць легенду "о тихом и непротивленческом злу белорусе". Шырака распаўсюджаная, укаранёная ў галовах людзей, "легенда" нарабіла вялікай шкоды. Народжаная спачуваньнем да прыгнечаных,**



 

 



тымчасам мецъ гэткія назовы рэлігійнага паходжаньня для сваіх вялікіх горадоў, як, напрыклад – Архангельск і Благавешчанск, Златауст і Васкрасенск. І тым ня менш яны, з дапамогай услужлівых калябарантаў, зьвярнулі ўвагу на нашыя геаграфічныя назовы падобнага паходжаньня. Так горад Ігумен, што, паводля народнага паданьня, атрымаў свой назоў ад манашкі-ігуменьні, вядомы цяпер як Чэрвень, бо ў чэрвені 1920 г. тут польскіх акупантаў зьмянілі нічым ад іх ня лепшыя расейскія. Віцебская ўскраіна, Маркоўшчына, якая дастала свой назоў ад гістарычнага Маркавага манастыра, вядомага яшчэ з 13 стаг., сталася Пралетарскай Слабадой. Сяло Сьвяты Дух, на Ашмяншчыне, што набыло сваё ймя ад тутэйшай царквы, перайменавана ў Будзёнаўку, у сумлеўны гонар знанага савецкага "брацішкі".

Побач з гарадамі, мястэчкамі й вёскамі, падпалі пад савецкае зьіначваньне таксама возера Князь, або Жыд, на Палесьсі й найвышэйшая на Беларусі Сьвятая Гара, паблізу якое пачынаецца сам бацька-Нёман. Возера перайменавалі на Чырвонае, хоць у ягоным назове няма нічога юдафобскага, і тлумачыцца ён тым, што ў ім вадзілася вылучна, так званая, кашэрная рыба. Нарэшце самае спалучэньне назоваў – Князь або Жыд – да паходжаньня якіх прылучалася яшчэ й прыгожае гістарычнае паданьне, сьветчыць аб дэмакратычнасьці беларускага народу. А Сьвятая Гара, якую здаўна шанаваў наш народ і пабудаваў на ёй капліцу, атрымала зьняважальную для Беларусі мянушку – Дзяржынская.

У 1950-м годзе, у расейскай "Литературной Газете" у артыкуле "Наследие проклятого прошлого" ("Спадчына праклятага мінулага") акупант рубам паставіў пытаньне: "Навошта гэтак старанна сярод назоваў беларускіх паселішчаў захоўваць такія, як Желудок і Прапойск?"

Расеяц нават не палічыў за патрэбнае даведацца, што ў беларускай мове няма слова "желудок", а ёсьць – страўнік, шлунак, кіньдзюк. А каб на Беларусі пэўны горад і меў назоў – Страўнік, дык няма ў тым нічога ганебнага, а ў дадатак гэтае зьявілася-б нашай асабістай справай. Але-ж горад Жалудок, што на Гарадзеншчыне, атрымаў свой добры назоў не ад расейскіх "желудков", а ад беларускіх жалудоў. Дагэтуль захаваліся пад Жалудком дубравы. Дагэтуль шуміць магутны дуб над магілкай вядомага Падскарбія Літоўскага Антона Тызэнгаўза, што пахаваны ў Жалудку.

Горад Прапойск, на Магілеўшчыне, дастаў свой назоў ужо за Расейцаў ад іхніх нязьлічоных дзяржаўных манаполькаў зь імпэрскімі гербамі на бутэльках гарэлкі. У старадаўніх летапісах ён вядомы спачатку, як Прупой, а пазьней, як Прапошеск. Праз наш фальклёр дайшоў да сучаснасьці легендарны радзіміцкі волат Ірвідуб з Прупою. Той, хто быў у Прапойску, пэўне бачыў у глыбокіх ярох вакол ягонае царквы вялізныя дубы, што стаяць, як жывы прыпамін аб магутным Ірвідубе. Прапойску не вярнулі ягонае старое беларускае ймя, не надалі яму й рамантычны радзіміцкі назоў – Ірвідуб, а перайменавалі ў стандартны, казённы Слаўгорад. І, каб найлепш адчуць усю чужасьць гэтага накіду, прыгадайце нашы родныя назовы падобнага паходжаньня,

**забітых і абяздоленых, яна, у сапраўднасьці, спрыяла скажэньню рэальнай гісторыі Беларусі, перашкаджала ўспрыняцьцю мінулага. "Легенда" непакоіла Віцьбіча асабліва таму, што была пашыраная і сярод саміх беларусаў, культывуючы пасыўнасьць і нявер'е ў свае сілы. Яшчэ задоўга да эміграцыі Віцьбіч зразумеў яе шкоднасьць, але-ж толькі ў працы над кнігай зьявіліся выключныя магчымасьці для паказу няслушнасьці гэтай легенды: сама тэма і шырыня палатна задуманай кнігі – шматлікасьць паўстанцаў і партызанаў – рабілі доказы больш пераканальнымі. І Віцьбіч зноў і зноў вяртаецца да асэнсаваньня пастаўленай перад сабою задачы: "Гэтая тэма мне непасрэдна блізкая і, распрацоўваючы яе, хочацца ў залежнасьці ад маіх магчымасьцяў разбурыць пашыраную легенду..."**

**Наколькі Віцьбіч быў гатовы да выкананьня манаграфічнага дасьледаваньня, сьведчыць той факт, што свае прапановы распрацоўкі тэмы ён даслаў у Інстытут па вывучэньню гісторыі і культуры СССР (Нью-Ёрк) у сьнежні, а ўжо ў студзені пісаў кіраўніцтву Інстытуту: "...склаў сьпіс з 52 асобаў, зь якімі буду мецъ непасрэднае кантактаваньне або праз ліставаньне". Асаблівасьць збору фактычнага матар'ялу, ананімнасьць інфарматараў, адсутнасьць у архіве Віцьбіча падрабязных зьвестак пра іх і поўнага ліставаньня зь імі не дазваляюць назваць сёньня дакладную лічбу ягоных карэспандэнтаў. Аднак, відавочна, іх было значна больш папярэдне акрэсьленай лічбы, нават калі, сапраўды, толькі непасрэдна апытаных было "каля пяцідзесяці".**

**Ананімнасьць асобаў, чые ўспаміны і сьведчаньні Віцьбіч**



 

накшталт – Горадня, або Горадзен, Наваградак, Гарадок Саламярэцкі, Гарадок Астрашыцкі, Давід-Гарадок, шматлікія Гарадзішчы й Гарадзеі, аж да наддзьвінскага маляўнічага Гарадка, дзе з-пад чырвоных, нібы крывавых крушняў замкавага муру плыве адвеку сьвятая крыніца.

У 1960-м годзе, у БССР-аўскай газэце "Звязда" зьявіліся вялікія артыкулы аб канечнасьці перайменаваньня шматлікіх мястэчкаў і вёсак, якія нібы маюць нямілагучныя назовы, што дасталіся ў спадчыну ад мінулага, і супярэчаць, прабачце, шчасьлівай савецкай рэчаіснасьці. Між тым, ня ўсе ў вольным сьвеце ведаюць, а калі й ведаюць, дык зусім не праймаюцца з тае прычыны, што сталіца Лёндан на кельцкай мове гучыць, як – горад на балоце, што горад Чыкага на мове мясцовых індыянаў – смуродны, што возера Гурон на францускай мове – да свіньні падобны, што краіна Уругвай на мове індыянаў – птушыны хвост, што сталіца Бэрлін на мове ягоных заснавальнікаў лужычанаў – лужа, што горад Швайндорф на нямецкай мове – сьвінячая вёска і г.д. Але-ж іншая рэч савецкія "пурытане"... У выніку, у БССР перайменавалі цяпер больш за 200 паселішчаў, а паміж імі й горад Дрысу, якога старадаўні балцкага паходжаньня назоў зьмянілі ў 1962 г. на Верхнядзьвінск. І справа нават ня ў тым, што Дрыса ляжыць не ў вышнявінах Дзьвіны, а пасярод ейнага працягу, а ў тым, што самым Расейцам трэба ў першую чаргу зьмяніць назоў Масквы, які ў перакладзе з фінскай мовы азначае – брудная вада.

Не амінулі расейскія геаграфічныя дакрэты й наш старадаўні сталічны Менск. Траяка талмачаць паходжаньне ягонага летапіснага назову – Менеск, Меньск. Адныя кажуць, што ён паходзіць ад тэрміну – мена, характэрнага для яго, як для колішняга буйнага гандлёвага цэнтру. Другія сьцьвярджаюць, што назоў яму надала рэчка Менка, дзе горад спачатку узьнікнуў, але пасьля разбурэньня яго ў 1067 г. кіеўскім князем Ізяславам, аднавіўся пад старым назовам, але на іншым месцы, ля ўтоку Нямігі ў Сьвіслач. А, паводля паданьня, заснаваў яго казачны дрыгавіцкі волат Мянеск, які на сваім млыне малоў каменьне. І ўсе тры талмачэньні цалкам апраўдваюць ягоны запраўдны народны назоў – Менск.

За часы Рэчы-Паспалітае Палякі накінулі Менску назоў "Міньск". Беларускія нацыянал-дэмакраты і нацыянал-камуністыя, вярнулі яму колішняе йменне, якое пратрымалася да канчатку 30-х гадоў, пакуль Расейцы дакрэтным чынам не аднавілі ягоны польскі назоў. Але мы не вызнаем аніякіх маскоўскіх зьначваньняў і дарагі Менск назаўсёды застанецца для нас Менскам. І хіба толькі для нас – эмігрантаў? Вельмі паказальна ў гэтай галіне цудоўная "Балада пра Мянеска", створаная маладым сталічным паэтам Рыгорам Барадуліным і зьмешчаная ў № 5 часапісу "Беларусь" за 1967 г. з прычыны 900-годзьдзя Менску.

Эпіграфам ёй паслужылася старая народная прыказка:

*"Не пайду я да Менска*
*ад шляху Віленска,*

---

**выкарыстоўваў, была вымушаная і зразумелая. Эмігранты з Савецкага Саюзу ведалі звычны для КДБ мэтад калектыўнай адказнасьці, жылі ў страху за сваіх сваякоў, што засталіся па той бок заслоны, на Бацькаўшчыне. Таму кожнага патэнцыяльнага рэспандэнта Віцьбіч папярэджваў: "Імя асобы, якая дае патрэбныя зьвесткі, у самой маёй працы або зусім апускаецца (паводле жаданьня таго, хто інфармуе), або хаваецца за псэўданімам, які гэтая асоба сама для сябе абярэ, або называецца поўнасьцю, калі гэтая асоба ня мае нічога супраць". Як бачна з рукапісу, таго, хто хацеў-бы назваць сваё імя поўнасьцю, уключна з аўтарам, ня было. Нават праз два дзесяцігодзьдзі пасьля вайны былы суражанін Рыгор Еўдакімавіч Драчалуцкі, дасылаючы чарговы свой ліст, напамінае: "Тое, што я расказваю Вам, можаце выкарыстаць паводле сваіх меркаваньняў. Адзінае маё патрабаваньне – перад землякамі называць мяне Аляксеем Лявонавічам Драчалуцкім, бо я, Рыгор Еўдакімавіч, у Суражы адзін. Аляксей Лявонавіч, мой сябра, на бацькаўшчыне памёр". <...>**

**І ўсё-ж не дэфіцыт часу быў асноўнай цяжкасьцю. Найбольшая вартасьць кнігі – сьведчаньні ўдзельнікаў – сталася і найбольш слабым месцам, што разумеў і сам аўтар, які, у прадчуваньні закідаў чытачоў, рэцэнзэнтаў, рэдактароў у непрыхаванай суб'ектыўнасьці дасьледаваньня, пісаў: "...крыніцы, уключаючы сюды й мае ўспаміны, носяць больш або менш суб'ектыўны характар, а часам (маю на ўвазе савецкую літаратуру) гранічна тэндэнцыйныя. Таксама тэндэнцыйная, але зусім у іншым пляне, эміграцкая літаратура".**

**За час пошукаў матар'ялаў**

 



*а пайду па шляху Віленскім,*
*спаткаюся зь Мянескам"*

– далей сустракаем выдатныя й красаўныя радкі:

*"Гарэла ціхая зара,*
*І задыхаўся горан.*
*Няма Мянеска – млынара,*
*Назваўся Менскам горад!"*

Але паэта не дае веры ў сьмерць Мянеска, які ажыцьцяўляе ў сабе несьмяротнасьць народу. Ягоная баляда канчаецца заклікам:

*"Пярун разлогі скалане,*
*Сьцямнее над барамі.*
*Не навальніца гэта. Не!*
*Мянеск імчыцца на млыне –*
*Дружыну набірае!"*

І перамеле Мянеск на жорнах свайго млыну расейскае ліхалецьце. Скалануўшы са сваіх плячэй цяжкія гады, станем і мы ў шэрагі ягонае дружыны разам з усім народам на абарону нашае нацыянальнае годнасьці ад чужацкага зьдзеку й глуму.

# ЛІСТЫ

***Юрка ВІЦЬБІЧ – Антону АДАМОВІЧУ***
***20 лістапада 1951 году***

Глыбокапаважаны Спадар Адамовіч!

<...> Мяне вельмі абышла Вашая заўвага, што ўзвышэнства Юркі Віцьбіча бадай што зьяўляецца ягоным асабістым домыслам і Вам асабіста нічога рашуча невядома, каб Віцьбіча калі-небудзь прымалі ў сябры "Ўзвышша".<...>

Пачну з таго, што нібы Кузьма Чорны ці Кандрат Крапіва ўзялі з "Чырвонага Сейбіту" мае ня зьмешчаныя там апавяданьні і зьмясьцілі іх ва "Ўзвышшы". У сапраўднасьці было наступнае. Я паслаў сваё апавяданьне "Як загінуў Ясь" у нядзельную літаратурную

**пра антыбальшавіцкія паўстаньні Віцьбіч пераканаўся ў адсутнасьці публікацыяў, зьвязаных з гэтымі падзеямі, аднак рабіў розныя захады, каб дасягнуць найбольшай аб'ектыўнасьці, хаця для самога пісьменьніка суб'ектыўнасьць выкладу не зьяўлялася недахопам, і апора на недакумэнтаваны матар'ял ня была ў ягоных вачох заганай. Віцьбіч, нягледзячы на сур'ёзнае стаўленьне да свайго даваеннага навуковага дасьведчаньня ў якасьці гісторыка-археалёга, перш за ўсё быў і заставаўся пісьменьнікам-эмігрантам, для якога любоў да Бацькаўшчыны, веданьне сутнасьці бальшавізму і ўласнае дасьведчаньне зьніталіся ў адно. Да таго-ж, ніякая, нават самая вялікая колькасьць дакумэнтаў не засьцерагае гісторыка ад суб'ектывізму, бо менавіта адбор матар'ялу, ягоная ацэнка і выклад залежаць ад пазыцыі аўтара.**

**Слабасьць Віцьбічавых старонак, што грунтаваліся толькі або пераважна на мэмуарным матар'яле, адразу ўбачыў прафэсар Гарвардскага ўнівэрсытэту Нікалас Вакар, дасьледнік гісторыі Беларусі, аўтар працы "Belorussia: The making of a nation: a case study"*. Імкнучыся перасьцерагчы свайго, як ён лічыў, калегу-пачаткоўца, Вакар пісаў: "...гісторык не павінен забывацца, што падзеі рэдка выглядаюць аднолькава ў вачох удзельніка і ў вачох староньняга назіральніка. Мэмуарная літаратура мае гістарычнае значэньне, але ня варта зьмешваць яе зь гісторыяй. Небясьпека, акрамя таго, заключаецца і ў тым, што, імкнучыся даказаць вельмі многае на падставе аднабако-**

* Vakar N.P. Belorussia: The making of a nation: a case study. Cambridge, Harvard university press. 1956. XII, 297 p. Portr., maps.



 

старонку газэты “Савецкая Беларусь”. Праз колькі дзён у “Паштовай скрынцы” гэтага дадатку я прачытаў наступнае: “Вашае апавяданьне (дарэчы, вельмі добра напісанае) друкавацца ня будзе, бо слаба адбівае клясавыя супярэчнасьці на вёсцы”.

Як значна пазьней даведаўся, гэты адказ належаў Міхасю Чароту. Тады Я САМ гэтае самае апавяданьне (бяз усякае перапрацоўкі) паслаў да “Ўзвышша”. Паслаў менавіта да “Ўзвышша” зусім не выпадкова, бо лічыў, што з усіх тагачасных часапісаў гэты зьяўляецца для мяне найбліжэйшым, бо лічыў, што гэты часапіс менш за ўсё цікавяць клясавыя супярэчнасьці на вёсцы. Сапраўды, у № 9 за 1929 год я ўбачыў сваё апавяданьне пад загалоўкам “Млынарова рука”. Новы загаловак аж занадта падкрэсьліваў клясавыя супярэчнасьці, а таму пазьней у сваёй кніжцы “Сьмерць Ірмы Лаймінг” я аднавіў стары загаловак. Як мне перадаваў пазьней Пятро Глебка, гэтае апавяданьне вельмі спадабалася Ўладзімеру Дубоўку. У сувязі з гэтым апавяданьнем я атрымаў вельмі добры і цёплы ліст ад Кузьмы Чорнага (найвыдатнага беларуса й чалавека), у якім ён запрашаў мяне стала супрацоўнічаць у часапісе “Ўзвышша”. Хачу ўсім гэтым сказаць, што я сам прыйшоў да часапісу “Ўзвышша” і ніхто мяне туды гвалтам не цягнуў. Гвалтам мяне цягнулі ў іншыя месцы.<...>

Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць, што ў той час я ўжо меў “свайго” ўласнага сэксота, а менавіта паэта Алеся Зарыцкага. Ён прыехаў зь Менску ці з Рагачову (дакладна ня помню) у Маскву, каб жыць разам зь Віцьбічам. Яго цікавіла маё ліставаньне, мае выказваньні па тых ці іншых пытаньнях, мая чарговая творчасьць і г.д. Калі я зьмяніў кватэру, дык адначасна са мной зьмяніў яе і Зарыцкі, абы толькі жыць разам зь Віцьбічам. Нарэшце адразу зь дзьвюх крыніцаў – ад былога артыста тэатра Галубка сп. Мароза і ад Зіны Бандарынай я даведаўся, што Алесь Зарыцкі – сэксот.

Згадзіцеся цяпер са мной, што пры наяве ціску з боку Шукайлы, Шынклера, Бандарынай, пры наяве А.Зарыцкага падаць заяву менавіта ва “Ўзвышша”, у якім на той час ня было ўжо Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі, а здаецца, ня было ўжо і Вас, ва “Ўзвышша”, якое цкавалі з усіх бакоў, трэ’ было мець вялікую мужнасьць. Пазьней мне менавіта гэтая мужнасьць неаднойчы вылазіла бокам, але я дагэтуль ганаруся, што мне не забракла яе, каб трапіць менавіта ва “Ўзвышша”.

Помню, што, пасылаючы з Масквы заяву ва “Ўзвышша”, я лічыў сябе асабіста не дарослым да гэтага, але, разам з тым, я хацеў публічна падкрэсьліць, з кім я, да якога лягеру належу. Аднак літаральна праз тыдзень атрымаў ліст ад Крапівы, што мяне аднагалосна прынялі ў сябры “Ўзвышша”, атрымаў адначасна таксама адмысловае пасьведчаньне за подпісамі К.Чорнага і К.Крапівы. Я ў той час быў яшчэ вельмі малады, а таму помню, што зь вялікім задавальненьнем пры першай нагодзе тыцнуў гэтае пасьведчаньне пад нос Шукайлу і Бандарынай. Добра помню, што прыняцьце мяне ў сябры “Ўзвышша” адбылося не 26 травеня, а здаецца, у кастрычніку ці ў лістападзе – пэўне, у гэты час ужо не прытрымліваліся ранейшых традыцыяў згуртаваньня. Пазьней мне, калі я ў Маскве досыць цяжка захварэў, сябры “Ўзвышша” прыслалі дапамогу ў 300 рублёў.

---

**вага матар’ялу, гісторык часта пазбаўляе доказальнасьці й тое нямногае, што зьяўляецца ў ягоным пераказе бясспрэчным гістарычным фактам”. Вакар раіў абмежавацца зборам успамінаў, падаючы іх менавіта як матар’ял для будучага гісторыка, і гэтым можна было-б пазьбегнуць закідаў у суб’ектывізьме. Віцьбіч, адказваючы на ліст Вакару, адразу адкідае прапанову абмежавацца зборам успамінаў, адмовіцца ад дасьледаваньня й вывадаў і аргумэнтуе сваю пазыцыю: “Зусім ня страшна, калі часам навуковец, абапіраючыся на шэраг часткова правераных фактаў, зьвернецца да “рабочай гіпотэзы”. Пройдзе час, і гіпотэза стане рэальнасьцю, калі тая або іншая навуковая праца, нават школьны падручнік, будзе мець у той ці іншай ступені налёт індывідуальнасьці іхняга аўтара. Людзі, што стваралі найноўшую гісторыю Беларусі, фізычна зьнішчаныя бальшавікамі, працы (друкаваныя альбо рукапісныя), дзе адлюстравалася дзейнасьць гэтых асобаў, спаленыя або выкарыстаныя як макулатура. Усе архівы, што мелі адносіны да гісторыі Беларусі, згінулі падчас Другое сусьветнае вайны. Архівы НКВД пэрыядычна зьнішчаюцца самімі-ж энкавэдыстамі. Толькі на эміграцыі можна сабраць тое-сёе, што мае адносіны да маёй тэмы”.<...>**

**Да таго-ж Віцьбіча раздражнялі парады-патрабаваньні быць ва ўласнай працы, якую лічыў “абавязкам палітычнага эмігранта”, усяго толькі староньнім назіральнікам: “...наш сьвяты эміграцыйны абавязак – давесьці сьвету нашае права на нашую Зямлю!”. Віцьбіч лічыў сябе “пасярэднікам паміж героямі-паўстанцамі і гісторыяй”.**

**Па сутнасьці, кніга Віцьбіча “Антыбальшавіцкія паўстаньні і**

Яшчэ пазьней я атрымаў ад Кузьмы Чорнага ліст з прапановай падпісаць паперу аб самазьліквідаваньні "Ўзвышша". Я не адказаў на гэты ліст, а потым спасылаўся на тое, што ўвогуле гэты ліст не атрымаў. Таму сёньня нават і юрыдычна я лічу сябе верным да канца ўзвышэнцам. Дакладна я ня помню цяпер дату майго прыняцьця ў сябры "Ўзвышша", але затое добра помню, што калі празь некаторы час пасьля "самазьліквідаваньня" я завітаў у Менск, дык не знайшоў ужо і Максіма Лужаніна.

Зь нерэпрэсаваных сяброў "Узвышша", магчыма, ніхто ня меў гэткага цкаваньня за "нацыяналістычныя памылкі", як самы маладзейшы ўзвышэнец Юрка Віцьбіч. Мяне не прынялі ня толькі ў сябры, але нават і ў кандыдаты ССПБ. Між тым, туды адразу былі прынятыя старэйшыя ўзвышэнцы – Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Зьмітрок Бядуля, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны. Толькі Тодар Кляшторны быў прыняты кандыдатам, але не за былое ўзвышэнства, а за справы ТАВІЗ'у. Дарэчы, сябрам тады быў адразу прыняты Мікола Цэлеш. Юрка Віцьбіч ня трапіў у сябры ці кандыдаты не таму, што ён не дарос да гэтае "высокае годнасьці", бо ў лік сяброў трапіў зусім недалужны віцебскі паэт Браніслаў Люгоўскі. Юрка Віцьбіч ня трапіў вылучна таму, што, як яму шчыра сказаў Клімковіч: "Вы тымчасам ня наш. Мы не адкідаем вас зусім, мы не адкідаем вашых здатнасьцяў, мы не забараняем вам друкавацца, але вашая сучасная творчасьць не адпавядае некаторым параграфам статуту ССПБ".

Калі ў вас ёсьць магчымасьць перагарнуць старонкі газэты "Літаратура і Мастацтва" за час, папярэдні стварэньню ССПБ, дык амаль у кожным нумары гэтае газэты Вы знойдзеце лаянку ў сувязі з памылкамі Юркі Віцьбіча. Пры гэтым у большасьці гэтых лаянак заўсёды падкрэсьліваецца, што памылкі Віцьбіча ідуць ад ягонае былое прыналежнасьці да "Ўзвышша". Кульмінацыйнага пункту гэтая лаянка дасягнула ў часе гэтак званай рэформы правапісу. Вы знойдзеце ў газэце "Зьвязда" за той-жа час вялікі артыкул Андрэя Александровіча, дзе ён расклаў ворагаў па паліцах, а менавіта: "Уладзімер Хадыка – прадстаўнік кулацтва, Юлі Таўбін – старое, не савецкае інтэлігенцыі, Юрка Віцьбіч – дваранства" і г.д.

У той-жа самы час у газэце "Літаратура і Мастацтва" (на трэцяй старонцы зьверху, зьлева) зьявіўся вялікі артыкул "Нашыя абвінавачваньні Ю.Віцьбічу" за подпісамі М.Клімковіча, А.Александровіча і М.Лынькова. Разам з тым, Вы нідзе ня знойдзеце, каб Віцьбіч пакаяўся ў сваіх "памылках", хаця гэтае ад яго патрабавалі і гэтае ў той час лічылася абавязковым.

Гэтае цкаваньне мяне перасягнула межы БССР. У "Литературной газете" на той час ёсьць лаянка ў адрас Віцьбіча і нават карыкатура на яго. У часапісе "Калосьсе", у разьдзеле "Хроніка" (гэты часапіс я бачыў у доктара Янкі Станкевіча), прыгадваюцца імёны Ў.Хадыкі і Ю.Віцьбіча як найбольшых апазыцыянэраў да рэформы правапісу. У д-ра Станкевіча ёсьць нарэшце адмысловая праца, прысьвечаная ў сваёй пэўнай частцы рэформе беларускага правапісу, дзе таксама прыгадваецца Юрка Віцьбіч. Пра ўзвышэнскія памылкі Віцьбіча прыгадвае і Плашчынскі ў "Літаратуры і Мастацтве" за 1939 г. у артыкуле "Пра творчасьць Ю.Віцьбіча". За той-жа самы час у часапісе

**партызанская барацьба на Беларусі" мусіла стаць першай у шэрагу такіх дакумэнтальных твораў, як пазьнейшыя працы "Я з вогненнай вёскі" Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Ўладзімера Калесьніка, "Блакадная кніга" Алеся Адамовіча і Данііла Граніна, як кнігі Сьвятланы Алексіевіч. Віцьбіч адным зь першых убачыў у сьведчаньнях сучасьнікаў дакумэнты агромністай сілы, але ён сьвядома паступіўся тым, што пазьней сталася сілай аналягічных твораў – індывідуальнасьцю апавядальніка, якая перашкаджала аўтару падкрэсьліць, вылучыць агульнае і аб'ектыўнае. <...>**

**І тым ня менш, Вакар меў рацыю, перасьцерагаючы Віцьбіча. Усё адбылося менавіта так, як ён прадбачыў: ананімныя рэцэнзэнты адхілілі кнігу, і Віцьбіч ня здолеў пераканаць кіраўніцтва Інстытуту ў навуковай вартасьці свайго дасьледаваньня. <...>**

**Віцьбічу-навукоўцу не ўдалося пераадолець Віцьбічапісьменьніка і палеміста. У кнізе знойдзецца нямала старонак, што нагадваюць хутчэй Віцьбічавы нарысы, а не навуковае дасьледаваньне. Гэта і аповяд пра Панькоўска-Будаўскае і Бешанковіцкае паўстаньні, гэта і большая частка разьдзелу пра Вяліскае паўстаньне, гэта, бязумоўна, і пераважная бальшыня партрэтаў партызанаў. Аповяд-жа старога паляшука пра бацьку Булака-Балаховіча – закончаны мастацкі твор малой формы. Віцьбіч непрыхавана палемічны. Палемічныя і апісаньні паўстаньняў, асабліва дзеяньняў асобных партызанаў. <...>**

**Незадаволенасьць апанэнтаў выклікалася й тым, што, на іх пагляд, праца Віцьбіча зьяўляецца, "галоўным чынам", сэрыяй ня зьвязаных адзін з адным эпізодаў самага рознага накірунку. Да таго-ж, некаторыя эпізоды наўрад ці можна ад-**

"Полымя Рэвалюцыі" ёсьць вялікі артыкул Кучара, прысьвечаны беларускай літаратуры за 30 год, дзе ў абзацы, што мае дачыненьне да Ю. Віцьбіча, таксама падкрэсьліваецца былая прыналежнасьць яго да "Ўзвышша". Здаецца, усяго гэтага хопіць, хаця яно не абдымае цалкам усё тое, што я меў за "Ўзвышша". Аднак тут ёсьць адна вялікая памылка з боку тых, што мяне лаялі. Я прыйшоў да "Ўзвышша" ўжо ўзвышэнцам. Характэрны ў гэтай галіне хаця-б прыклад з апавяданьнем "Як загінуў Ясь". Наадварот, некаторыя сябры "Ўзвышша" ў той час ужо значна адхіліліся ад ранейшае ўзвышэнскае лініі (Пятро Глебка), якое я саматугам прытрымліваўся.<...>

*З узвышэнскім прывітаньнем*
*Юрка Віцьбіч*

***Юрка Віцьбіч – Антону Адамовічу***
***5 сьнежаня 1951 году***

Дарагі Спадар Адамовіч!

Удзячны за Ваш ліст. Уважліва прачытаўшы яго, пераканаўся, што мы, пэўне, абодва ня ў стане цалкам абысьціся бяз шпількаў, але затое не сумняваюся, што мы абодва ў стане абстрагавацца ад іх, не заўважаць іх. Прынамсі, я асабіста цяпер цалкам прытрымліваюся апошняга.

Вас цікавіць МОНРП. У канцы 30-х гадоў у Маскве мелася значная колькасьць нацыянальных пісьменьнікаў – адныя зь іх вучыліся ў Інстытуце Валерыя Брусава, другія зьяўляліся палітэмігрантамі, толькі нязначная частка зь іх увайшла ў склад нацыянальных сэкцыяў МАПП, пераважная большасьць зь іх стварыла свае нацыянальныя сэкцыі пры расейскім згуртаваньні "Кузница". Галоўнымі "кавалямі" між "нацменаў" былі – летувіс Сігізмунд Валайтыс, удмурт Кузебай Герд, беларус Дуброўскі, украінец Аляксеенка і інш. Я асабіста ў той час ня прымаў чыннага ўдзелу ў паседжаньнях гэтых сэкцыяў, бо хаця і меў 2–3 друкаваныя апавяданьні, але ад Дуброўскага атрымаў годнасьць кандыдата, а ня сябра і амаль ніколі не запрашаўся ім на агульнае паседжаньне ўсіх "нацменаў".

Між іншым, праца беларускае сэкцыі "Кузницы" звычайна працякала ў Беларускім Клюбе на Арбаце, дзе Дуброўскі выкладаў беларускую мову і літаратуру. Тут-жа я неяк пазнаёміўся з Паўлюком Шукайлам, якога ўжо раней ведаў як паэта. Паўлюк Шукайла ў той час вучыўся ў Інстытуце чырвонае прафэсуры (між іншым, ён яго ня скончыў). Аднойчы (дату ня помню) Шукайла запрашае мяне ў Дом Пісьменьніка на паседжаньне ўсіх нацыянальных пісьменьнікаў.

Як малады, я прыйшоў, зразумела, на гэтае паседжаньне раней за ўсіх. Пакрысе падышлі Валайтыс і яшчэ два летувісы разам зь ім, Кузебай Герд, цыганскі паэт Роман,

**несьці да ліку беларускіх зьяў або рухаў".**

**Што да нязьвязанасьці эпізодаў, дык Віцьбіч, наадварот, бачыў у гэтым каштоўнасьць працы, якая дазваляла ахапіць як-бы ўсю Беларусь і яе вызваленчы рух. А вось тое, што рэцэнзэнты ня лічылі пэўныя эпізоды зьявамі беларускага вызвольнага руху, паказала іхнюю прадузятасьць і асабліва закранула Віцьбіча. Падставы былі: расейскія эмігранты хварэлі на імпэрскія амбіцыі, і "сепаратизм национальных меньшинств" выклікаў у іх шалёны адпор.**

**Парваўшы адносіны з Інстытутам, Віцьбіч ня спыніў працы над тэмай. Ён працягваў шукаць сьведкаў падзеяў, выпісваў з кнігарняў у ЗША, Канадзе кожную новую кнігу пра Беларусь, ліставаўся з тымі, хто мог хоць нечым дапамагчы – фактамі, імёнамі, назвамі. Віцьбічу хацелася, каб сьпіс тых, пра каго ён мог расказаць, "налічваў сотні імёнаў і пашыраўся на ўсю Беларусь". Ён радаваўся, што яму "пашчасьціла наблізіць да ісьціны закранутыя ў гэтай тэме падзеі і асобы, а частку іх вярнуць зь нябыцьця й захаваць для гісторыі". Віцьбіч быў перакананы: "Ніхто не паднясе нам Незалежную Беларусь на талерцы. Шлях да яе ляжыць толькі праз зацятую вайну з нашымі адвечнымі ворагамі".**

**Праца, зробленая Віцьбічам, вялізарная. Можна сказаць, што яму ўдалося зьдзейсьніць задуманае: "У часе вайны я паставіў помнік на брацкіх могілках 1000 расстраляным вяліскім паўстанцам, і бальшавікі яго зьнішчылі, дык цяпер я спадзяюся паставіць яшчэ больш велічны помнік".**

**Гэты помнік – кніга "Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі". <...>**

**Лявон ЮРЭВІЧ**
**Нью-Ёрк**

індус Лугані, украінец Аляксеенка, ад беларусаў – Дуброўскі і Ус, увогуле каля 30 асобаў. Апошнім прыйшоў Паўлюк Шукайла, якога пераважная большасьць прысутных бачыла ўпяршыню. На галаве ён меў бабровую шапку такое велічыні, што яна нагадвала баярскую з тэатральнага рэквізыту (яе ён паклаў перад сабою на стале), вельмі добрае паліто з кенгуровым каўняром ён ня скінуў, хаця ў пакоі было досыць цёпла, у руках трымаў свой заўсягдашні кій. Прысеў ён ня дзе-небудзь збоку, а на самым пачэсным месцы, адсунуўшы пры гэтым крыху ўбок Дуброўскага і аднаго зь летувісаў.

Зьяўленьне Шукайлы, а тым больш ягоная імпазантная вонкавасьць зрабілі вялікае ўражаньне на ўсіх прысутных. Што да Дуброўскага, які старшыняваў на гэтым паседжаньні, дык той адразу пачаў заікацца і, між іншым, меў рацыю. Шукайла досыць ветліва папрасіў у яго слова, у якім спачатку адрэкамэндаваўся як шырака знаны ў беларускім народзе паэт, як стваральнік новае школы ў беларускай літаратуры і г.д., а потым раптам абваліўся на Дуброўскага, выказваючы сваё вялікае зьдзіўленьне і нават абурэньне, што тут прысутнічае "такое ўбоства".

Дуброўскі сваім тонкім галаском паспрабаваў спачатку пярэчыць, але, зірнуўшы неяк спадылба на славуты кій, што ляжаў на стале побач з баярскай шапкай, дэманстратыўна пакінуў паседжаньне. За ім выйшаў Аляксеенка, бо на ягоную рэпліку Шукайла заўважыў: "А хто, акрамя вашае сям'і, ведае пра тое, што вы паэт?". Ужо каля самых дзьвярэй і нават крыху прыадчыніўшы іх, Дуброўскі затрымаўся, пачаўшы нешта благое выкрыкваць на адрас Шукайлы. Не падумайце толькі, Спадар Адамовіч, што гэта ёсьць перабольшаньне, але Шукайла схапіў кій і рынуўся да Дуброўскага, які ўмомант зьнікнуў за дзьвярыма і больш не зьяўляўся.

І адразу неяк сталася так, што старшыняваць на паседжаньні стаў Шукайла, хаця яго ніхто не выбіраў, а наадварот, ён выгнаў кагадзе абранага старшыню. Шукайла, даўшы сабе слова, літаральна заявіў наступнае: "Не выпадае нам, нацыянальным пісьменьнікам, знаходзіцца ў падсуседках ці прымаках пры іншых згуртаваньнях. Нас тут досыць, каб стварыць МОНРП. Сёньня я быў у ЦК КП(б) і ўжо палагодзіў гэтую справу, дазвольце зачытаць вам праэкт статуту".

Жыцьцёвая напорыстасьць Паўлюка Шукайлы агульнавядомая. Між іншым, яна знайшла добры адбітак у паэме Крапівы "Хвядос – чырвоны нос". На Дуброўскага і, магчыма, Аляксеенку падзейнічаў ягоны кій, на нейкую частку – іншыя аксэсуары: шапка, паліто з каўняром, нібы залаты гадзіньнік, на значную частку – прыгадваньне ЦК і амаль на ўсіх – тое, што сапраўды нікому не хацелася прымакамі стацца. Таму аднагалосна было вырашана стварыць МОНРП, а ягоным тымчасовым (да зацьверджаньня статуту) старшынёй быў абраны Паўлюк Шукайла.

Пасьля ніякіх паседжаньняў МОНРП'у не адбывалася. На мае запытаньні аб прычынах гэтага Шукайла адмоўчваўся. Дуброўскі сьцьвярджаў, што Шукайлам зацікавілася ГПУ. Сумняваюся, каб Шукайла ня ведаў, як адчыняюцца дзьверы ў гэтай установе, хаця не сумняваюся, што Дуброўскі мог запабегчы ў гэтай справе. Значна пазьней ад Сігізмунда Валайтыса я даведаўся, што Шукайла быў у ЦК пасьля

---

# ЛАБІРЫНТ ВІЦЬБІЧА

*(З нагоды кнігі "Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман"*)*

**Сёння кнігі такога кшталту называюць не "мастацкімі нарысамі", а – "эсэ". У вызначэнні жанру цяжка памыліцца: сістэма счапленняў, асацыяцыяў, рэмінісцэнцыяў тут – скрозь эсэістычная. Матэрыял кнігі нагадвае ангельскі сад: россып уражанняў, успамінаў, міфалагемаў, артэфактаў; поруч з строга навуковымі высновамі – дзёрзкія спекуляцыі, лятункі, мроі.**

**Спевы сляпога старца-лерніка "калісьці ў Віцебску каля бабінцу Чорнае Тройцы, што на Пескаваціку". Беларуская дзяржава КНР (Койданаўская Незалежная Рэспубліка), "якая на чале з слаўным Паўлюком Калечыцам нейкі час праіснавала ў 1920 годзе". Легендарны певень, што выратаваў Мозыр, як калісьці гусі – Рым. "Паказальны герб" Шклова – "бязьмен, або кантар, што сьветчыла аб ягоным гандлёвым значэньні". Наведванне магілёўскай сінагогі "разам з Жыдам паводле свайго паходжанья і выдатным нашым пісьменьнікам, узвышэнцам Зьмітраком Бядулям", і рыданні апошняга "ў зьняважанай бальшавікамі сьвятыні".**

* Юрка Віцьбіч. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мюнхэн, выдавецтва "Бацькаўшчына", 1956; Мінск, "Мастацкая літаратура", 1995.

 



паседжаньня, а не перад ім, як ён запэўніваў, і ЦК ня даў дазволу на існаваньне МОНРП'у, бо гэтым самым нацыянальныя пісьменьнікі як-бы хочуць сьвядома адмежавацца ад расейскіх.

Крыху наконт Паўлюка Шукайлы. А ўсё-ж ён здатны паэт, добры беларус, неблагі арганізатар і ўвогуле вельмі цікавы чалавек. Вы, пэўне, ведаеце, што ягоныя радкі

*"На Беларусі*
*вада з крыві,*
*палеткі*
*з курганоў і крыжоў"*

былі ўзятыя Міхасём Зарэцкім як motto да "Крывічоў". Прынамсі мне пра гэта гаварыў сам Зарэцкі, але чамусьці (цяпер ня помню, чаму) яму яго выкрасьлілі. Прыгадваецца з Шукайлы таксама:

*"Мары*
*марыш,*
*Марылька.*
*Сьмехам душыш сьлёзы.*
*Гавары,*
*радная*
*гаварыка,*
*Аб чым там шэпчуць бярозы".*

І хаця помніцца пародыя (здаецца, Сяргея Дарожнага):

*"Выйду я на сенажаць*
*ды*
*з нагана*
*ў жабу –*
*бац!",*

але зьяўленьне Паўлюка Шукайлы ў новай беларускай літаратуры не зьяўляецца чымсьці выпадковым. І на гэтае невыпадковае месца больш за іншых надаваўся па сваіх якасьцях менавіта Паўлюк Шукайла.

Вас цікавіць ТАВІЗ. Пасьля расшыфроўкі атрымліваецца вельмі празаічна – Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць. Па сутнасьці, гэта штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему. Вынаходнікам самае назвы ёсьць Міхась Багун. Гэтая назва неаднойчы прыгадвалася і ў друку, і на паседжаньнях, і ў пратаколах гэтых паседжаньняў. У склад ТАВІЗ'у ў розныя часы, або адначасна, уваходзілі Тодар

**Выспа на возеры Асвея "з самым кароткім на Беларусі і разам з тым незразумелым геаграфічным назовам – Ду".**

**Паміж тым у кнізе няма ніводнага факта, ізаляванага ад іншых; цэлае пульсуе, дыхае, а то і выбухае эмацыйным усплёскам. Прыцягненне, узаемадзеянне на далёкіх адлегласцях – асноватворны прынцып эсэ. Аснова ж нагадвае лабірынт. Лабірынт, які ўдае натуральную з'яву або вырошчваецца як абстракцыя, разумовы прадукт.**

**Мне знаёмы лабірынт, падобны на дрэва, – шматтомнае эсэ Дж.Дж.Фрэзера "Залатая галіна" – з незлічонымі перапляценнямі, атожылкамі, карэннямі фальклорна-міфалагічных штудыяў. Эсэ Борхеса складваюцца ў лабірынт бібліятэчных залаў, апісаны, дарэчы, самім выдатным аргенцінцам у навеле "Вавілонская бібліятэка". "Лабірынты Ластоўскага", якія можна расчытаць як гісторыка-культуралагічнае эсэ, імітуюць полацкія лёхі, сутарэнні і бяздонныя, нявымераныя дагэтуль калодзежы крыўскае таямніцы. Ул. Арлоў у "Фаўне сноў" бярэ за ўзор кунсткамеру з яе незлічонымі дзівосамі і штукамі. Тэкставыя структуры сучасных эсэістаў найчасцей атаясамліваюцца з лабірынтам звілінаў і раўчукоў кары чалавечага мозгу.**

**Лабірынт, увасоблены Віцьбічам, складаецца з пакручастых ліній рэк, рачулак, затокаў, ручаёў, крыніц, якія, нібы крывяносныя сасуды, разбегліся па целе Бацькаўшчыны.**

**Усё з вады, як сцвярджаў Фалес. Вада існавала як дадзенае ў першы ж дзень стварэння свету, а ў дзень другі яна аддзялілася ад сушы (глядзі Кнігу Быцця, І, 1–8). Стыхія вады, безліч разоў увасобленая ў міфалогіі і літаратуры, не заўжды ўспрымалася ў ёй як адменнік**



 

 



Кляшторны, Уладзімер Хадыка (да жаніцьбы), Васіль Каваль, Алесь Дудар, Міхась Багун, Валеры Маракоў, Эдуард Самуйлёнак (да хваробы), Сяргей Дарожны і іншыя. Зьбіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-ой гасьцініцы, калі я прыязджаў зь Віцебску, або ў шашлычнай на вул. Камсамольскай, або ў маленькай піўнушцы – уніз па вул. Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэньні Дома Пісьменьніка, дзе меўся пэўны час рэстаран. У сувязі з апошнім меў няпрыемнасьць: у адказ на заўвагу Эдуарда Самуйлёнка – "паграбок Аўэрбаха" – заўважыў: "А можа, паграбок Авербаха?" У той-жа дзень меў афіцыйную сустрэчу з Андрэем Александровічам, які даводзіў мне геніяльнасьць Леапольда Авербаха.

Беларуская багема, бадай, нічым не адрозьнівалася ад багемаў іншых нацыянальнасьцяў. Яна зьяўлялася пратэстам супраць існуючага "Пракрустава ложа". На паседжаньнях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя "маскі", пра якія прыгадваў Язэп Пушча. ТАВІЗ праіснаваў да самай вайны, а мне здаецца, што ён існуе і сёньня. Прынамсі добра сказана ў пасьляваеннага Максіма Лужаніна:

*Тут плоціцца дзесяць марак*
*і ставіцца дзесяць чарак,*
*а мне трэба больш купіць –*
*і ўжыць,*
*і сябрам наліць.*

Шчыра зычу ўсяго добрага.
Чакаю Ваш ліст.

*З пашанай да Вас*
*Юрка Віцьбіч*

***Юрка Віцьбіч – Антону Адамовічу***
***11 студзеня 1952 году***

Дарагі Спадар Адамовіч!

<...> Крыху яшчэ пра ТАВІЗ. Вы вельмі трапна ахарактарызавалі ягоную існасьць – сапраўды гэта быў супраціў стварэньню пісьменьніцкага калгасу. Гэта зусім не згуртаваньне алкаголікаў. Характэрна, што аднойчы зусім п'яны Ўладзімер Хадыка прыгадаў з Максіма Рыльскага: "Ти випив самагону з кварту і, весь у бруді, п'яний, спиш", а недзе ёсьць "Паэты, сонца і Парыж". Ня менш характэрна, што таксама зусім п'яны Эдуард Самуйлёнак крычаў: "Чаму я мушу эміграваць у Грузію?" Можна прывесьці яшчэ зь дзесятак прыкладаў.

Да нейкае ступені, вельмі невялікае ступені, гэты наш ТАВІЗ нагадвае ясенінска-

**цякомасці, хуткаплыннасці. Іншым разам з яе дапамогай сцвярджаліся нязменныя, спрадвечныя падмуркі быцця. Насуперак выснове Геракліта, які сцвярджаў: "Усё цячэ... Нельга ніколі ўвайсці ў адну і тую ж раку двойчы".**

**Віцьбіч спрабуе ўвайсці ў адну і тую ж раку другім разам. Для яго як існавалі, так і існуюць водны Альгердаў шлях, Валовае возера каля Полацка, Няміга, у іх спрадвечных берагах, у іх неадменным уплыве на лёс Бацькаўшчыны, хай сабе рэальныя рэкі, рачулкі і азёры шматкроць памянялі сваю канфігурацыю або зусім сцерліся з геаграфічнае мапы.**

**Варта было б забяспечыць новае выданне кнігі "Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман" уласнай мапай, накшталт тых, што прыкладаюць да сваіх твораў грунтоўныя ангельскія пісьменнікі. Зрэшты, і ў гэтым выданні, праз сам тэкст як бы праглядаюцца застыглыя, як на мапе, сінія жылы і капіляры. Штось мяняецца ў жыцці гарадоў, вёсак, селішчаў, мястэчак, што спрадвек ляпіліся вакол жыватворнае вільгаці, але водны лабірынт выглядае амаль поўнай канстантай.**

**"Амаль поўнай", кажу я, бо змяняецца колер. Раз-пораз гэтыя капіляры і жылы набрыньваюць крывёю.**

**"У нашым фальклёры кроў заўсёды мае эпітэт – рудая, красная, але ня чырвоная, што пашыралася і на геаграфічныя назовы. Гэтак на Віцебшчыне паблізу павятовага Гарадка цячэ ручай Красінец, які набыў свой назоў пасьля зацятых бітваў, што адбываліся на ягоных берагах у часе Лівонскіх войнаў. За тыя-ж часы найбольшая каменная вежа Верхняга замку ў Полацку набыла назоў Краснае. У тым-жа Полацку, паблізу валу**



 

марыенгофскую "Зойкину квартиру". І тут і там – літаратарская багема, аднак на гэтым падабенства і канчаецца. У нас ТАВІЗ набыў характар ня толькі палітычнага, але й нацыянальнага супраціву, а таму невыпадкова ня сыходзіў з парадку дзённага на партпаседжаньнях.

Прыемна, што ТАВІЗ знойдзе адбітак у Вашай працы.

Пра канец Паўлюка Шукайлы чуў ад ягонага сваяка Самахвалава, які загадваў бібліятэкай у Беларускім Клюбе на Арбаце. Па ягоных словах, Шукайлу прызначылі дырэктарам Інстытуту кінематаграфіі ў Ленінградзе. Прыехаўшы туды, ён, ні з кім не ўзгадніўшы гэтае пытаньне, перайменаваў Інстытут у Акадэмію, а сябе ў прэзыдэнты яе, заказаўшы адначасна адпаведныя бланкі й пячаткі. Сапраўды, усё гэтае вельмі характэрна для Шукайлы, але сумняваюся, каб толькі за гэтае яго расстралялі. Ад Данілы Абакшонка, дырэктара Беларускага Клюбу на Арбаце, чуў, што Шукайлу расстралялі як нацдэма і што да ягонага арышту спрычыніўся Іл. Барашка. Між іншым, гэта той самы Даніла Абакшонак, які зьмясьціў некалькі сваіх апавяданьняў ва "Ўзвышшы" і якога Хв. Шынклер (па словах самога Абакшонка) заўсёды вітаў воклічам: "Здароў, Даніла, што памачыў х... у чарніла".

Дуброўскі, Шукайла і ГПУ. Дуброўскі быў сэксотам, і менавіта за гэтае, але навонкі, бязумоўна, па іншай прычыне, "камуніст" Абакшонак выставіў яго зь Беларускага Клюбу. Усё-ж Абакшонка прымусілі аднавіць Дуброўскага на ранейшай пасадзе. Тым ня менш, праз два тыдні Абакшонак (трэба аддаць яму павіннае) выкінуў Дуброўскага зноў. Шукайла, на маю думку, па самой сваёй натуры не надаваўся на тое, каб стацца сэксотам. Аднак, самаабараняючыся, ён, бязумоўна, мог лёгка знайсьці дзьверы ГПУ.

Шукайла і Зіна Бандарына. "Сувязь" іхняя ёсьць вынаходка Звонака, які за штосьці помсьціўся Бандарынай. Прынамсі добра ведаю, што Бандарына за гэтую вынаходку пры людзях аплявушыла Звонака і хацела прыцягнуць яго да большае адказнасьці. І хаця сама Зіна Бандарына была прыхільніцай "крылатага Эраса", аднак чуткі аб ейнай сувязі з Шукайлам не адпавядаюць сапраўднасьці.

"Выйду я на сенажаць..." Мне цяпер прыгадалася, што калі аднойчы мы ўтрох (Дарожны, Лужанін і я) сядзелі за гарэлкай і Лужанін парушыў між іншым гэтае пытаньне, дык Дарожны амаль хрысьціўся, што аўтарам гэтае эпіграмы ёсьць Міхась Багун. Крыху падобнае на гэтае. Асабліва, калі прыгадаеш, што на зборнік Кляшторнага "Праз шторм на штурм" Багун зьмясьціў у "Чырвонай зьмене" рэцэнзію пад загалоўкам "З дарогі, крот і кракадзіл". Сам Кляшторны не надаваўся на тое, каб за гэтае вылаяць Багуна, але проста з гора бязупынку цэлы тыдзень піў. Сам Шукайла гэтую эпіграму прыгадваў зь пенай на вуснах, таму ня думаю, каб ён быў ейным аўтарам.

Крыху наконт "Літаратурна-Мастацкай Камуны". Сапраўды, найздатнейшым у ёй быў Прыбытак Лад. Мяне хвалюе сумны лёс найвыдатнага Макара Шалая, які таксама належаў да "Камуны", а значыцца, добра вядомы Вам. Мне даводзілася калісьці чытаць ягоныя добрыя творы й рэцэнзіі. Пра яго цяпер там ніхто ня згадвае. І хоць я асабіста яго ня ведаў, але мушу напісаць аб ім.

---

**Ніжняга Замку, мост праз Палату называецца Красным. У 1812 г. на гэтым масту і вакол яго адбылася бітва ратнікаў расейскага генерала Вітгенштэйна з жаўнерамі Сен-Сіра. Сама Палата, у які ўжо раз парудзела ад крыві, а мост празь яе стаўся Красным".**

*На Беларусі вада з крыві,*
*Палеткі з курганоў і крыжоў, –*

**цытуе Віцьбіч радкі паэта-пакутніка Паўлюка Шукайлы, якія Міхась Зарэцкі меўся ўзяць за эпіграф да рамана "Крывічы".**

**Вада ператвараецца ў кроў, творыцца трагічная беларуская эўхарыстыя, у выніку якой, як сцьвярджае Віцьбіч на пачатку твора, паўстае Беларусь, якую мы ведаем: "Нашая нацыя нараджалася ў вагні і крыві, якія потым праходзяць праз усю гісторыю Беларусі ад Менскае Нямігі да Вяліскага Пакроўскага поля. Не дарма для першых БНР-аўцаў наш дзяржаўны сьцяг стаўся бел-крывававогнена-белым. Не выпадкова таксама для першых нацдэмаў аднэй з нацыянальных эмблемаў сталася шыпшына, зь яе нібы крывававогненымі кветкамі і гострымі дзідамі. Не аднойчы нашыя ворагі спрабавалі ўвогуле сьцерці нашае імя з памяці людзтва і з мапы Эўропы. Тым больш ня лічыліся ніколі акупанты з нашымі геаграфічнымі назовамі, спрабуючы заўсёды і ў гэтай галіне зьнішчыць бязь сьледу нашае роднае і накінуць нам чужое".**

**Кажуць, што шчасная доля кожнага народа мусіць аплачвацца крывёю; дык беларусы, паводле Віцьбіча, даўна і з лішкам сплацілі сваю даніну перад гісторыяй. І калі гісторыя не сьпяшаецца вяртаць беларусам пазыку, дык тлумачыць гэта**

 



Між іншым, у "Літаратурна-Мастацкай Камуне" была жалезная шукайлаўская дысцыпліна. Чуў, што аднойчы, калі Менск наведаў Міхаіл Сьвятлоў і наладзіў свой літаратурны вечар, дык шукайлаўцы зьявіліся ў поўным сваім складзе і літаральна затукалі Сьвятлова. На гэты год прыпадае 25-годзьдзе "Літаратурна-Мастацкае Камуны", і я хачу прасіць колішняга ейнага сябра Рыгора Крушыну напісаць пра яе адмысловы артыкул у "Шыпшыну".

Кузебай Герд. Бачыў яго толькі аднойчы і менавіта на тым паседжаньні, якое прыгадваў у папярэднім лісьце да Вас. Чуў, што ва ўдмурцкай літаратуры ён займаў месца, раўназначнае нашаму Янку Купалу. Чытаў ягоныя вершы ў перакладзе на расейскую мову – моцныя і глыбока патрыятычныя. Ад Пятра Глебкі пазьней даведаўся пра ягонае рэпрэсаваньне.

Мне хочацца думаць, што Вы ў сваёй працы не амінеце супраціву беларускіх пісьменьнікаў рэформе беларускага правапісу і ўвогуле русыфікацыі нашай мовы. Акрамя газэтаў, гэты супраціў знайшоў адбітак у кнізе "Акадэмія Навук БССР. Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. Менск. Выд. Беларускай Акадэміі Навук. 1934 г."<...>

*З пашанай да Вас*
*Юрка Віцьбіч*

***Юрка Віцьбіч – айцу Льву Гарошку***
***15 кастрычніка 1950 году***

Дарагі Айцец Леў!

<...> Мяне цікавіць Вашая праца – "Беларускія пісьменьнікі ў адношаньні да Бога". Запраўды, я ў свой час хацеў апрацаваць гэтую тэму і зьбіраў адмысловы матар'ял, але вымушаны быў адмовіцца. У чытача такога артыкулу склалася-б ўражаньне, што пісьменьнікі Ўсходняе Беларусі зьяўляюцца атэістамі, бо ў іхніх творах ніколі не прыгадваецца Бог. Між тым, добра ведаючы ўсходніх беларускіх пісьменьнікаў, сьцьвярджаю, што сярод іх ня было атэістаў, яны былі вернікамі. Проста цэнзура (Белгалоўліт) не прапушчала або амаль не прапушчала нічога пра рэлігію на старонкі друкаваных выданьняў. Вера пісьменьнікаў Усходняе Беларусі насіла катакомбны характар.

Дазвольце прывесьці адзін канкрэтны прыклад. Аднойчы ўвечары ў Менску Ўладзімер Дубоўка і Мікалай Равенскі, паэт і кампазытар, вырашылі па адной пільнай справе наведаць Якуба Коласа. Дайшоўшы да ягонае сьціплае хаты, яны пабачылі, што дзьверы на вуліцу адчыненыя. Яны ўвайшлі ў першы пакой, потым – у другі, нікога не сустракаючы, і нарэшце пачулі скрыпку і пяяньне пад яе. У паўзмрочным вячэрнім пакоі стаяў сьпіной да тых, што ўвайшлі, Якуб Колас і пад акампанемэнт скрыпкі сьпяваў

**можна хіба так, як аўтар гэтых радкоў у сааўтарстве з Ірынай Бурдзялёвай тлумачыў у эсэ "Укрыжаваная Беларусь" (Літаратура і мастацтва", 16 мая 1997 г.).**

**Віцьбіч бачыць два вобразы-сімвалы, якія складаюць гістарычны фатум Бацькаўшчыны: меч і крыж. Яны мрояцца яму паўсюль, нават у тым відовішчы, што пабачыў пад Полацкам халоднай кастрычніцкай ноччу падчас апошняй вайны: "Мяне вакол апанавала цемра, якую высака нада мной перасякалі ў розных напрамках праменьні пражэктараў, але што мне з таго, калі іх цікавіла паднябесьсе, а не зямля. Тым ня менш, каб ня чуцца зусім самотным, я сачыў за іхняй гульнёй ды прыслухоўваўся да гулу самалётаў, якія прыцягнулі сюды, на бадай суцэльнае папялішча свой сьмяротны цяжар. І раптам тое, што я пабачыў, здалося мне цудам. Блукаючы, два прамяні перасякліся паміж сабой, стварыўшы высока над слаўным горадам на небе вялізны крыж, але адначасна блеснуў на зямлі другі крыж, аздоблены лілеямі і дзідамі. Толькі на момант блеснуў ён у беспатольнай цемры, аднак я адразу спазнаў знаёмы мне з маленства крыж Сьвятое Сафіі. Я перахрысьціўся ў той бок, дзе ён блеснуў, і неўзабаве адшукаў свой чарговы і тымчасовы прытулак. Ладне вады з таго часу далучыла Палата да Дзьвіны, іншыя рэкі з чужымі назовамі цякуць цяпер побач мяне, але ўсё-ж хочацца да скону свайго жыцця захаваць у душы той сьвяты, родны незабытны арыентыр".**

**У той час, як мы цярпліва чакаем, пакуль сённяшняя Беларусь сыдзе з наканаванага ёй на стагоддзі крыжа, Віцьбіч, як і іншыя літаратары-эмігранты, мроіць уласную, "паралельную" Беларусь, якая перажыла ўсе дзеі сваёй трагічнай містэрыі і ўвасобілася ў тым хранатопе,**



 

“Колесницегонителя фараона погрузи, чудотворяй мойсейский жезл...”. Заўважыўшы Дубоўку й Равенскага, Якуб Колас вельмі спалохаўся і, адкінуўшы ўбок скрыпку, з дрыготай у голасе сказаў: “Як вы неўзаметку ўвайшлі. Вы нічога ня бачылі і ня чулі. Добра?” Можа пасьля гэтага на другі ці на трэці дзень Якуб Колас напісаў блюзьнерскі верш, але ў той самы вечар у сваім ціхім самотным пакоі Якуб Колас быў самім сабою.

Гэты выпадак датычыць старога паэта, нашаніўца, былога царскага арыштанта. Што патрабаваць тады ад беларускага падсавецкага пісьменьніцкага маладняку? І тым ня менш, гэты маладняк ня быў атэістычны. Не кажу пра Віцьбіча, якому Міхась Клімковіч у сваіх “крытычных” артыкулах закідаў, што “ні адзін герой Віцьбіча ня можа прайсьці паўз крыжа, каб не перахрысьціцца”. Віцьбіч у гэтым ня зусім характэрны. Ён усё-ж сын, унук, праўнук, прапраўнук і г.д. сьвятароў. Але-ж у дзяцей сялянаў забароненая вера ў Бога ішла па іншым рэчышчы. Прыгадваецца адна страфа расейскага паэта Гумілёва, расстралянага бальшавікамі:

*Есть Бог, есть мир – они живут вовек,*
*А жизнь людей мгновенна и убога,*
*Но всё в себе вмещает человек,*
*Который любит мир и верит в Бога.*

І вось у беларускага пісьменьніцкага падсавецкага маладняку ўсмактаная з матчыным малаком вера ў Бога ішла па лініі любові да людзей, да Народу, да Бацькаўшчыны. За гэтую любоў яны амаль усе прайшлі Хрыстосаў Шлях. Калыма, Казахстан, капальні Бэльгіі, аўстралійскія лясы, дзе сёньня пакутуе Алесь Салавей, – іхняя Галгофа. Мая вера ў Бога не дазваляе мне думаць, што Госпад Бог не дараваў Уладзімеру Жылку ягонага блюзьнерскага верша “Альбігоец”. І як усё-ж добра сказаў другі былы савецкі катаржнік Масей Сяднёў:

*Няхай прабачыць мне Магутны,*
*што верыць я раней ня мог.*
*О, так! Я – грэшнік, раб пакуты,*
*я прад Табою на каленях, Бог.*

Дазвольце тымчасам на гэтым скончыць мой ліст, які, магчыма, атрымаўся занадта вялікі. Шчыра зычу Вам усяго добрага. Памаліцеся, айцец Леў, у сваіх малітвах і за мяне, неўгамаванага, якому часам цяжка жыць, але якога заўсёды падтрымлівае вера ў Бога і любоў да Бацькаўшчыны.

*З пашанай Юрка Віцьбіч*

**Лісты друкуюцца паводле выдання: “Архіўная кніга”. Нью-Ёрк, 1997.**

**які падрыхтаваны быў ёй усёй логікай гісторыі, сумай пакутаў і цярпення. Да гэтай Беларусі скіраваныя заблытаныя лініі лабірынта.**

**Дарэчы, пра выхады. У лабірынта іх можа быць некалькі, можа быць адзін-адзіны, можа быць бясконцасць выхадаў і – на постмадэрновы манер – ніводнага. У эсэ Віцьбіча, паўтараюся, класічны варыянт з адзіным выхадам, адзінай ніткаю Арыядны. Эсэіст бярэцца за гэтую нітку – і спрабуе выцягнуць увесь цяжар нашае гісторыі на паверхню сучаснасці.**

**Так у старым паданні пра затанулую царкву рыбак спрабуе выцягнуць на паверхню возера храм разам з вёскаю і прыходам, сотні год таму паглынуты вадой.**

**Уся фактаграфія, усе прыгаданыя “больш за 500 нашых назоваў – гарады, мястэчкі, паасобныя гістарычныя вёскі, гарадзішчы, крушні замкаў, узвышшы, вазёры, рэкі, балоты, пушчы...”, усё гэтае рэчыва выцягваецца аўтарам дзеля аднаго пытання і аднаго адказу на яго.**

**Згаданы вышэй Дж.Дж.Фрэзер напісаў васьмітомнае даследаванне сусветнай міфалогіі і абрадавасці для таго, каб адказаць на пытанне: “Што такое залатая галіна?” І адказаць на апошняй старонцы апошняга тома: “Гэта амяла”. “Дзе пачынаецца Нёман?” – ставіць пытанне Віцьбіч. І адказвае апошнім сказам сваёй кнігі: “Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман”. Але нам зразумела, што насамрэч пытанне ставілася так: “Чым ёсць Беларусь?” І да адказу аўтар прыйшоў уласным шляхам, уласным лабірынтам жыцця і творчасці. Ён ведаў, што ніхто больш не паўторыць гэты шлях. Чытач ведае, што яму ісці да Беларусі ўласным шляхам, праз уласны лабірынт.**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

**Юрка ВІЦЬБІЧ**

# Слуцкі фронт БНР

Ёсьць паміж адвечных сузор'яў зоры-альфы, зоры найбольш вялікія, зоры найбліскучыя і найяскравыя, па якіх калісьці навукоўцы вызначалі лёс народаў і краінаў, зоры, якімі кіраваліся падарожнікі ў акіянах і пустынях у пошуках зямлі й вады. Нам заўсёды прыгадваюцца гэтыя зоры пры ўспаміне аб Слуцкім паўстаньні. Паміж шматлікіх антыбальшавіцкіх паўстаньняў на Беларусі яно зьяўляецца паўстаньнем-альфай. Меліся ў нас паўстаньні і больш колькасныя па ліку змагароў, як Вяліжскае, і ня горш арганізаваныя, як Гомельскае, і ня менш зацятыя, як Парэцкае, Барысаўскае, Івянецкае, Койданаўскае і шмат іншых. Аднак ні адно з гэтых паўстаньняў не адбіла ў такой ступені наш нацыянальны супраціў расейскаму акупанту, як Слуцкае, што пакінула найбольшы, найбліскучы і найяскравы сьлед у гісторыі беларускага вызвольнага змаганьня. Таму нездарма ні адно з нашых паўстаньняў ня сустрэла такога хуткага супрацьдзеяньня з бальшавіцкага боку, як Слуцкае. Бальшавікі з самага пачатку хацелі зьліквідаваць яго праз сваю агентуру знутры, яны потым абвалілі на яго ўсю сваю рэпрэсіўную сілу, яны нарэшце дагэтуль прабуюць у сваёй літаратуры усяляк зганьбіць яго.

Случчына знаходзіцца ў цэнтры этнаграфічнай Беларусі і амаль поўнасьцю ахоплівае былы Слуцкі павет Менскай губерні. Яна ляжыць на ўзвышаным водападзеле басэйну Балтыцкага й Чорнага мораў – паўночную частку яе амывае апеты ў беларускім фальклёры й мастацкай літаратуры гістарычны Нёман, на поўдзень цякуць маляўнічыя рэкі Лань і Случ, левыя прытокі Прыпяці. Глеба тут найбольш урадлівая з усёй Беларусі. Глiністая, яна вельмі цяжкая для апрацоўкі, аднак, адначасна, аддзячвае земляроба багатым плёнам.

Маючы такія ўраджаі, ня ведаючы да таго-ж засух і паводак, Случчына вызначалася вялікім працэнтам заможных сялян. Нездарма ёсьць і прыказка: "У Слуцку ўсё па-людску", супрацьлеглая другой, ня менш характэрнай: "Кепска каля Віцебску, а ля Воршы 'шчэ горшы".

Заможная Случчына амаль уся была пісьменная. Паказальна, што мястэчка Семежава, дзе ў далейшым канцэнтраваліся галоўныя сілы паўстанцаў, ужо ў 1868 г. мела народнае вучылішча, а значна раней – царкоўна-прыходскую школу. І не адна вобласьць Беларусі не дала столькі пісьменьнікаў, як Случчына. Адсюль паходзяць: аўтар першага беларускага рамана Цішка Гартны, пісьменьнікі-нашаніўцы Хведар Чарнышэвіч, Алесь Гурло, Лявон Лобік і іншыя. Тут нарадзіўся й быў у 1920 годзе расстраляны бальшавікамі Фабіян Шантыр – аўтар кнігі на беларускай мове "Патрэбнасьць нацыянальнага жыцьця для беларусаў і Самаадзначэньня народу" (Слуцак, 1918). Адсюль выйшлі больш позьнія пакаленьні пісьменьнікаў – Адам Бабарэка, Кузьма Чорны, Максім Лужанін, Рыгор Мурашка, Паўлюк Шукайла, Юрка Гаўрук, Алесь Вечар, Рыгор Крушына, Міхась Кавыль, Уладзімер Клішэвіч, Лявон Случчанін, Янка Золак і многія, многія іншыя. Зразумела цяпер,

# РЭГІСТРАТАР ГНЕВУ

**Нягледзячы на быццам бы блізкую адлегласць у часе, перыяд пасля разгрому БНР і да пачатку 30-х гадоў дагэтуль – цёмная пляма. На ўвазе маецца праўдзівасць яго адлюстравання даследчыкамі. Менавіта Юрка Віцьбіч шмат зрабіў у гэтым напрамку сваёй кнігай "Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі", выдадзенай у 1996 годзе Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.**

**З кнігай давялося азнаёміцца амаль год назад, і прачытанае трывала залягло ў памяць. Дый чаму б не, калі з пачатку дваццатых мінула ўжо тры чвэрці стагоддзя, і самога аўтара гэтай кнігі даўно няма ў гэтым свеце, а ў размовах людзей сталага веку час ад часу ўсплываюць зарэтушаваныя гадамі рэмінісцэнцыі тых падзей. Вось і я не раз чуў пра Булак-Балаховіча, Юрку Моніча, Сцяпана Тарасевіча і іншых.**

**На Барысаўшчыне памятаюць пра іх, нават пра латыша Бенгера неяк даводзілася чуць усякае. Але толькі праз кнігу Юркі Віцьбіча цьмяныя абрысы тых падзей набылі акрэсленае ўяўленне. Сам родам з Барысава, я ўпершыню даведаўся пра паўстанне ў горадзе ў 1919 годзе, пра галодны бунт у 1933 годзе і шмат іншых падзей. Да самай смерці ў 1975 годзе Юрка Віцьбіч збіраў найкаштоўнейшыя зацемкі ўдзель-**

чаму Случчына з такім патрыятычным уздымам сустрэла Акт 25 сакавіка 1918 году, які абвясьціў незалежнасьць Беларускай Рэспублікі. Зразумела таксама, чаму яна са зброяй у руках змагалася за ягонае ажыцьцяўленьне.

Яшчэ ў 1918 годзе, пад нямецкай акупацыяй, у Слуцку быў арганізаваны Беларускі Нацыянальны Камітэт на чале з старшынём Паўлам Жаўрыдам, які адразу прыступіў да ўстанаўленьня беларускай дзяржаўнасьці на мясцох. Гэты Камітэт у цесным кантакце з патрыётамі мястэчка Вызна стварыў у кожным населеным пункце мясцовыя рады. Адначасна сярод местачкоўцаў і вяскоўцаў вялася настойлівая агітацыйная работа, заклікаючы ўсіх стаць пад сьцягі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і даць адпор яе ворагам. Гэтыя захады не прапалі марна.

У сьнежні 1918 г. Случчыну занялі бальшавікі. Першы-ж дзень свайго прыходу яны адзначылі ліквідацыяй Беларускага Нацыянальнага Камітэту і арыштам ягонага старшыні. Варта прыгадаць, што значная частка зямлі на Случчыне належала магнатам, такім, як князь Радзівіл, княгіня Гогенлоэ, князь Вітгенштэйн і інш., аднак бальшавіцкі лёзунг "Зямля – сялянам!" ня сустрэў на мясцох гарачай патрымкі. Верагодна, случчакам быў ведамы іншы, больш дэмакратычны мэтад вырашэньня аграрнай праблемы, які карэнным чынам адрозьніваўся ад савецкага, аднак яны ў той час ня мелі трывалага грунту пад нагамі. Імкнучыся замацаваць за сабою ўладу, бальшавікі арганізавалі на добраахвотных пачатках зь мясцовых жыхароў – беларусаў, габраяў, рускіх, татараў – Слуцкі Зводны Батальён. Гэта той самы батальён, што, як ужо адзначалася, чатыры дні – 1,2,3 і 4-га красавіка 1919 г. – змагаўся з Трэцім Менскім палком ЧК, пасланым для ліквідацыі Мірскага паўстаньня.

10 жнівеня 1918 году Слуцак занялі палякі, захапіўшы адначасна значную частку Беларусі. Павел Жаўрыд уцёк з бальшавіцкай турмы і зноў аднавіў у Слуцку Беларускі Нацыянальны Камітэт, які пачаў дзейнічаць падпольна. Шматлікія рэквізыцыі, паборы, грабяжы, падпалы, гвалтаваньні й забойствы адзначылі сабою ўладу Białego orła. Згодна з больш позьнімі зьвесткамі, у дзесяці воласьцях Слуцкага павету было спалена 323 гаспадаркі, рэквізавана 469 коней, 2260 кароў, 2199 авечак, 974 сьвіньні, забрана 784 падводы, забіта 33 асобы. Случчына адказала на новы прыгнёт партызанскім рухам. Да вясны 1920 г. слуцкія партызанскія аддзелы мелі каля тысячы чалавек. Яны рабілі засады, забівалі жандараў і афіцэраў, разьбівалі невялікія атрады палякаў, нарыхтоўвалі зброю. Карныя атрады палякаў наляталі на мястэчкі й сёлы Случчыны. Слуцак быў аб'яўлены на асадным становішчы. Звыш ста случчакоў было арыштавана. У ноч на 23 красавіка польскія легіянеры нечакана акружылі мястэчка Грэсак і захапілі 14 партызанаў. Раніцою партызаны пад узмоцненым канвоем былі адпраўленыя ў Слуцак. 24 красавіка ваенна-палявы трыбунал прысудзіў усіх 14 "за здраду і змову супраць войска польскага" да расстрэлу.

Асабліва жорстка палякі абыходзіліся з габраямі: адсякалі шаблямі бароды, гвалтавалі дзяўчат, забівалі старых і дзяцей. І.Лочмель, які падае гэтыя зьвесткі, завяршае іхні пералік паведамленьнем, што слуцкія партызаны "рыхтавалі ўзброенае паўстаньне да мамэнту наступу Чырвонай арміі". І гэта таксама верагодна, аднак узьнікае пытаньне: толькі супраць каго яны рыхтавалі гэтае паўстаньне?

**нікаў тых далёкіх падзей, іх успаміны пра Слуцкі збройны чын, Вяліжскае, Дабранскае, Койданаўскае, Мірскае і многія іншыя паўстанні. Дарэчы, аўтар у трынаццаць гадоў, гімназістам, сам быў удзельнікам Вяліжскага паўстання.**

**Віцьбіч усё сваё жыццё ў эміграцыі паралельна заняткам, так бы мовіць, чыстай літаратурай, спяшаўся занатаваць словы тых, хто ведаў праўду. Гэтым яго прыёмам паспяхова карыстаецца цяпер такая цікавая і вядомая ў свеце пісьменніца, як Святлана Алексіевіч. Ахвярная работа пісьменніка ў той час была, быццам, малаўдзячнай. Яго сведкі пры бальшавіках мусілі захоўваць маўчанне. Але парадаксальна, што тым больш каштоўнымі сталі іх успаміны, бо яны былі нібы закансерваваныя і не кранутыя чужымі і ўласнымі прыпіскамі і фантазіямі. На старонках кнігі шмат найцікавейшых успамінаў і падзей, калі ўсю гэтую грымучую сумесь гневу і гора можна называць цікаваю.**

**Вось, прыкладам, пра Бенгера. Быў барысаўскім ваенкамісарам, расстрэльваў на Батарэях (фартыфікацыйныя збудаванні часоў руска-французскай кампаніі) паўстанцаў. Але за нейкае парушэнне (у Барысаве ўспамінаюць, быццам у гэтым была задзейнічаная жанчына) быў зняты з пасады і пераведзены дробным функцыянерам у Халопенічы. Яшчэ праз месяц прыехалі з Барысава чэкісты, каб арыштаваць яго за нейкія грахі, але ён уцёк у лес. Потым, лічы, ніхто так не здзекаваўся з тых жа чэкістаў і камуністаў, са сваіх былых сябрукоў, як Бенгер. Праз некалькі гадоў ляснога супраціву ён знік, і сляды яго згубіліся ўвогуле. А вось**

## Юрка ВІЦЬБІЧ

У ліпені 1920 г. бальшавікі занялі Случчыну падчас свайго наступленьня на Польшчу, аднак 15 жніўня пад Варшавай яны былі ўшчэнт разьбітыя і пачалі адступаць. Палякі-ж наступалі марудна, баючыся, напэўна, адарвацца ад сваіх базаў і паўтарыць такім чынам аналягічную памылку бальшавікоў. У выніку паміж двума франтамі ўтварылася паласа "нічыйнай" зямлі, шырынёю ад 50 да 200 кілямэтраў, у якой аказалася і Случчына. На пачатку лістапада палякі спыніліся на лініі, якая і стала праз год адпаведна з Рыжскім дагаворам граніцай паміж БССР і Польшчай, а бальшавікі пачалі зноў наступаць, звужаючы паласу "нічыйнай" зямлі. Аднак гэтая тэрыторыя зусім ня была "нічыйнай" зямлёю, а – Беларусьсю. Менавіта тады і выбухнула Слуцкае паўстаньне.

14 лістапада 1920 г. у "нічыім" Слуцку – цэнтры "нічыйнай" Случчыны – адбыўся Першы Беларускі Зьезд Слуцкага павету. Тут, у доме Вайніловіча, сабралася 107 дэлегатаў ад гораду Слуцку і 15 воласьцей ягонага павету, прадстаўнікі генэрала Булака-Балаховіча, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту Паўлюкевіч. Старшынёй зьезду быў выбраны Васіль Русак, намесьнікам – Пракулевіч. Пасьля адкрыцьця зьезду і прывітаньняў дэлегатаў на трыбуну, упрыгожаную нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі, падняўся добра ведамы ўсім Павел Жаўрыд. Ён абвесьціў, што прыехаў сюды па даручэньню ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі як камісар Рады БНР на Слуцкі павет. Гучныя дружныя воплескі былі доказам павагі і адданасьці дэлегатаў свайму ўраду. Потым Павел Жаўрыд заявіў, што падчас ягонай адсутнасьці, калі ён быў выкліканы ўрадам БНР, ягоны намесьнік Паўлюкевіч у сваёй дзейнасьці не адзін раз выявіў прапольскія сімпатыі і гэтым страціў давер з боку беларускіх патрыётаў. На зьездзе выступілі дзесяць дэлегатаў: В.Русак, капітан Анціповіч, капітан Самусевіч, Юры Лістапад, Юльян Сасноўскі, Г.Грынько, Ю.Бусел і інш. Зьезд выдаліў із залі свайго паседжаньня Паўлюкевіча і выбраў Часовую Раду Случчыны з 17 чалавек на чале зь беларускім эсэрам Пракулевічам. Усебакова й дакладна абмеркаваўшы становішча, зьезд прыняў наступную рэзалюцыю:

"Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае Галоўную Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супраць захопу нашай Радзімы замежнай і самазванай савецкай уладай. Няхай жыве свабодная, незалежная Беларускай Народная Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!"

Неўзабаве пасьля зьезду, 21 лістапада, Рада Случчыны абнародвала дэклярацыю, у якой гаварылася:

"У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада Случчыны выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету пра дамаганьні і намеры беларускага сялянства, пра тое, што Беларусь павінна быць вольнаю незалежнаю Рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы гэта і зьяўляючыся выразьнікам волі народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў, а ў выпадку патрэбы нават сілай зброі, нягледзячы на колькасную перавагу ворага, маючы ўпэўненасьць, што нашая справа – праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе".

Яшчэ вечарам 14 лістапада, адразу-ж пасьля зьезду, які працягваўся ў сувязі з

---

**цікавыя факты пра Булак-Балаховіча. У 1937 годзе бацька Булак выехаў у Іспанію, дзе ваяваў на баку генерала Франка. Атрымаў узнагароды за гераізм. У 1939-м удзельнічаў у абароне Варшавы ад немцаў. А скончыў жыццё ў Празе, дзе быў забіты невядомымі напачатку саракавых гадоў.**

**Кніга Юркі Віцьбіча ўражвае шчырасцю чалавечых споведзяў, праўдзівасцю інфармацыі, якая адразу адчуваецца спрактыкаваным даследчыкам. Пісьменнік не ідэалізуе паўстанцаў і партызанаў, не хавае выпадкаў жорсткасці, антысемітызму, праліцця крыві невінаватых.**

**Праз усю эпапею ўспамінаў, сабраных Віцьбічам, праходзіць і яшчэ адна, малапрыкметная, на першы погляд, апавядальная нітка: пра ролю тагачаснай Польшчы ў падзеях 20-х гадоў на Беларусі – пра няспраўныя трыста карабінаў, прададзеныя слуцкім паўстанцам, пра выдачу іх, паўстанцаў, бальшавікам, пра здрадніцтва, меркантылізм і г.д. Тое, што пазней адзначаў і Ю.Туронак у сваіх працах пра В. Іваноўскага і Беларусь у часы нямецкай акупацыі.**

**Найбольшая вартасць кнігі – сведчанні ўдзельнікаў падзей, якія раскрываюць покрыў таямніцы над морам узброеных хваляванняў на Беларусі і распавядаюць пра лёс іх удзельнікаў і важакоў.**

**У сваёй працы Юрка Віцьбіч меў на ўвазе і яшчэ адно: разбурэнне міфа пра памяркоўнага, прыгнечанага, забітага беларуса. Што яму і ўдалося даказаць шматлікімі фактамі відавочцаў.**

**Юры СТАНКЕВІЧ**

ваенным становішчам толькі адзін дзень, ягоныя дэлегаты выехалі ў вёскі й мястэчкі па воласьцях: Грозаўскай, Грэскай, Пароўскай, Раманаўскай, Чапліцкай, Быстрыцкай, Старобінскай, Вызьненскай, Капыльскай, Цімкавіцкай і інш. Яны пачалі падрыхтоўку ўзброенага паўстаньня, знаёмячы сялянства з рэзалюцыяй зьезду, а пазьней – з дэклярацыяй Рады Случчыны. Прамовы, звароты, рэзалюцыі й дэклярацыі з энтузіязмам успрымаліся кожным случчанінам, глыбока пранікаючы ў ягонае сэрца. З патаемных сховаў сяляне пачалі даставаць зброю, ужо не адзін раз выкарыстаную імі ў мінулым. У вёсках і мястэчках вакол мясцовых радаў узьніклі ўзброеныя аддзелы, ядром якіх стала Слуцкая народная міліцыя ў ліку 500 байцоў. Дзяўчаты запісваліся ў Чырвоны Крыж і вучыліся рабіць перавязкі. Жанчыны зьбіралі палатно, шылі для сваіх салдатаў бялізну, кашулі, а з найбольш тонкага кужалю рабілі бінты і шчыпалі яго на корпію замест ваты. Яны-ж вышывалі на нацыянальных бел-чырвона-белых сьцягох словы: "Тыя, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

Мацеры, заціскаючы ў сабе мацярынскі інстынкт і сьлёзы, бласлаўлялі дзяцей на ратны подзьвіг, гаворачы пры гэтым: "Трымайцеся, хлопцы!" Яны былі дастойныя тых ведамых па ўсёй краіне слуцкіх прыгонных ткачых, што, як сказаў Максім Багдановіч, ткалі замест загаданага ім персідскага ўзору "цьвяток радзімы васілька".

Аднак пяройдзем ад кволых рамантычных васількоў да суворай мужнай рэчаіснасьці. Тымчасам на фронце й на межах "нічыйнай" зямлі адбыліся зьмены. Палякі пачалі адступаць, а бальшавікі, відавочна, інфармаваныя пра гэта сваёй разьведкай, паскорылі тэмп наступленьня, аднак пазьбягалі непасрэднага сутыкненьня з палякамі. Яны ўжо занялі чыгуначную станцыю Асіповічы і мястэчка Старыя Дарогі, іхнія перадавыя часткі, ня сустрэўшы ніякага супраціву, падышлі да мястэчкаў Любань і Ўрэчча, калі вайсковае камандаваньне Рады Случчыны загадала 24 лістапада сваім воінскім аддзелам, яшчэ не пасьпеўшым за такі кароткі час сфармавацца, пакінуць Слуцак і адысьці да мястэчка Семежава. Гэтае адступленьне яшчэ дыктавалася тым меркаваньнем, што і ў самім Слуцку меліся прасавецка-настроеныя групы насельніцтва, якія былі небясьпечныя для абаронцаў гораду падчас наступу бальшавікоў.

Яшчэ бальшавікі не пасьпелі захапіць пакінуты бяз бою Слуцак, як у Семежава на працягу трох дзён сабралася дзесяць тысяч узброеных паўстанцаў. Спачатку зь іх быў сфармаваны Першы Беларускі Слуцкі полк пад камандаваньнем палкоўніка Гаўрыловіча. На другі дзень аформіўся Другі Беларускі Грозаўскі полк, укамплектаваны пераважна моладзьдзю мястэчка Грозаў, камандаваньне гэтым палком было даручана капітану Семянюку. Названыя два палкі ўвайшлі ў склад Першай Беларускай Слуцкай Дывізіі, камандзірам якой быў спачатку капітан Анціповіч, а потым – капітан Сокал-Кутылоўскі. Трэба адзначыць, што палкі дзяліліся на батальёны, роты, узводы, аддзелы, адпаведна з колькасьцю кваліфікаваных беларускіх афіцэраў пры іх.

27 лістапада Першая Слуцкая Дывізія ўвайшла ў баявое сутыкненьне з бальшавікамі. Баі разгарнуліся каля вёсак Быстрыца, Верабейчыцы, Васільчыцы, Чарнагубава, Васілішкі, Дашнава, Лютавічы, Мацкевічы, Морач, Целядовічы і інш., каля мястэчак Капыль, Цімкавічы, Вызна і інш. Нечакана для сябе 16-ая чырвоная армія сутыкнулася з фронтам, які расьцягнуўся на сто кілямэтраў. Барацьба была няроўная, і ў гэтай няроўнасьці

# І МЫ ІДЗЁМ ДАЛЕЙ!

**Такою ж, як цяпер, глыбокай восенню, у самую халепу, да нас у хату завітаў, вяртаючыся з абходу, мясцовы аб'ездчык з прозвішчам, бы ў нашай бабулі Фросі, – Кунцэвіч, але не сваяк. Сядзеў на ўслончыку, як і ўвайшоў, у чорнай паддзёўцы, абвешанай з аднаго боку планшэтам з паперамі, а з другога – патранташам, і распавядаў пра розныя паляўнічыя здарэнні, адно за другое вусцішнейшае. Бацька, рады такой парой любой гаворцы, сядзеў па другі бок стала пры акне, ахвотна слухаў тыя расповеды, час ад часу торгаў па сваёй звычцы знізу ўверх галавой, запрашаючы госця да чаркі і скваркі, і пазіраў у мой бок. Я слухаў дзядзьку Кунцэвіча як самага праўдзівага на свеце чалавека, жыва ўяўляючы старога дзіка, што раз'юшана кінуўся на паляўнічых, а потым нерухома ляжаў у іх нагах; лёгкую ў лёце касулю, што ўпала наўколенцы пасля стрэлу, бы спатыкнулася; лясную вёсачку з дзіўнаю назваю Восы-Калёсы, дзе ўсё адбывалася. А як было не верыць, калі ў кутку куханькі, за спінаю дзядзькі,**

 



найбольшы гераізм случчакоў. Насьпех сфармаваная беларуская дывізія каля месяца стрымлівала націск бальшавіцкай арміі. І ня толькі стрымлівала, але і пераходзіла ў контратакі, вызваляючы мястэчкі й вёскі. Так былі адбітыя ў бальшавікоў мястэчка Цімкавічы й навакольныя вёскі. Бальшавікі мелі значныя страты забітымі і параненымі. Акрамя таго, пасьля адозваў Рады Случчыны некаторыя з прымусова мабілізаваных чырвонаармейцаў пачалі здавацца ў палон або далучацца да паўстанцаў, павярочваючы сваю зброю супраць бальшавікоў. Гераізм паўстанцаў у гэтай няроўнай барацьбе яшчэ не знайшоў нідзе адлаведнага адлюстраваньня. Некаторыя часткі Грозаўскага палка ў баёх каля мястэчка Вызна загінулі поўнасьцю – да аднаго чалавека. Менавіта тут атрымаў баявое хрышчэньне ваенны гімн паўстанцаў, які стаў пазьней беларускім нацыянальным гімнам:

*Мы выйдзем шчыльнымі радамі*
*На вольны родны свой прастор.*
*Хай воля вечна будзе з намі,*
*А гвалту мы дамо адпор!*

Ці знала ў той час Эўропа, што ўзброеныя слуцкія сяляне самаахвярна паміралі за сваю Бацькаўшчыну – Беларусь, а значыць, і за яе?! Выконваючы наказ сваіх матак: “Трымайцеся, хлопцы!” – і свайго ўраду – Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, яны стаялі на запаветных рубяжох і паміралі, сьцякаючы крывёю.

Калі бальшавікі падкінулі на фронт інтэрнацыянальныя атрады, што складаліся выключна зь небеларусаў, і тыя пачалі абыходзіць беларусаў з флангаў, Слуцкая Дывізія, каб пазьбегнуць акружэньня, адышла на другі бераг Лані. Адсюль зь невыказным болем паўстанцы бачылі, як гараць іхнія родныя вёскі й мястэчкі, падпаленыя чырвонымі карнымі атрадамі. Ужо адсюль паўстанцы некалькі разоў ішлі ў контратаку, аднак стрымаць бальшавіцкі фронт не маглі. “Нічыйная зямля” распасьціралася цяпер толькі на некалькі тысячаў крокаў.

28 сьнежня 1920 году Першая Беларуская Слуцкая Дывізія, празь месяц пасьля пачатку ўзброенага паўстаньня, вымушаная была перайсьці польскую граніцу. Ня месяц, а 30 добаў, ня 30 добаў, а 720 гадзінаў, ня 720 гадзінаў, а 43200 хвілінаў насьпех сфармаваная і кепска ўзброеная дывізія, сьцякаючы крывёю ў няроўным змаганьні, стрымлівала націск усяе 16-ае чырвонае арміі. Калі ў пачатку змаганьня “нічыйная зямля” паміж дзьвюма зонамі, дзе яно выбухнула, мела ўшыркі сто дваццаць кілямэтраў, дык у канцы яго “нічыйная зямля”, а для слуцкіх паўстанцаў – сьвятая зямля, за якую варта сто разоў памерці – Незалежная Беларусь, – мералася тысячай крокаў. І хай сабе тысяча крокаў – яны стаялі й паміралі. Нарэшце пасьля няўдалых лабавых атакаў бальшавікі падкінулі на фронт інтэрнацыянальныя атрады. Яны пачалі абыходзіць беларусаў з флангаў, і Дывізія, каб пазьбегнуць акружэньня, пакінула апошнюю цалю свае зямлі.

Першая Беларуская Слуцкая Дывізія была занадта беларуская, каб аўтаматычна ўвайсьці ў склад польскае арміі. Нарэшце і самыя палякі засьцерагаліся, каб полымя

---

**стаяла, бы чапяла ў качарэжніку, паблісквала варанёнаю руляю ружжо-аднастволка! Устаць бы тады з бярэмы бярозавікаў пры печы, падысці б да дзядзькі ды папрасіць патрымаць тую грозную зброю, але мне ішоў усяго пяты гадок, і я быў паслухмяны, свойскі хлопчык.**

**Сёння, калі думаю пра беларушчыну, што гэта такое, заўжды згадваю той даўні малюнак, тыя расповеды, прыгоды, фантазіі, у якіх праўды больш, чым у іншым рэальным факце. Тады я інакш адчуваю глыбіню скарынаўска-евангельскай метафары пра птушак, што шукаюць гнёзды свая, рыб, што ведаюць норы свая, і пчол, што бароняць вуллі свая. Я добра тады разумею, як самога сябе, шляхціца Завальню, дзядзьку Антося і малога Кастуся, Лявона Задуму, Міхалку Тварыцкага, Апейку, Міцю Корсака – літаратурных герояў нашых класікаў, якія персаніфікуюць беларускую ідэю і заўсёды шчымліва, усёю істотаю, пазнаюцца. У дашкольнае мінулае, калі савецкасці было найменш, мяне вяртаюць сёння многія творы Я.Брыля, У.Караткевіча, М.Стральцова, І.Пташнікава, А.Кудраўца, Я.Сіпакова, абразкі С.Яновіча, Ф.Янкоўскага... Апошнім часам адкрыў для сябе яшчэ адзін спосаб вяртання ў былое – чытаючы творы эмігрантаў: яны як бы закансервавалі ўсё такое знаёмае, блізкае душы, у чым чуецца Беларусь, беларускі дух, што столькі**



 

Слуцкага паўстаньня не ахапіла сабою кагадзе захопленую імі Заходнюю Беларусь. Каля вёскі Сіняўка палякі абяззброілі і інтэрнавалі Слуцкую Дывізію, а потым перавялі яе ў Беласток. Аднак ня ўсе паўстанцы склалі зброю. Частка зь іх, амінуўшы варожыя флангі, адразу падалася ў лясы бліжэйшага бальшавіцкага тылу і распачала партызанскае змаганьне, якое мела актыўны характар. Толькі адным зь ягоных эпізодаў была пагібель на Мікалаеўскіх хутарох Цароўскае воласьці бальшавіцкага камісара Цыганкова разам з усім сваім атрадам. А тыя, што спачатку трапілі ў акупаваную палякамі Заходнюю Беларусь, праз некаторы час вярнуліся, аднак не дзеля таго, каб скарыстаць з савецкае амністыі, а каб далей працягваць узброенае змаганьне, далучаючыся да тых беларускіх партызанаў, пра якіх афіцыйная савецкая зводка паведамляла:

"Да 1 травеня 1921 году ў БССР (у той час 6 паветаў Менскай губэрні – *Ю.В.*) налічвалася прыблізна каля тысячы бандытаў (гэтак бальшавікі называлі антыбальшавіцкіх партызанаў – *Ю.В.*), да паловы травеня гэтая колькасьць падвоілася, а пад 1 чэрвеня лік іх дасягнуў трох з паловаю тысячаў, прычым каля сотні кавалерыстаў".

Другая частка слуцкіх паваротнікаў не пайшла ў лес. Яна ўвайшла ў гісторыю пад назовам лістападаўцаў, працэс якіх адбудзецца ў 1926 г. У Менску.

Звычайна прынята лічыць лістападаўцаў і працэс Юрыя Лістапада апошняй завяршальнай старонкай Слуцкага паўстаньня, што не адпавядае сапраўднасьці. Шэсьць збыткоўных падзеямі гадоў ляжаць паміж Слуцкім паўстаньнем і працэсам Лістапада. За гэты час у краіне, пасьля шэрагу іншых няўдалых паўстаньняў і няроўнага, часам самазабойчага партызанскага змаганьня, антыбальшавіцкі рух набыў іншую, больш адпаведную для часу форму. Ён пайшоў, галоўным чынам, у напрамку стварэньня нелегальных арганізацыяў, групаў, гурткоў, і лістападаўцы аднымі зь першых прыстасавалі ў змаганьні з бальшавікамі гэтую новую тактыку. Менавіта таму яны зьяўляюцца не апошняй старонкай адкрытага ўзброенага Слуцкага паўстаньня, а першай старонкай у гісторыі падпольнага нацыянальнага руху. Лістападаўцы – авангард нацдэмаў – і сталіся гістарычнай повязьзю паміж паўстанцамі і нацдэмамі.

Праз год пасьля Слуцкага паўстаньня 25–28 верасьня 1921 г. у Празе адбылася скліканая Радай БНР Першая Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада. На старшыню яе быў абраны А.Цьвікевіч, на віцэ-старшыню – В.Захарка, на сакратара – С.Баран. Дзейнасьць гэтае нарады досыць трапна ахарактарызаваў пазьней шматгадовы старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР А.Чарвякоў, зазначыўшы, што "яна зьяўлялася сыгналам для далейшага змаганьня супраць Саветаў". У пратаколе трэцяга паседжаньня гэтае гістарычнае Нарады ад 28 верасьня 1921 году засьведчана:

"...На галасаваньне ставіцца рэзалюцыя аб Слуцкім паўстаньні. Рэзалюцыя адзначае, што найяскравым мамэнтам у чатырохгадовым змаганьні беларускага народу зьяўлялася Слуцкае паўстаньне, калі беларусы, змагаючыся за сваю незалежнасьць пад лёзунгам: "Ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў", былі пераможаныя больш значнымі сіламі абодвух бакоў".

Далей у гэтым самым пратаколе зазначаецца, што "Доктар Паўлюкевіч складае свой

**часу так вынаходліва вынішчалася, вытручвалася з памяці народа. "Неперспектыўныя" вёскі, іх назвы, што гучаць, як музыка, рэчы славянскага побыту, слоўца за слоўцам – і вось мы ўжо стаім, як пагарэльцы на папялішчы, са спустошанаю душою – савецкія беларусы, ад якіх толькі і засталося беларускага, што незнішчальнае аканне, дзеканне і цеканне, абачлівасць цюцькі, якому паддалі насцака пад рэбры, і смяротная туга ў вачах асуджанага да смерці.**

**Чаму так добра кладзецца на душу прачытанае, скажам, у апавяданнях, нарысах, публіцыстыцы Юркі Віцьбіча, тых, якія ў нас можна адшукаць? Ды, мусіць, таму, што мы і самі цяпер мала падобныя на гаспадароў сваёй зямлі, а больш – на эмігрантаў: вакол гучыць чужая мова, якой стае, каб выказаць тыя стодзвесце паняццяў, што з'яўляюцца элементарнымі, а некаторым, кажуць, досыць і двух-трох нецэнзурных слоў – яны ў іх замяняюць і**

**назоўнікі, і прыметнікі, і дзеясловы! А для душы, дзеля сардэчнага паразумення, братэрскага паяднання, чалавечых узаемадачыненняў патрэбна мова, якая ўмяшчае ў сабе ўсё гэта і шмат чаго іншага, нявыказанага, глыбіннаінтымнага, сутнаснага. "Ейнае імя ведаеце сёньня толькі вы адны. Часам, у гадзіны падарожжа, вы радасна ўздрыгнецеся, заўважыўшы наперадзе знаёмыя постаць і хаду. Вы мімаволі прысьпяшаеце крок і, па-**

пратэст супраць першае часткі адзначанага ў рэзалюцыі лёзунгу і, падкрэсьліваючы, што паўстанцы ўвесь час атрымлівалі дапамогу зброяй ад палякаў, просіць выкінуць словы "Ні польскіх паноў".

Пэўне-ж Паўлюкевічу здавалася, што і Рада БНР і сябры Першае Нарады згубілі ўсялякую лучнасьць з Бацькаўшчынай і ня ведаюць, што ўяўляла сабою польская дапамога. Пэўне-ж Паўлюкевічу таксама здавалася, што ніхто з прысутных ня ведае, як яшчэ перад паўстаньнем 14 лістапада 1920 г, Першы Беларускі Зьезд Случчыны выказаў яму свой недавер і нават выдаліў з таго самага паседжаньня, на якім трымаў прамову камісар Рады БНР Павал Жаўрыд. Пэўне-ж Паўлюкевіч ніколі-б не адважыўся выказаць свой пратэст у часе паўстаньня, бо рызыкаваў-бы дастаць на месцы кулю ад тых, хто ўвачавідкі бачыў дапамогу Польшчы. Нарада ў самы рашучы спосаб адхіліла пратэст Паўлюкевіча. Можа каму-небудзь зь ейных сяброў гэты пратэст Паўлюкевіча здаваўся ў той час толькі і вылучна прапольскім. Аднак ён таксама цалкам пацьвярджаў савецкія абвінавачваньні ў тым, што слуцкія паўстанцы ёсьць "агентура польскага імпэрыялізму". Нарэшце ў 1928 годзе палёнафіл Паўлюкевіч атрымлівае ад польскага вайсковага суда 12 гадоў катаргі. Ён будзе выкрыты ў падвойнай гульні. Зьяўляючыся агнетам польскага контрвыведу, ён адначасна быў і агентам савецкага контрвыведу. Тады толькі станецца канчаткова зразумелымі сталыя спробы Паўлюкевіча падмінаваць беларускі вызвольны рух мінамі часам польскага, часам расейска-савецкага паходжаньня. І хаця ён сам падарваўся на аднэй з гэтых мінаў, аднак савецкія абвінавачваньні слуцкім паўстанцам, нібы тыя зьяўляюцца польскімі наймітамі, патрабуюць падрабязнага разгляду.

Як сьведчыць А.Зюзькоў, у пратаколе пленарнага паседжаньня Рады Случчыны ад 30 сьнежня 1920 г. адзначана: "...за ўвесь час ад пачатку паўстаньня знясіленым у змаганьні з колькасна мацнейшым савецкім акупантам, напаўгалодным, напаўбосым, узброеным толькі трафеямі, здабытымі ў баёх, беларускім войскам былі атрыманыя ад Польшчы: 100 пудоў хлеба ад цывільных уладаў, 300 карабінаў з патронамі і 3 палявыя кухні ад вайсковых часткаў". Калі ўлічыць, што Слуцкая Дывізія налічвала дзесяць тысяч змагароў, дык адразу кінецца ў вочы ўся беспадстаўнасьць пратэсту Паўлюкевіча й сугучных зь ім бальшавіцкіх абвінавачваньняў. Кожны былы ўдзельнік Слуцкага паўстаньня пацьвердзіць, што з 300 карабінаў 200 мелі пашкоджаныя мушкі, а 100 – зусім іх ня мелі: гэта была вайсковая непатрэбшчына, небясьпечная толькі для таго, хто яе ўжывае. А хіба не зьяўляліся таксама 100 пудоў хлеба на дзесяць тысяч чалавек зьдзекам з сыноў беларускае жытніцы Случчыны, гаруды якой перад гэтым цалкам апаражнілі палякі? Аднак нават за гэтую дробязь Беларусь нічым не забавязаная Польшчы, бо ў той час Слуцкая Дывізія да некаторае ступені засланяла сабою пэўную частку польскага фронту ад бальшавіцкага, хаця й дамагалася зусім іншае мэты. І нарэшце, трэба адзначыць, што ў прапарцыянальных адносінах слуцкія паўстанцы атрымалі ад Польшчы непараўнальна менш, чым тая-ж Польшча – ад Антанты.

Сяньня ўжо ўсяму сьвету настолькі ведама бальшавіцкая бяспрынцыповасьць, што няварта зьвяртаць увагу на іхнія абвінавачваньні случчакоў у адсутнасьці прынцыповасьці.

---

**раўняўшыся, адразу пераконваецеся ў сваёй памылцы. Не, гэта не яна. Тая мела прывабны славянскі твар з тонкімі абрысамі вуснаў, зь сінімі задуменнымі вачыма, і валасы ейныя нагадвалі кужаль. Гэта не яна. А часам пачуецца вам зводдаль знаёмы сьмех. Вы ўсхвалявана сьпяшаецеся туды, адкуль ён даляцеў, і, яшчэ не даходзячы, спыняецеся. Не, гэта таксама не яна. Сьмех тае нагадваў і гутарку лясное крыніцы, і сьпеў жаўрука над жытам, і водгульле далёкае жалейкі. Гэта не яна".**

**Вось гэта і ёсць душа беларуса! Радзіма для яго не толькі там, дзе дрэмле Буг, дзе Белавежа, – яна заўсёды наводдаль. Да яе ўвесь час трэба набліжацца, ісці, расці, самаўдасканальваючыся разумова, духоўна, узгадваючы паўзабытыя падрабязнасці беларускага жыцця-быцця, адценні слоў і назваў... Наша мова, а значыць і наша мысленне, засмечаныя бясконцымі клішэ чужога паходжання, якія мы ўжо не заўважаем, прымаем як дадзенасць. Не разважаючы, мы ад школьнай парты некрытычна засвойваем, як і што называецца, уцягваючы ў сябе жорсткую канструкцыю адносін, якая знаходзіцца ў глыбіні значэнняў і якая затым выяўляецца ў нашай безнадзейнай савецкасці.**

**Як гэта адбываецца ў рэальнасці, добра паказаў Ю. Віцьбіч у эсэ "Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман": "Яшчэ вялікі князь маскоўскі Зьмітра Данскі зьначыў**

Бязумоўна, у "Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)" не прыгадваюцца 207 тысяч марак, атрыманых Леніным, і 400 тысяч кронаў, атрыманых Троцкім ад нямецкага генэрала Людэндорфа ў верасьні 1917 г. перад агульнавядомым іхнім падарожжам у плёмбіраваным вагоне ў Расею. Няма таксама ў бальшавіцкіх гісторыкаў з БССР і прыпаміну аб умове Гомельскага рэўкаму ў 1918 г. зь немцамі, што спалілі горад, паводле якое:

"Гомельскі Нямецкі Камітэт забабязваецца прадаць савецкаму ўраду: 12 палявых гаўбіцаў, 6 баявых гарматаў з адным артылерыйскім паркам, 50 кулямётаў, 16 мінамётаў, 400 вінтовак, каля 4 мільёнаў нямецкіх патронаў, 500 тысяч ангельскіх патронаў, 12 тысяч артылерыйскіх снарадаў".

Не дапамагла Гомельскаму рэўкаму зброя нямецкіх акупантаў. Менш чым праз год.– вясной 1919 г. – гомельскія паўстанцы зьнішчылі гэты рэўкам. Аднак прыгаданыя намі факты красамоўна сьведчаць аб "прынцыповасьці" бальшавіцкіх "судзьдзяў" слуцкіх паўстанцаў.

Як ведама, адносіны бальшавікоў, або "чырвоных" расейцаў, да беларускага вызвольнага руху істотна ня розьняцца ад адносінаў да яго з боку "белых" расейцаў. Калі паводле сьцьверджаньняў першых, антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі зьяўляліся "дывэрсыяй імпэрыялістычных дзяржаваў", дык, паводле сьцьверджаньня другіх, гэтыя паўстаньні загубілі самыя-ж беларусы. Прынамсі, што да ўласна Слуцкага паўстаньня, дык яны спрабуюць спасылацца на тое, што нібыта яго задушыў Трэці Менскі Полк ГубЧК, які быццам складаўся вылучна зь беларусаў. Мэта такіх доказаў больш чым відавочная і зразумелая, а менавіта – давесьці, што Кастрычнік на Беларусі зроблены беларусамі-ж, а зусім не накінуты ім "старэйшым расейскім братам" і ягонай вернаадданай інтэрнацыянальнай зграяй, а таксама, каб давесьці, што Беларусь зусім не зьяўляецца адным зь першых па часе сатэлітаў, акупаваных Масквой, і дабраахвотна далучылася да яе. Прыемна зазначыць, што гэтыя варожыя беларускаму вызвольнаму руху сьцьверджаньні ня вытрымліваюць ніякае навуковае крытыкі.

Па-першае, нават савецкі гістарычны дасьледнік С.Агурскі ў сваёй працы з характэрным загалоўкам "Кастрычнік на Беларусі" шчыра зазначыў: "...бальшавіцкія кіраўнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі былі чужымі ў нашай краіне". Агульнавядомая роля Фрунзэ і Мясьнікова ў Менску і Смаленску, аднак варта таксама прыгадаць пэрсанальны склад хаця-б Віцебскага рэўкаму, у які ўваходзілі: В.Чунчын, Шалконц, Заўэр, Дырык, Аболін, Трэйман, Відзэ, Рэкст, Біштэ, Петэрсан, Дрызьль, Лепін і Фрышман.

Па-другое, ні адзін з былых непасрэдных удзельнікаў Слуцкага паўстаньня ніколі ня чуў пра нейкі міфічны Трэці Менскі полк ГубЧК, ня прыгадваецца ён таксама і ў літаратуры і ў дакумэнтах.

Па-трэцяе, беларускія вайсковыя часткі, мабілізаваныя Саветамі ў часе паўстаньня на Беларусі, або захоўвалі прыязны нэўтралітэт да паўстанцаў, або адразу пераходзілі на іхні бок, альбо першымі падымалі паўстаньне. Гэтак Слуцкі Задзіночаны Батальён 1–4 красавіка 1919 г. узьняў сьцяг паўстаньня ў Міры. У сакавіку 1919 г. у Рагачове паўстаў Дваццаты пагранічны полк, што складаўся з адных беларусаў і забіў свайго камісара

**стары Клічаў, пра які адзначаў летапіс: "Туде живяху Кривичи", на Асташкаў. Потым Іван Грозны, у часе Лівонскіх войнаў, перайменаваў горад Белы ў Багародзіцын, Себеж у Іван-горад, Дзьвінск у Барысаглебск, Ніжні замак у Полацку ў Стралецкі і г.д. Усе гэтыя зьмены народ скінуў, як тое лушпавіньне, яшчэ да сьмерці Івана Грознага. Ідучы пазьней сьледам расейскага царызму, расейскі бальшавізм зьмяніў Менск на Мінск, Парэчча на Дзямідаў, Ігумен на Чэрвень, Раманава на Ленін, Койданава на Дзяржынск, Вызну на Чырвоную Слабаду, Князь або Жыд на Чырвонае, Прапойск на Слаўгорад і г.д. У сувязі з калектывізацыяй і асабліва з прычыны ўзбуйненьня калгасаў зьніклі дзесяткі тысячаў беларускіх вёсак, разам з сваймі часта-густа паэтычнымі назовамі, набыўшы імёны Варашылава і Кірава, Гусарава і Патолічава, Панамарэнкі і Цанавы. І калі ні адзін геаграфічны назоў у СССР – хай сабе і Волга і Эльбрус не забясьпечаныя ад перайменаваньня, дык у БССР гэтыя зьмены набылі асабліва зьдзеклівы характар". Дарэчы, Восы-Калёсы цяпер – Лясное, Карчма – Дачнае, Цямша, Паршчаха пераатварыліся ва ўрочышчы, вядомыя толькі тубыльцам.**

**Так непрыкметна ў мову ўводзяцца кантрабандным шляхам фундаментальныя ідэі, паняцці, "каштоўнасці", якія вызначаюць шмат у чым наша бачанне**

 



"Волга" вярнулася надта хутка, але галава паспела захмялець, замочная шчыліна плыла перад вачыма й даводзілася штохвілі міргаць, каб яна не сплыла канчаткова.

На калідоры зацюкалі жаночыя туфлікі. Макар прыпаў да рыльца, потым да шчыліны і ўраз працверазеў: у кабінет увайшла Данута. Увайшла рашуча, грацыёзна, пераблытаўшы думкі ў галаве і чарговым разам пераціяўшы дыханне.

Данута села ў крэсла, і ў шчыліне сталі бачны толькі частка загарэлай рукі ды мысок лакіраванага туфліка.

Калупайка штосьці сказаў – словы гэтыя праляцелі міма вушэй, – а вось Дануччына фраза: – Жонцы паспавядайцеся! – казытнула не толькі слых, але і душу.

– Дана, ну як ты не разумееш, – прамармытаў Калупайка, абхапіўшы рукамі голаў. – Развод для мяне – гэта канец кар'еры. Ты гэтага хочаш?

– Я ўжо нічога не хачу, – адгукнулася Данута, і з відавоку зніклі адразу і рука, і мысок лакіраванага туфліка.

– Твае выбрыкі проста здзіўляюць, – сакратар абкама шаргатнуў нагой па падлозе. – Тады, на "Качыным Востраве"... – У гэтым месцы сакратар уздыхнуў: – "Пакахаю першага, хто ўваліцца ў залу..." Ну, павісла ты на гэтым п'яным ёлупні. І што? Думала, я пабягу тапіцца?

Пачуўшы пра "Качыны Востраў", Макар тузануўся, бухнуў азадкам у заднюю сценку і замёр без духу.

– Э-эх, Данка! – вырвалася з сакратарскай глоткі, і Макар ізноў зірнуў у шчыліну. – Няўжо ж я цябе тут пакіну?

Калупайка дастаў з кішэні нейкую паперку, пачаў чытаць: – Вуліца Савецкая, 45 А... Трыццаць шэсць квадратаў, санвузел раз'яднаны... – У гэты міг Дануччына рука пацягнулася за паперкай, а Калупайка, схапіўшы Дануту за запясце, юрліва гукнуў: – Спачатку пацалунак!

І тут надарылася неверагоднае: Данута падхапілася з крэсла і спрытна ўселася на Калупайкавых каленях.

– Ну ты яму хоць аддалася? – пралепятаў сакратар, цалуючы аголены Дануччын плячук.

– Вось яшчэ! – фыркнула Данута, чытаючы паперку, а Калупайка, пасля роспачнага ўздыху, прамовіў: – Ну як жа... Гэты ёлупень у цябе цэлых тры гадзіны адседзеў.

Данута паспрабавала злезці з каленяў, але сакратар надзейна абхапіў яе за сцёгны.

– Гэта табе Мандрык сказаў, шпіён твой?

– Ну, не злуй, – Калупайка прымірэнча перавёў дых, – я гэтага п'янтоса хачу ў Маскву паслаць, у Акадэмію грамадскіх навук. Дзеля гэтага сюды і прыехаў.

Валасатая рука накрыла абцягнутае белай панчохай калена, паткнулася пад спадніцу, і ўсё патанула ў тумане. Макар ліхаманкава працёр вочы, і ў галаве ягонай замітусіліся, шукаючы выхаду, абрыўкі фраз: "Павісла на ёлупні... Мандрык... шпіён твой..." Галаве стала горача, цела скаланулі дрыжыкі, ён рассунуў форткі дзвярэй і ўбачыў, што з Калупайкам цалуецца не Данута, а нейкая страхаморлівая каргота.

– Ведзьма, – прашапталі сасмяглыя вусны, лёгкія ўвабралі паветра, і Макар, выкуліўшыся з шафы, страшным голасам загарлаў:

– С-сука-а!

Жаночы віскат зліўся з рэхам гэтага крыку, перад вачыма мільганулі задзёртая спадніца, расшпілены прарэх і шэрыя мужчынскія туфлі. Туфлі затупалі па падлозе, узняліся ў паветра, імкнучыся да адчыненага вакна; Макар схапіў рукамі левую туфліну і пачуў звон разбітага шкла, мацюкі і гучны трэск штыкецін пад вокнамі.

Ён з цяжкасцю падняўся на ногі, перакінуў з рукі ў руку сакратарскі абутак, а згледзеўшы на падворку міліцэйскага палкоўніка, памкнуўся зноўку залезці ў шафу. Па дарозе ён наступіў на пляшку, падскочыў і ўлякнута паглядзеў сабе пад ногі. Недапітая гарэлка разлілася па падлозе, дакладна паўтарыўшы абрысы Азоўскага мора.

– Ён там, у рэдакцыі, – даляцеў з падворка плаксівы голас, і па правай назе паплыло мяккае і пяшчотнае цяпло. Яно плыло ўсё ніжэй і ніжэй, аж пакуль пад нагою не пачала расцякацца цёмная пляма. Пляма расла ва ўсе бакі і неўзабаве стала нагадваць па форме Чорнае мора. І вось, калі на калідоры цяжка затупалі, а пад вокнамі жаласна заенчылі, дзве плямы зліліся, адкрыўшы вачам бязмежны прастор, і схаладнелае сэрца парывістым біццём вітала суткі стыхій.



 

 

Віктар Супрунчук

У НАС



*Там цёпла круглы год,*
*і зямлі*
*колькі жадае*
*душа...*

# У ПАРАГВАЙ, У ЦЁПЛЫ КРАЙ

*Апавяданне*



 

– Сусед у мяне ўжо такі добры, такі добры, што бабскую кашулю адзене. А мужыкі нашы дурныя, бы чобаты, – кажа Галена. Яна на жорнах меле ячмень свінням. Зайшла суседка Антусіха. У здзіўленні спынілася ля парога. Вочы ў яе і так, што ў Сары Мойшавай, якая на Фурштаце соллю гандлюе, а зрабіліся бы ў Маланні. Ні з кім і не параўнаеш. Бо Маланння ў квадру заўжды на страху лезе і адтуль крычыць, як певень. Хоць сама курыца.

– І які ж гэта ў цябе сусед? – пытае Антусіха.

– А, абы-што! – махае рукою Галена. – Каб было пра каго казаць. Гэта ж Алёша з Пляхаўшчынскага хутара. Дый яшчэ пра яго мувяць, што ён з батонам. Ніяк не ўцямлю: ходзіць з батонам, ці спіць?

– Ай, дурная ты баба, – ажно пакацілася ад смеху Антусіха. – Ён трымае яго ў кішэні... Ай-яй-яй...

На вуліцы буяе лета. Спяваюць птушкі. Але хто гэта бачыць і чуе, калі няма гумору. Задушылі падаткі. Заробак – кот наплакаў. Мужчыны дзень ад сонца да камароў, тралюючы лес з Гута Міхаліна, маюць два з паловаю злоты. Дый так гатовы лыткі цалаваць Абраму гарбатаму, што даў зарабіць. Ой бядота! І ў кожнай хаце дзяцей на палацях, бы грыбоў у Забараззі. Зямлі якая-небудзь лапінка.

– А ты ведаеш, Галена, што робіцца? – Антусіха зазірае ў жорны, нібы там залатоўкі можна ўкрасці. – Зайшла я да Сары Мойшавай, папрасіла ў доўг шклянку лёку. Яна, гадаўка, запатрабавала ад мяне ажно два яйкі. Адно за лёк, а другое – як страхоўка, калі неспадзеўкі буду браць у доўг. Бачыш, якая разумніца? Але ж я не дурнейшая. Лепш дам тры яйкі. Затое яна мне будзе павінна.

– Можа, і праўду кажаш, – Галена дамалола ячмень і збіралася замешваць у цэбры свінням. Ды нехта ў дзверы: ляп-ляп. Ну, чыста паліцыянт Габрусь. Яна ж дагэтуль падатак на жорны не заплаціла. Бяда, бяда... Хоць пад падлогу залезь. Дзе ж той паратунак? І Антусіха навастрыла вушы. Хто гэта ў вёсцы стукае ў дзверы? Аніхто. Панскі звычай, надта ж далікатны. Ці ж, калі заходзіць да Галены, яна ляпае? З глузду дагэтуль не з'ехала. Не, якійсь начальнік. І навошта зайшла сюды, знайшла сабе скулу?

– Галеначка, і хто ж там дужа ляпае? – Антусіху пачало трэсці, нібы, не дай бог, якой грыпай захварэла. – Няйнакш паліцыянт Габрусь? Каб ён здох! У мяне зараз сэрца будзе ў нагах. Памру, ой, памру...

– Не памрэш, – набралася мужнасці Галена. – Ясна, нейкі пан, не наш. Накінь на жорны кажухі. Мо і не ўбачыць?..

Антусіха не слухала. Вочы раскінуліся ў розныя бакі. Нават схуднела з твару. Скок на драбіны і палезла на гарышча. Там кумпякі віселі. Каб яшчэ не пакрала. Ай, недарэчнасць нейкая лезе ў галаву.

Галена адчыніла дзверы. Як і думала, на ганку стаяў пан. Валасы рыжыя, твар у рабаціннні. У чорным капелюшы, у туфлях-лакіроўках. На ім быў чорны суконны гарнітур, а знізу – чырвоная ў гарох камізэлька. У руках трымаў бліскучую з ручкаю палку. Летась у вёску наведваўся ваявода. Дык нашто багата адзеты, але з гэтым панам не параўнаеш. Яшчэ з кішэнькі вісеў жоўты, мусіць, залаты ланцужок. Тоўсты, амаль як той, што Галена бычка да кала прывязвала.

– Прашу прабачэння, – сказаў па-мясцоваму пан. – Ці трапіў я туды, куды хацеў?

– Што пану трэба? – Галена ўглядалася ў яго і – нібыта бачыла раней. Нос з маленькай кропляй унізе, голас, як шкрабе патэльню, даядаючы рэшткі яечні.

– Хацеў бы пабачыць гаспадара, – пан дастаў з кішэнькі вялізны круглы гадзіннік, жоўты, як і ланцужок. – Мала часу, а справа важнецкая.

– А хто вы будзеце, паночку?

– Не пазналі, цётку Галена?

– Не нешта...

– Ды я... – замяўся пан, камечачы шаўковую, як у дзяўчат, хусцінку. – Я – Міхала Вашывага сын, што з Алендраў. Серафім.

 



– Не можа ж такое быць... – недаверліва сказала Галена. – Серафім Міхала Вашывага ў Амерыцы на заробках.

– Правільна. Толькі што з Амерыкі. Па справах прыехаў. Хачу сваім землякам дапамагчы. Я ж там бізнясмен. Вялікі, па-нашаму, пан.

– Няўжо ж.

– Не відаць. – Серафім павярнуўся адным бокам, другім.

Канечне ж, не абы-хто. Калі не ваявода, дык дзесьці побач. Адзін капялюш каштуе бы карова. Гарнітур – пудоў трыццаць жыта. Вось табе і Міхала Вашывага сын.

– Зараз я паклічу Мікалая. Зараз... Пачакай.

Тут ужо пасмялела Антусіха. Сціснуўшы спадніцу каленьмі, падалася ўніз.

– Дзень добры, Серафімку. Я ў Галены на гарышчы цыбулю глядзела. Пачула твой голас. Які ж пекны кавалер!

Каб не паспела Антусіха задурыць Серафіму галаву, Галена, галёкаючы, паляцела на выжар. Мо пачуе Мікалай яе голас, кіне касіць і дамоў. Так яно і выйшла. Жонка кліча, быццам хата згарэла. Якая касьба. Касу за плечы і – хутчэй насустрач.

Адразу пазнаў Серафіма. Калі ён ехаў у Амерыку, дык падвозіў яго да Блудня на паравоз. У Міхала Вашывага якраз кабыла здохла, а гадавалае жарабя, якое ўжо запрагаў у аглоблі, прайграў у карты.

У хаце Серафім сеў на ганаровае месца, на покуці. Галена хацела пакінуць іх з мужам адных, але госць папрасіў застацца. І Антусіха таксама была. Прыціхлі гаспадары, падрыхтаваліся слухаць.

– Часу ў мяне няшмат, – паважна казаў Серафім. – Ажно з Амерыкі прыехаў. Жыву няблага. Па адзежыне бачыце. Але ж у мяне душа за вас, землякоў, баліць. Колькі, дзядзьку, у вас зямлі?

– Ай, добрая баба сядзе і спадніцай накрые, – засумаваў Мікалай. – Ледзь-ледзь цягнуся. Ужо і да аднаго чыгуначніка ў Брэст ездзіў, каб здаў мне ў арэнду сваю валоку. Яна ў яго ля Сашыцы. Ды нешта муляецца...

– Вось-вось, дзядзьку, – Серафім падняўся з услона, захадзіў па хаце, стукаючы палкаю па падлозе. – У Амерыцы ёсць краіна Парагвай. Па-ра-гвай. Гэта што наш Сялец у Польшчы. Дык там зямлі – вокам не ахапіць. І ўсё – нічыя. Там жыве мала людзей. Пагода ўвесь час цёплая. Снегу і марозу ніколі не бывае.

– І зімою?

– І зімою. Круглы год. Можаце не верыць, але ўваб'еш сыры бярозавы кол у зямлю, і праз год – дрэва. Кінеш зерне – колас вырастае таўсцейшы за мой палец. Хочаш – бяры сто дзесяцін. Хочаш – дзвесце, калі ласка. Там у іх свой прэзідэнт, нібы ў Польшчы Пілсудскі. Такі добры чалавек. Я быў у яго. Ён мне кажа: “Едзь у свой Сялец і прывозь землякоў. Хай бяруць зямлю. Навошта, каб прападала”.

– Нешта ты казку баеш, – засумняваўся Мікалай, але ад гэтых слоў то горача, то холадна. Падумаць толькі: зямлі бяры, колькі душа жадае. Няўжо ёсць такое на свеце? Хоць calісьці з Куроўшчыны Балахан, які адбыў пяць гадоў у нейкім Чыкага, казаў, што і ў самой Амерыцы зямлі столькі – абы здароўе.

– Клянуся нябожчыкамі мамаю і татам! – Серафім перакрыжаваўся на ікону Мікалая Цудатворца. – Я нікога не ўгаворваю. Да вас зайшоў таму, што хто дапаможа землякам, калі не я?

– Ой, не верыцца мне ўсё гэта, – завохкала Антусіха.

– Не верыцца, дык і не вер. Прэзідэнт там такі ж, як і мы. З простых, не з паноў. Усе роўныя.

– У іх што, камунія? Як у бальшавікоў? – насцярожыўся Мікалай.

– Не, што вы. Вось заходжу ў прэзідэнцкі палац. У гэты час прэзідэнт снедае. Убачыў зверху мяне, гукае: “Што там шастаеш? Заходзь у госці”.



 

– Так і казаў?..

– Канечне. Заходжу. Ён есць таўканіцу з кіслым малаком. Пасля какавы папіў. Бульба ў іх расце, як дзіцячая галава. Не трэба ніякага гною.

Задумаўся Мікалай. Як тут не верыць. Свой жа чалавек. Чуў, чуў ён, што на свеце там-сям ёсць шмат пустой зямлі. І сам ужо не раз меркаваў, як сабрацца з сям'ёй і з'ехаць. Абрыдла жыць бедняком, апошні грош аддаваць на падаткі. Ды што за жыццё, калі палякі душаць. Надта пікнеш, у Картуз-Бярозу.

– Добра, Серафім. А як усё гэта рабіць, каб паехаць у твой Парагвай? Пэўне ж, трэба ўсялякія там пашпарты, білеты... па ласцы ніхто нічога не робіць.

Серафім згодна ківаў галавою. Папрасіў папіць вады. Прычасаў жалезным грабеньчыкам свае рудыя вусы.

– Вартае пытанне, дзядзьку. Пашпарты, білеты – усё бяру на сябе. Абы-хто гэтага не зробіць. За ўсе выдаткі па дзесяць даляраў з носа.

– А злотымі можна?

– Можна.

Мікалай прыкінуў. У яго чацвёра дзяцей. Ён, жонка і маці. Сем душ, ці, па-серафімаваму, сем насоў. Семдзесят даляраў. Грошы немалыя. Столькі якраз ён назбіраў за сваё жыццё. Злоты да злотага, грош да гроша і паціху пад печчу ў бляшанцы з-пад ляндрынак склалася. Планаваў купіць зямлі. Старэйшага сына Ігнася адправіць вучыцца ў Навагрудак у гімназію. Эх, такое шчасце аднойчы бывае!

– Як, маці? – спытаў у жонкі. Галена заплакала, але слёзы былі не горкія, а радасныя, што зрушыцца з месца іхні жыццёвы воз і пакоціцца не па разбітым гасцінцы, а па роўнай шашы.

– Дык і нас з Антусем, Серафімка, не забудзь. І мы ўжо па-суседску пададзімся ў твой Харагвай. Мой Антусь даўно вастрыўся ў Аўстралію. А тут такое шчасце, такое шчасце, – Антусіха расчырванелася. Нядобра паглядвае на Галену і Мікалая. Маўляў, абысці яе захацелі. Пабегла дахаты.

– Ёсць, дзядзьку, толькі адна акалічнасць. Зямлі прэзідэнт дае многа. Ён прасіў мяне, каб прывёз паболей людзей. Таму я вас папрашу. Разам са мною пройдзем па хатах. Ведаеце, хто таксама не супраць перасяліцца. Будзе спрытней. Бо часу ў мяне ў абрэз. А раптам у прэзідэнта ўзнікне яшчэ знаёмец, як я... Удваіх спрытней. Будзем ехаць, улічу вашыя заслугі. Лепшыя месцы на паравозе і на параходзе дам. У Парагваі – лепшую зямлю. Дапамагу прыдбаць коней.

– Ідзі, ідзі, – штурхнула Мікалая жонка.

– А сена калі касіць? – зусім разгубіўся ён. У мроях ужо бачыў чацвярык коней. Як у Скробата з Пабежаны, у якога было дзвесце дзесяцін. Ці ў пана Згурскага з Асады.

Апрануў Мікалай свой вясельны касцюм, што дастаўся ў спадчыну ад бацькі. Абуў боты, у якіх хадзіў толькі ў царкву на каляды, вялікдзень і сёмуху. І пайшлі яны з Серафімам па вёсцы. Спярша моўчкі сядзеў і слухаў, а пасля сам пачаў расказваць пра цёплы Парагвай, пра бязмежжа зямлі, пра прэзідэнта, які снедае таўканіцаю з кіслым малаком. У дзяцінстве чытаў Мікалай кніжку пра краіну, дзе па вуліцы, быццам куры, ходзяць прыгожыя паўліны, дзе расце хлебнае дрэва. Рыбы ў рэках, як на балоце камароў. І міжволі дадаў гэта да расказа пра Парагвай. Серафім толькі задаволена падміргваў. А што, яму няцяжка. За зямлю і чацвярык коней можна і не тое пабаяць.

Словы падалі на глебу, якая іх чакала. Ва ўсіх была не лепшая доля, чым у Мікалая. Кожны дзядзька марыў калі-небудзь выбрацца з галечы. Неспакойна зрабілася ў сялянскіх хатах. Нехта збываў карову, каб мець патрэбныя дзесяць даляраў на душу, нехта коней. Вёска нібыта ачулася ад цяжкага хваравітага сну. Толькі і размоў было, што пра Парагвай, зямлю і далёкую

дарогу. Серафім начаваў у Мікалая. Той цяпер стаў важным чалавекам. Дзядзькі і кабеты неслі яму яйкі альбо кавалкі кумпяка з надзеяй, што замовіць слова перад Серафімам.

Дзесьці, як спала палудзенная спёка, зазірнуў войт Кучмель. Галена, убачыўшы яго, збялела ад страху. Гэта каб такі важны пан ды і зайшоў у іхнюю хату. Не ведала, што казаць, куды пасадзіць. Яна яму, як пустое месца. Павітаўся і, зачыніўшы за сабою дзверы, да Серафіма. Мікалай праз акно чуў усю размову.

– Зацікавіліся табою, пан Серафім, у пастарунку, – мовіў пан Кучмель. – Я іх трохі стрымаў.

– Мне чаго баяцца? – Серафім гаманіў спакойна, быццам не з войтам, а з рамізнікам Саўлам.

– Вам лепш ведаць, пане Серафім, лепш. Толькі ў пастарунку паліцыянт Габрусь казаў, што вярбуеце людзей у гэты Парагвай, парушаючы закон Рэчы Паспалітай.

– Што хочаце, пан Кучмель?

– З кожнай душы пяцьдзесят грошай. Гэта не многа. Затое, ніводная вош, прабачце, вас не пакрыўдзіць.

Астатняе Мікалаю ўжо было нецікава. Не хапала яшчэ, каб заўважылі яго пад акном. У начальства свае справы. У яго свае. Яму б зямлю атрымаць. Рукі, ногі здаровыя. Дзеці падрастуць. Сіла будзе. Зажыве, як чалавек: з хлебам, бульбаю, мясам. З усім, чым узнагароджвае селяніна за працу зямля.

І надышоў блаславёны дзень. Дзесяткі вазоў, напакаваных сціплым мужыцкім скарбам перасяленцаў, з'ехаліся да станцыі Блудзень. Агледзеўшы гэту плойму людзей, Мікалай даўмеў, што сабраліся сяляне не толькі з іхняй вёскі. Убачыў знаёмых з Нарутавічаў, з Міжлесся. Недзе павінен праз колькі гадзін падысці паравоз, на які Серафім заказаў білеты да Варшавы. Адтуль – да мора, а потым – на параход.

Яшчэ ўчора паехаў Серафім на станцыю рыхтаваць для перасяленцаў вагоны. Каб неспадзеўкі не зламаліся ў дарозе. Змарнуецца час, і тады не трапіш на параход. Прадбачлівы, разумны хлопец. "Пашэнціла, што зайшоў да мяне ў хату", – падумаў Мікалай.

Аднак сонца няўмольна хілілася на захад, а Серафіма не было. Прыпазніўся штосьці і паравоз. Калі сонца села за небакрай, аднавяскоўцы ўзялі ў абарот Мікалая. Спачатку ён тлумачыў, што Серафім у начальства наконт вагонаў і паравоза. Нібыта паслухалі. Цярпенне ў людзей было на зыходзе. У таго-сяго ўзнікла нядобрая думка, але кожны супакойваў сябе. Супакойваў сябе і Мікалай. Не мог паверыць, што ён прадаў усю гаспадарку і з яго грашыма сын Міхала Вашывага ўцёк. Найбольш рашучыя дзядзькі знайшлі начальніка станцыі і даведаліся, што ніякі Серафім столькі білетаў да Варшавы не купляў. І, наогул, яго ніхто тут не бачыў. Дый паравоз да Варшавы будзе толькі заўтра.

Мікалаю здалося, што ўсе вазы, якія з'ехаліся да чыгункі, зараз павернуць на яго і растопчуць. А гвалт і енк, што ўзнялі жанчыны і дзеці, абудзіць вёскі, адкуль выбраліся гэтыя людзі. Як неба абрынулася на зямлю. Мікалай зразумеў: ён з сям'ёю (а чакалі яшчэ дзіця) засталіся ні з чым. Што крывёю і цяжкім потам зарабіў, не купіўшы драбочка цукру ці селядца да бульбы, аддаў Серафіму. Барадаты Сцяпан, які быў малатабойцам у Ёські, адарваў аглоблю ад воза і рушыў на Мікалая. "Заб'ю, заб'ю!" – крычаў з пенаю на губах. А Парагвай, Парагвай быў зусім побач... Там цёпла круглы год, і зямлі колькі жадае душа... Бліснула штосьці ў галаве Мікалая, і ён, ускочыўшы на воз, залямантаваў:

– У Парагвай, у Парагвай, у цёплы край!

І пайшоў у скокі, скідваючы з сябе кашулю, боты, штаны. Спыніўся барадаты Сцяпан, сціхлі перапалоханыя дзеці і жанчыны. Толькі Мікалай усё галёкаў:

– У Парагвай, у Парагвай, у цёплы край!

ЁН

# Людвіг ВІТГЕНШТАЙН



*Філасофскія загадкі*
*неістотныя*
*для штодзённага жыцця.*
*Гэта загадкі **мовы.***
*Інстынктыўна мы ўжываем*
*мову правільна,*
*але для інтэлекту*
*гэтае ўжыванне – загадка.*

*Пра Яго*

## АБ ІМАВЕРНАСЦІ

ГІСТОРЫЯ АДНАГО АДМАЎЛЕННЯ

"ВЕРШНАСЦЬ" ЭТЫКІ

ПЯЦЬ КАМЕНТАРОЎ ДА ФІЛАСОФІІ
ЛЮДВІГА ВІТГЕНШТАЙНА

# АБ ІМАВЕРНАСЦІ

[...]

2. З таго, што мне – або ўсім – так *здаецца,* не вынікае, што так яно і *ёсць.*

Але варта выставіць запытанне, ці сэнсоўна ў гэтым сумнявацца.

3. Калі, напрыклад, нехта кажа: "Я не ведаю, ці рука вось гэта", то яму можна адказаць: "Зірні на яе больш пільна". – Гэтая магчымасць самапераканання належыць да моўнай гульні. Яна адна з яе існасных рысаў.

4. "Я ведаю, што я чалавек". Каб пабачыць, якім няясным з'яўляецца сэнс гэтага цверджання, разгледзім яго адмаўленне. Наперад яго можна пераасэнсаваць так: "Я ведаю, што я маю чалавечыя органы". (Напрыклад, мазгі, якіх, праўда, ніхто не бачыў.) Але як стаіць справа з такімі цверджаннямі, як "Я ведаю, што я маю мазгі"? Ці магу я сумнявацца ў гэтым? Для *сумневу* мне не стае падставаў! Усё гаворыць за гэта, і нішто супраць гэтага. Тым не менш, можна ўявіць, што пры аперацыі мой чэрап акажацца пустым.

5. Ці можа аказацца гэтае цверджанне ў далейшым фальшывым, залежыць ад азначэнняў, якія мне пажадаецца даць для гэтага цверджання.

6. Ці можна ў такім разе пералічыць (як Мур) усё, што ведаеш? Я мяркую, безумоўна, не. Інакш адбудзецца злоўжыванне словамі "я ведаю". І падасца, што пры дапамозе гэтага злоўжывання праяўляецца адмысловы і ў найвышэйшай ступені важны стан духу.

## *Пра Яго*

***1889.*** *26 красавіка ў 20.30 у Вене, у доме на Алеегасэ ў сям'і Карла Вітгенштайна (1847–1913), інжынера і прамыслоўца, які адмовіўся прыняць прапанаваны яму імператарам шляхецкі тытул, і Леапальдыны Кальмус-Вітгенштайн (1850–1926), у сям'і, дзе калекцыянавалі скульптуры Радэна і палотны Клімта, нарадзілася восьмае дзіця – Людвіг. Сям'я Вітгенштайнаў была адной з самых багатых у Аўстрыі. Вітгенштайны ўтрымлівалі шэраг мастацкіх фундацыяў і сябравалі са шматлікімі артыстамі і музыкамі. Лепшымі сябрамі сям'і былі Брамс і Малер (Людвіг у маленстве таксама марыў стаць дырыжорам). Як і ўсе дзеці ў сям'і, да 14 год Людвіг навучаўся ў хатніх настаўнікаў.*

*Сярэднееўрапейскае мастацкае кола, аўтарытарны і звышталенавіты бацька, Вена, палац, fin de siècle.*

***1902.*** *Самагубства Людвігава брата Ганса.*

***1903–1906.*** *Вучыцца ў ліцэі ў Лінцы (запісаны як каталік, хоць меў габрайскія карані). Запіс у дзённіку:*

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО АДМАЎЛЕННЯ

**XX стагоддзе ў філасофіі пачалося з Готлаба Фрэге (1848–1925), які хацеў дасягнуць поспеху там, дзе, на ягоную думку, няўдача спасцігла Канта: Фрэге заманулася перастварыць матэматыку на грунце, ачышчаным ад усякай "інтуітыўнасці". Таму, пачынаючы з 1879 года, ён бярэцца перакладаць элементарную арыфметыку на распрацаваную ім мову фармальнай логікі. У 1902 годзе ён спатыкнуўся на адной супярэчнасці ў рамках сваёй "аблагічанай" арыфметыкі (Бэртран Расэл развяжа гэтую супярэчнасць у т.зв. "тэорыі тыпаў"), і ў выніку Фрэгаў праект будзе даведзены да канца толькі ў 1910–1913 гадах Расэлам і Уайтгедам у іх "Principia mathematica".**

**Стаўшы ў 1911 ґодзе Расэлавым вучнем у Кембрыджы, юны Вітгенштайн спачатку быў прычараваны тым інтэлектуальным прарывам, якім былі Principia, але неўзабаве ў яго з'яўляюцца сумненні што да слушнасці "тэорыі тыпаў" і Расэлава "лагіцызму" ўвогуле.**

*"Мой клас у Рэальшуле: зборыска хамаў". Завязвае сяброўства з габраямі, што вучацца ў школе. У 1904 годзе робіць сабе смерць Людвігаў брат Рудольф. Адначасова з Людвігам Вітгенштайнам у тым самым ліцэі вучыцца Гітлер. Абодва – вучні пасрэдныя (за выняткам гісторыі ў Гітлера і Закону Божага ў Вітгенштайна).*

***1906–1907.*** *Вучыцца ў Вышэйшай тэхнічнай школе Берлін-Шарлотэнбург. Па сканчэнні хоча запісацца на фізічныя курсы Больцмана ў Вене, але той якраз сканчае жыццё самагубствам. Паступае ў школу Берлін-Шарлотэнбург на аддзяленне машынабудавання.*

***1908–1911.*** *Вясной 1908 года паступае ў Манчэстарскі тэхналагічны коледж. Займаецца там даследаваннямі, у выніку якіх канструюе турбарэактар. У Людвігу абуджаецца цікавасць да чыстай матэматыкі. Упершыню знаёміцца з творчасцю Фрэге, якога на той час лічылі найвялікшым з жывых філосафаў. Перажывае досведы сяброўства, пра якія скажа пазней: "Я калекцыяную добрапрыстойных сяброў, вельмі адрозных ад самога сябе".*

***1911.*** *Едзе ў Ену на сустрэчу з Фрэге, а пасля, з*

7. Мой досвед паказвае, што я ведаю або я пэўны, што там знаходзіцца крэсла або дзверы і г.д. і да т.п. Я, напрыклад, кажу сваім прыяцелям: "Вазьмі там крэсла", "Зачыні дзверы" і г.д. і г.д.

8. Адрозненне пайма "ведаць" ад пайма "быць пэўным" не мае вялікага значэння, апрача тых выпадкаў, калі "я ведаю" павінна азначаць: я не магу памыліцца...

[...]

10. Я не ведаю, што тут ляжыць хворы чалавек? Нонсэнс? Я сядаю на ложак, уважліва ўглядаюся ў яго рысы. – Дык я не ведаю, што вось тут ляжыць хворы? – Гэта не мае сэнсу ні запытання, ні выказвання. Гэтак жа мала, як і "я тут", якое я ўсё ж такі магу ўжыць у які-колечы момант, калі для гэтага надарыўся зручны выпадак. Тады і "2 x 2 = 4" – нонсэнс і непраўдзівае арыфметычнае цверджанне за выключэннем пэўных выпадкаў? "2x2=4" праўдзівае цверджанне арыфметыкі – і не "ў пэўных выпадках", а "заўсёды", – хаця гукавыя альбо пісьмовыя знакі "2x2=4" у кітайскай могуць мець іншае значэнне або быць яўным нонсэнсам, з чаго вынікае: толькі ва ўжыванні цверджанне мае сэнс. І "я ведаю, што ляжыць хворы", ужытае ў неадпаведнай сітуацыі, не падасца толькі нонсэнсам, а хутчэй відавочнасцю таму, што адносна лёгка можна ўявіць адпаведную сітуацыю і памеркаваць, што словы "Я ведаю, што..." дарэчы заўсёды там, дзе не існуе сумневу (і, такім чынам, там, дзе выяўленне сумневу было б незразумелым).

11. Не заўважаюць якраз таго, якім надзвычай адмысловым з'яўляецца ўжыванне "Я ведаю".

[...]

15. Каб была немагчымай памылка, трэба *ажыццявіць доказ.* Сцвярджэнне "Я гэта ведаю" не падыходзіць. Усё ж яно толькі сцвярджэнне таго, што я (тут) магу не памыляцца, а што я *ў гэтым* не памыляюся – павінна быць *аб'ектыўна* ўстаноўлена.

16. "Калі я нешта ведаю, то я ведаю і тое, што гэта

**Менавіта з гэтых сумненняў, на якія наклаўся глыбокі экзістэнцыйны крызіс, і нарадзіўся ў акопах першай сусветнай вайны "Логіка-філасофскі трактат", надрукаваны ў 1921 годзе, а пасля выпраўлены і перавыдадзены ў 1922 ужо пад назвай "Tractatus logico-philosophicus" – названы па-лацінску, а не па-нямецку.**

**Калі казаць сцісла і коратка, "Трактат" напісаны ў форме пранумараваных прапазіцый, і ягоная пабудова вельмі падобная да аксіяматычнай структуры "Прынцыпаў". Пункты-меркаванні, з якіх складаецца "Трактат", не суправаджаюцца ніякімі тлумачэннямі і каментарамі, але іх мэта вельмі далёкасяжная: аўтар ні больш ні менш як мае пакласці канец спрадвечным тулянням філасофіі, вылучыўшы яе з агульнага шэрага навук і, у прыватнасці, адрозніўшы ад логікі (паводле Вітгенштайна і насуперак меркаванню Расэла, філасофію нельга зводзіць да логікі).**

**У аснове "Трактата" ляжыць анталагічная тэорыя, паводле якой структуры рэчаіснасці і мыслення па сутнасці аднолькавыя. Свет складаецца з малекулярных з'яваў, што падзяляюцца на атамныя з'явы ці "станы рэчаў", г.зн., на арганізаваныя сукупнасці элементарных аб'ектаў. Гэтак сама і мысленне (якое ёсць адным цэлым з мовай) зладжана са складаных прапазіцый, якія можна раскласці на атамныя прапазіцыі, што злучаюць між сабой імёны, "простыя знакі" прадметаў.**

**З гэтага ізамарфізму вынікае, што сума эмпірычна правільных прапазіцый, супадаючы з сумай ведаў прыродных навук, дае "лагічны адбітак з'яваў" (пункт 3) – інакш кажу-**

ведаю, і г.д.", з гэтага вынікае: "Я гэта ведаю" азначае "Я ў гэтым не памыляюся". Аднак ці не памыляюся я, неабходна аб'ектыўна ўстанавіць.

17. У нейкім разе дапусцім, што я кажу "Я не памыляюся ў тым, што гэта кніга", – пры гэтым я паказваю на прадмет. Як тут будзе выглядаць памылка? І ці маю я аб гэтым *яснае* ўяўленне?

18. "Я гэта ведаю" часта азначае: я маю слушныя падставы для майго выказвання. Такім чынам, калі іншы азнаёміўся з моўнай гульнёй, ён не зможа не прызнаць, што я гэта ведаю. Яму, калі ён знаёмы з моўнай гульнёй, давядзецца ўявіць, як можна ведаць нешта такое.

[...]

22. Было б усё ж дзіўна, калі б мы схіліліся паверыць праўдападобнаму выказванню чалавека, які кажа "Я не магу памыляцца", або таму, хто кажа "Я не памыляюся".

[...]

24. Запытанне ідэаліста было б прыкладна такім: "Па якому праву я не сумняюся ў існаванні сваіх рук?" (І таму адказ не мог бы быць "*Я ведаю,* што яны існуюць".) Але той, хто так пытаецца, не ўлічвае таго, што сумнеў у існаванні актуальны толькі для моўнай гульні. Таму трэба было б ставіць пытанне адно наступным чынам: як будзе выглядаць такі сумнеў? А гэта адразу не надта зразумела.

[...]

26. Але ці можна ўбачыць з *правіла,* пры якіх акалічнасцях лагічна выключаецца памылка ў выкарыстанні правілаў арыфметыкі? Дык якая нам карысць ад правіла? Ці не можам мы пры яго выкарыстанні (зноў) памыліцца?

27. Да гэтага хочацца дадаць нешта правілападобнае (etwas Regelartiges), дзе меў бы месца выраз "пры нармальных акалічнасцях". А нармальныя акалічнасці

*парады апошняга, выпраўляецца ў Кембрыдж, каб вучыцца ў Расэла. Расэл пасля напіша: "Калегаванне з Вітгенштайнам было адной з самых захапляльных інтэлектуальных авантураў майго жыцця [...]. Ніколі не сустракаў я больш яскравага прыкладу генія, адпаведнага нашым традыцыйным уяўленням пра геніяльнасць: палкі, глыбокі, моцны і ўладарны. Была ў ім нейкая чысціня, якой ні ў кога больш не было, хіба што ў Г.Э. Мура".*

***1912.*** *Вітгенштайн паступае ў Трыніці Коледж, дзе правучыцца пяць трыместраў, слухаючы лекцыі Расэла, Мура, Уайтхеда, і дзе таварышуецца з Кейнзам.*

***1913.*** *Смерць бацькі. Вітгенштайн адракаецца ад вялізнае спадчыны на карысць братоў і сясцёр. Значную частку сваіх грошай ён перадаў на дапамогу мастакам і пісьменнікам. Так, грашовая сума ў 100 000 кронаў была падзелена між шэрагам творцаў, у ліку якіх Рыльке, Тракль, Какошка, Лоас. У верасні Вітгенштайн выязджае ў Нарвегію ў кампаніі Дэвіда Юма Пінсэнта, нашчадка Дэвіда Юма. У кастрычніку вяртаецца да Кембрыджу, потым зноў едзе ў Нарвегію. Піша "Заўвагі пра логіку". Расэл*

**чы, адэкватны адбітак рэчаіснасці. Такім чынам, даказваецца абгрунтаванасць навукі, у якой былі засумняваліся (хоць пры тым, паводле Вітгенштайна, навука "апісвае" свет, але не можа "вытлумачыць" яго). Што датычыць логіка-матэматычных прапазіцый, дык гэта шчырыя "таўталогіі", і яны (насуперак таму, што сцвярджаў Расэл) не апісваюць ніякай перадыснуючай рэчаіснасці, і няма ніякай патрэбы, каб яны былі нечым абгрунтаваны (пункт 5.473). Як па Вітгенштайнаваму, матэматыка таксама "не выражае ніякага мыслення" (пункт 6.21).**

**У той жа час, калі "ўсе прапазіцыі нашае агульнаўжывальнае мовы сапраўды – такія, якімі ёсць – упарадкаваны лагічна дасканалым чынам" (пункт 5.5563), то з гэтага вынікае, што нельга сказаць нічога, што выходзіла б за рамкі простага апісання свету. У прыватнасці, усе пытанні, якія датычаць "сэнсу" свету, належаць да сферы невымоўнага. Калі ў жыцця і ёсць сэнс, дык яго нельга "выказаць" на метамове, а можна толькі "паказаць", прадэманстраваць. Адным словам, этыка як мова, як дыскурс, немагчымая, і эстэтыка таксама немагчымая, бо этыка і эстэтыка – "гэта адно і тое самае" (пункт 6.421).**

**Адсюль выснова: у філасофіі няма ні ўласнага прадмету, ні ўласнага метаду. Яна "не тэорыя, а дзейнасць" (пункт 4.112), адзіная карысць ад якой – у "прасвятленні" нашых думак (інакш кажучы, у распазнаванні, праз аналіз іх "лагічнай формы", метафізічных псеўда-прапазіцый, абумоўленых няправільным ужываннем мовы). Пра ўсё астатняе філасофіі лепш маўчаць. Гэта й**

*адзначае частыя прыступы глыбокай дэпрэсіі, што апаноўвалі Вітгенштайна ў гэты перыяд.*

***1914.** Да Вітгенштайна ў Сколд'ен завітвае Мур і запісвае пад ягоную дыктоўку "Заўвагі пра логіку і філасофію". "У так званых лагічных прапазіцыях праяўляюцца лагічныя ўласцівасці мовы і, такім чынам, сусвету, але самі яны ні пра што не гавораць", – Вітгенштайн тут уводзіць ідэю таго, што "праяўляецца" замест таго, што "гаворыцца". Напярэдадні вайны ён прыязджае ў Вену; на пачатку вайны падраджаецца добраахвотнікам у войска. Сам ён лічыў вайну пераломным выпрабаваннем для сваёй асобы. У войску вядзе дзённік, большую частку якога пасля спаліць, а таксама, як заўжды, шыфраваны інтымны дзённік, дзе занатоўвае ўсе глыбейшыя перажыванні. У войску з ім кнігі Ніцшэ і Эмерсона ("Ніхто нам не дасць супакою, апроч нас саміх"), а таксама "Кароткае евангелле" Талстога. Запіс у дзённіку за 13.09.1914: "Увесь час у галаве круцяцца словы Талстога: "Целам чалавек бяссілы, затое духам вольны". Каб ува мне мог жыць дух!" Адзін з братоў Вітгенштайна заб'е сябе, каб пазбегчы*

можна пазнаць, але іх нельга дакладна апісаць. Гэта хутчэй яшчэ адна разнавіднасць ненармальнага.

28. Што азначае "вывучыць правіла?" – *Гэта.*

Што азначае "зрабіць памылку ў яго ўжыванні"? – *Гэта.* І тое, на што тут узнікла спасылка, ёсць нечым няпэўным.

29. Практыкаванне ва ўжыванні правіла паказвае таксама, што існуе памылка ў яго выкарыстанні.

30. Калі нехта пераканаўся, ён кажа так: "Але, разлік слушны", аднак гэта не вынікае са стану яго ўпэўненасці. Выснова робіцца, не зважаючы на рэальны стан рэчаў і не зыходзячы з уласнай упэўненасці.

Упэўненасць *выглядае* на тон, пры якім устанаўляецца рэальны стан рэчаў, але з тону нельга зрабіць выснову, наколькі гэта апраўдана.

31. Фразы, да якіх, як зачараваныя, звяртаюцца зноў і зноў, я хацеў бы выкараніць з філасофскай мовы.

[...]

33. Такім чынам мы выкаранім фразы, якія не пасоўваюць нас далей.

34. Таму, хто вучыцца лічыць, ці не даводзіцца навучацца таксама, што ён можа пакладацца на разлікі свайго настаўніка? Але ўсё-ткі аднойчы такія тлумачэнні падыдуць да канца. Ці не давядзецца яму таксама навучыцца, што ён можа пакладацца на свае пачуцці – бо яму, ведама, у іншых выпадках скажуць, што ў тым і тым асаблівым выпадку на іх пакладацца *нельга?* –

Правіла і выключэнне.

[...]

38. Веда ў матэматыцы. Тут трэба ўсё больш і больш падкрэсліваць нязначнасць "унутранага працэсу" або

**рэкамендуецца ёй надзіва "містычным" тонам у апошнім пункце кнігі: "Пра тое, пра што нельга гаварыць, трэба маўчаць".**

**Заблытанасць вучэння адразу выклікала шэраг непаразуменняў. Морыц Шлік (1882–1936), Рудольф Карнап (1891–1970), пазітывісты з "Венскага кола" спачатку палічылі, што Вітгенштайн абвясціў метафізіку беззмястоўнай, але гэта зусім не так. Вітгенштайн кажа, што метафізіка немагчымая як дыскурс, аднак сцвярджэнне, што існуюць праўды, якія можна "праявіць", але нельга "выказаць", зусім не азначае, што гэтыя праўды не існуюць.**

**Неўзабаве, пры канцы дваццатых, Вітгенштайн (пасля непрацяглага знікнення з інтэлектуальнай сцэны) патлумачыў сваю пазіцыю Шліку і Карнапу ў Вене. Іх гутаркі ясна сведчаць, што ён не пагаджаўся з пазітывісцкай інтэрпрэтацыяй ягоных думак. А яшчэ праз нейкі час Вітгенштайн паддаецца на ўгаворы сяброў вярнуцца ў навуку і ў студзені 1929 года перабіраецца ў Кембрыдж на прапанаваную старымі сябрамі пасаду выкладчыка ў Тринiці Коледжы.**

**З гэтага моманту ён пачаў займацца паступовай дэканструкцыяй "Трактата", і гэтая праца за дзесятак гадоў матэрыялізавалася ў шэраг лекцый, нататак і дзённікаў – хаця Вітгенштайн адмовіўся публікаваць усе гэтыя тэксты, але яны ўсё ж дайшлі да чытачоў дзякуючы яго вучням. Па вялікім рахунку гэтая дэканструкцыя зыходзіць з таго ж, што і "Трактат": гаворка па-ранейшаму ідзе пра тое, як маглі б канчаткова быць вырашаны філасофскія праблемы, але на гэты раз даследчык павяртаецца да анталогіі Спіной, ідзе ад раз-**

"стану" і пытацца: "Чаму ён павінен быць такім важным? А мне з яго што?" Гэта і цікава, як мы *ўжываем* матэматычныя фразы.

39. *Так* лічаць, пры такіх акалічнасцях разлікі *разглядаюцца* як безумоўна імаверныя, як адназначна правільныя.

[...]

44. Калі ты патрабуеш правіла, з якога б вынікала, што тут нельга было б зрабіць памылкі ў разліках, то ёсць адказ, што мы гэтаму навучыліся дзякуючы не правілу, а таму, што навучыліся лічыць.

45. *Сутнасць* рахавання мы пазналі, калі вучыліся лічыць.

46. Але тады нельга апісаць, як мы пераконваемся ў надзейнасці рахавання? Ведама, не! Бо правіла якраз і не выяўляецца. – Аднак найважнейшае ў наступным: правіла не патрабуецца. Можна абысціся і без яго. Мы лічым паводле правіла, і гэтага дастаткова.

47. Вось *так* чалавек лічыць. *Гэта* і ёсць вылічэннем. Тое, што мы, напрыклад, вучылі ў школе. Забудзь гэтую трансцэндэнтную пэўнасць, якая спалучаецца з тваім паймом духу.

[...]

49. Але падумай: нават калі ты ўпэўнены ў разліках, гэта толькі рашэнне на карысць практычнай мэты.

[...]

51. Што можа азначаць наступны сказ: "Як тады выглядала б тут памылка?" Гэта павінен быць лагічны сказ. Але ёсць логіка, якая не ўжываецца, бо яна вучыць, што дзякуючы сказам не вучацца. – Гэта лагічны сказ, бо ён, безумоўна, апісвае адцягненую (моўную) сітуацыю.

52. Таму гэтая сітуацыя не такая ж самая, як у сказе

*палону, другому, піяністу-віртуозу, ампутавалі пасля ранення руку.*

***1915.*** *Просіцца на фронт.*

***1918.*** *Пасля кароткай пабыўкі ў Вене выпраўляецца на паўднёвы фронт. Улетку зноў прыязджае ў Вену і канчае рукапіс "Трактату" (першапачатковая назва – "Der Satz"). Даведваецца, што Дэвід Пінсэнт загінуў у трэніровачным палёце. Вітгенштайн спрабуе пакончыць з жыццём. Вяртаецца на фронт, трапляе ў палон да італьянцаў. У палоне выбірае сабе жыццёвы шлях, вагаючыся між манаствам і настаўніцтвам.*

***1919.*** *Восем месяцаў палону ў Монтэ-Касіна. Кейнз спрабуе паспрыяць у яговым вызваленні, Вітгенштайн адмаўляецца. Па вяртанні ў Вену ён адцураецца рэштkaў свайго багацця. Шукае выдаўцоў, каб выдалі "Трактат...", усе адмаўляюцца, дасылае тэкст Фрэге, той "ані слова не разумее" (паводле словаў Вітгенштайна).*

***1920.*** *Паступае ў педагагічную вучэльню, неўзабаве атрымлівае дыплом. На час летніх вакацыяў наймаецца памочнікам садоўніка ў кляштар. Пасля пачынаецца доўгі перыяд настаўніцтва па аўстрыйскіх вёсках. Бедныя дзеці: ён іх б'е.*

**вагаў пра мову, што цяпер разглядаецца ім не як "адбітак з'яваў", а як самастойны свет.**

**Гэтыя развагі пачынаюцца з тэкстаў 1930 ("Філасофскія заўвагі") і 1931–32 гадоў ("Філасофская граматыка"), але найбольш разгортваюцца ў "Сінім сшытку" (1933–34), калі ўпершыню было распрацавана паняцце "моўнай гульні". "Моўныя гульні, – піша Вітгенштайн, – гэта больш простыя спосабы выкарыстання знакаў, чым тыя, якімі мы выкарыстоўваем іх у выключна ўскладнёным штодзённым маўленні". Яны адлавядаюць тым "прымітыўным" формам мовы, "з якіх пачынае выкарыстоўваць словы дзіця". І калі мы маем намер развеяць "разумовую імглу" вакол спосабу, якім мы выкарыстоўваем словы, важна разгледзець гэтыя гульні, што й было здзейснена праз год у "Рудым сшытку". У першай частцы гэтых запісаў дэтальна вывучаюцца семдзесят тры моўныя гульні. Вось першая з іх, параўнаўча простая: муляр камандуе чаляднiку, каб той перадаваў яму будаўнічыя матэрыялы, і пры гэтым выкарыстоўвае толькі іх найменні: "камень", "цагліна", "плітка". Калі чаляднік перастане блытаць між сабой прадметы, патрэбныя майстру, можна будзе сказаць, што ён зразумеў "сэнс" словаў. Сам факт прыдумляння шматлікіх гульняў гэтага кшталту мае для нас тую карысць, што мы пазбываемся метафізічнага ўяўлення (на якім грунтаваўся "Трактат"), нібыта ў мовы толькі адна (і адзіная) неабходная "форма".**

**Адначасова Вітгенштайн зацікавіўся новымі для сябе галінамі. Ягоную ўвагу прыцягвала перш за ўсё этналогія, яе "практычная карыснасць" і**

***1921.*** *"Трактат" выходзіць па-нямецку са шматлікімі памылкамі (Вітгенштайн не вычытаў карэктуру). Праводзіць летнія вакацыі ў Нарвегіі, у той хатцы, якую ён сам пабудаваў у 1914 годзе.*

***1922.*** *З'яўляецца англійскі пераклад "Логіка-філасофскага трактата" (такую назву нараіў Мур).*

***1923–1926.*** *Працуе настаўнікам. "Венскае кола" пачынае абмяркоўваць "Трактат". Улетку 1926 года паміpae маці. Увосені ён бярэцца спраектаваць і пабудаваць для сястры дом на Кундмангасэ ў Вене, і займаецца гэтым да 1928 года. Логікі "Венскага кола" адкрываюць для сябе Вітгенштайна: чалавека на паўдарозе між навукай і містыкай, геніяльнасцю і нянавісцю да сябе, розумам і вар'яцтвам.*

***1929.*** *Вяртаецца ў Кембрыдж і абараняе "Трактат" як дысертацыю. Атрымлівае тытул доктара Кембрыджскага універсітэта. Натуе шэраг запісаў, якія складуць аснову пасмяротных выданняў ягоных працаў. Пачынае чытаць лекцыі і праводзіць семінары. Публікуе "Пару заўваг пра лагічныя формы". У лістападзе выступае з "Лекцыяй пра этыку". На лета і на каляды вяртаецца ў Вену, дзе*

накшталт "На гэтай адлегласці ад Сонца існуе планета" або "Тут знаходзіцца рука" (менавіта, мая). Другі сказ нельга назваць гіпотэзай. Але паміж імі не існуе выразнай мяжы.

[...]

56. Калі кажуць "Мабыць, гэтай планеты не існуе і святло выпраменьвае нешта іншае", то ўсё-ткі патрабуецца прыклад аб'екта, *які* існуе. Яго не існуе, – як, *напрыклад,...*

Ці неабходна сказаць, што *імавернасць* – гэта толькі канструяваны пункт, да якога набліжаюцца іншы раз больш, іншы раз менш? Не. Сумнеў паступова траціць свой сэнс. Якраз так і *з'яўляецца* гэтая моўная гульня.

І да логікі належыць усё, што апісвае моўную гульню.

[...]

58. Калі разумець "Я ведаю etc." як граматычны сказ, то, натуральна, тут "Я" можа не быць нечым важным. Што па сутнасці азначае "У гэтым выпадку няма сумневу" або "Выказванне "Я не ведаю" не мае сэнсу ў гэтым выпадку". Але з гэтага, аднак, вынікае, што "Я *ведаю*" таксама яго не мае.

59. "Я ведаю" выступае тут лагічным меркаваннем. Толькі рэалізм нельга ўгрунтаваць пры яго дапамозе.

[...]

61. ...Значэнне слова ёсць спосабам яго ўжывання. Тады яно – гэта тое, чым мы авалодваем, калі слова ўпершыню з'яўляецца ў нашай мове.

62. Таму паміж паймом "значэнне" і паймом "правіла" існуе адпаведнасць.

63. Калі ўявіць сабе факты як яны ёсць, то адны моўныя гульні страцяць важнасць, а іншыя яе набудуць. І якраз так, а менавіта паступова, змяняецца ўжыванне словаў у мове.

**"функцыянальнасць", што праяўляюцца ў разглядзе сукупнасці чалавечых культур як адпаведнай колькасці замкнёных, разнастайных, але аднолькава вартых сістэм ("Заўвагі пра "Залатую галіну" Фрэйзэра", 1931). Апроч таго, "усёабдымнасцю" свайго погляду, блізкага да фенаменалагічнага апісання і скіраванага на пэўныя аспекты чалавечых паводзінаў, што разглядаюцца як азначальныя цэлыя, яго цікавіць кшталтпсіхалогія.**

**Такая падвойная, практычная і фенаменалагічная, цікавасць найбольш выходзіць на відно ў трох тэкстах: па-першае, у лекцыях 1938 года пра рэлігійныя вераванні (рэлігійную веру, з навуковага пункта гледжання, нельга ні абгрунтаваць, ні абвергнуць, яна ёсць законнай "формай жыцця"); па-другое, нататкі, зробленыя ім між 1937 і 1941 гадамі ("Заўвагі пра падваліны матэматыкі"), дзе адстойваецца "звычаёвая" канцэпцыя законаў матэматыкі, якія ён цяпер ужо параўноўвае з шахматнымі правіламі; нарэшце, гэта запісы 1946–48 гадоў, якія стануць "Заўвагамі пра падваліны псіхалогіі". Аднак, безумоўна, самая завершаная праца Вітгенштайна на другім этапе ягонага інтэлектуальнага шляху – гэта "Філасофскія доследы".**

**Вітгенштайн пісаў гэты твор з 1936 па 1949 гады і – нязвыклая рэч – быў не супраць апублікаваць яго, але той выйшаў з друку толькі ў 1953 годзе. Можна сказаць, што "Доследы" адразу збілі чытачоў з панталыку. Разгубіцца было чаго: у "Трактаце" паслядоўна выкладаліся пэўныя меркаванні, амаль догмы, і аўтар прадстаўляў іх як канчатковыя, у "Доследах", створаных у форме плыні непасрэднага мыс-**

64. Значэнне слова можна параўнаць з "функцыяй" урадніка. А "разнастайныя значэнні" – з "разнастайнымі функцыямі".

65. Калі змяняюцца моўныя гульні, змяняюцца поймы, а з поймамі і значэнні словаў.

[...]

80. Мера *праўдзівасці* маіх выказванняў правяраецца маім *разуменнем* гэтых выказванняў.

81. Г.зн.: калі я раблю пэўныя памылковыя выказванні, губляецца пэўнасць, ці разумею я іх.

82. Тое, што ўважаецца за дастатковую праверку выказванняў, – належыць да логікі. І, значыцца, да апісання моўнай гульні.

83. *Праўдзівасць* пэўных эмпірычных сказаў належыць да нашай сістэмы суадносных поймаў.

[...]

90. "Я ведаю" ў сваім прымітыўным значэнні падобнае і блізкае да "Я бачу". ("Ведаць", "Videre".) І "Я ведаў, што ён быў у пакоі, але яго не было ў пакоі" аналагічнае "Я бачыў яго ў пакоі, але яго там не было". "Я ведаю" павінна выражаць дачыненне не паміж мной і напоўненым сэнсам сказам (накшталт "Я мяркую"), а паміж мной і фактам. Так, каб *факт* успрымаўся маёй свядомасцю. (У гэтым таксама прычына, чаму бяруцца гаварыць, *ведаючы* па сутнасці не тое, што дзеецца ў вонкавым свеце, а толькі тое, што дзеецца ў абсягу так званых пачуццёвых дадзеных.) Карціна веды была б тады назіраннем вонкавага працэсу дзякуючы зрокавым дадзеным, якія б праектавалі яго, як ён ёсць, на вочы і свядомасць. Толькі адразу ўзнікае пытанне, ці можа гэтая праекцыя быць тады імавернай? Бо гэтая карціна паказвае *ўяўленне,* якое выпрацоўваецца ў нас аб ведзе, але не тое, што ляжыць у яе аснове.

91. Калі Мур кажа, – ён ведае, што Зямля існавала etc.,

*плённа супрацоўнічае з сябрамі Венскага кола, з Шлікам і Вайсманам. Вядзе эксцэнтрычны лад жыцця кембрыджскага інтэлектуала. Пераконвае студэнтаў, каб тыя не йшлі ў філасофію, а лепш выбіралі сабе фізічную працу.*

***1930–1935.*** *Пачынае "Філасофскія заўвагі", "Філасофскую граматыку", рэдагуе частку твораў Фрэйзэра, чытае лекцыі аб праблемах мовы логікі і матэматыкі, надыктоўвае студэнтам свае развагі (што складуць "Сіні сшытак"), у 1934 годзе вандруе па Ірландыі. Вывучае рускую мову, каб у 1935 годзе з'ездзіць у Савецкі Саюз. Камуністам, аднак жа, не сімпатызаваў, хаця марксізм тады ў Кембрыджы быў у модзе. У СССР мае мноства сустрэчаў, найбольш з навукоўцамі і філосафамі, але застаецца расчараваны паездкай. Пачынае семінар па філасофіі і псіхалогіі (сярод студэнтаў – Рыз, Блэк, фон Врыхт, Малкалм). У Кембрыджы групуюцца не толькі англійскія, але й нямецкія, і італьянскія інтэлектуалы, гнаныя фашызмам.*

***1936–1940.*** *Падарожнічае ў Ірландыю, Нарвегію, Вену, раз-пораз вяртаючыся ў Кембрыдж. Чытае "Урокі пра*

**лення, якое паглыбляецца праз дыялог з уяўным суразмоўцам – "скептыкам", аўтар так і не прыходзіць да нейкіх цвёрдых высноваў.**

**У першай частцы "Доследаў" у параўнанні з "Рудым сшыткам" значна пашыраецца паняцце моўнай гульні. Сцвярджаецца, што любая мова – гэта сукупнасць гульняў са сваімі правіламі, звязаных з жыццёвымі сітуацыямі і зусім не ўзаемазамяняльных, хоць некаторыя з іх і маюць "радзіннае падабенства". Іх колькасць патэнцыйна бясконцая: "даць каманду, апісаць прадмет, здаць справу з падзеі, вылучыць гіпотэзу, прыдумаць гісторыі, разгадаць загадку, дасціпна пажартаваць, рашыць матэматычную задачу, перакласці, пахадайнічаць, падзякаваць, праклясці, прывітаць, памаліцца..." (§ 23). Іх сэнс не перадысную ім: іх сэнс можна зразумець толькі ў кантэксце, у якім іх належыць ужываць.**

**Такім чынам, мова – гэта вялізная "скрынка з прыладамі" (§ 11), можна сказаць, што я разумею "значэнне" слова (як і кожнай прылады), калі я разумею, як яно ўжываецца, г.зн. калі я "карыстаюся" ім, не памыляючыся ў правілах, што ім кіруюць.**

**Такое "антраполага-лінгвістычнае" бачанне ведаў раўназначнае велізарнаму *адмаўленню* ад таго, што заўжды (да "Трактата" ўлучна) было галоўнай мэтай заходняй філасофіі. Вось жа, паводле "позняга" Вітгенштайна, мова нічога не паведамляе нам пра структуру свету. Філасофія адразу перастае быць формай спазнання. Зрэшты, і спазнаваць больш няма чаго. Каб веды "функцыянавалі", важна толькі не**

*эстэтыку" і "Урокі пра рэлігійныя вераванні". Да апошняга не верыў, што Гітлер заваюе Аўстрыю. У 1939 годзе робіцца прафесарам Кембрыджскага універсітэта, пераходзіць пад англійскае падданства, наведвае Вену, затым едзе ў ЗША. Ва універсітэце з зацятым нон-канфармізмам не звяртае ўвагі на ўсе акадэмічныя патрабаванні. Падраджаецца добраахвотнікам на медыцынскую службу (Лондан, пасля Ньюкасл): выпрабаванні пасуюць ягонаму стаічнаму характару, а ўвогуле ён лічыць немагчымым займацца акадэмічнай дзейнасцю, калі іншыя ахвяруюць сваім жыццём. У Кембрыдж вяртаецца ў 1944 годзе. Сярод ягоных новых вучняў Энскамб, Айрыс Мэрдак, Тулмін. Рэдагуе рукапіс, з якога паўстаюць "Заўвагі пра падваліны матэматыкі". Працуе таксама над "Філасофскімі доследамі". Гэтым жа часам датуюцца "Заўвагі пра філасофію псіхалогіі" і "Размовы пра Фрэйда". Піша таксама "Усялякія заўвагі", арыгінальныя меркаванні, якія цяпер больш вядомыя, чым ягоныя фундаментальныя працы.*

***1949–1950.*** *Паездкі ў Дублін, Вену, ЗША, сустрэчы з былымі вучнямі, якія замянілі яго на кафедры. У кас-*

то большасць з нас прызнае яго слушнасць у тым, што яна існавала доўга, і паверыць яму, што ён перакананы ў гэтым. Але ці мае ён праўдзівыя *падставы* для сваіх перакананняў? Калі не, то ён усё-ткі гэтага не *ведае* (Расэл).

92. Але можна спытаць: "Ці можа нехта мець важкую падставу для таго, каб верыць, што Зямля пачала існаваць нядаўна, прыблізна толькі з моманту ягоных радзінаў?" – Дапусцім, што так яму гаварылі заўсёды, – і ці меў бы ён тады належныя падставы, каб сумнявацца ў гэтым? Людзі верылі, што яны могуць выклікаць дождж, чаму ж кароль не павінен быў узгадоўвацца ў веры, што разам з ім узнік свет? І калі б у гэткім выпадку Мур ды гэты кароль сустрэліся і пачалі дыскутаваць, ці змог бы сапраўды Мур давесці сваю слушнасць? Я не кажу, што Мур не змог бы навярнуць караля ў свае погляды, але гэта быў бы наварот адмысловага кшталту: кароль сам спрычыніўся б да таго, каб глядзець на свет інакш.

Падумай, часам у *слушнасці* поглядаў праконваюцца дзякуючы іхняй *прастасці* або *сіметрыі,* г.зн.: праз гэта дасягаецца пераход да тых ці іншых поглядаў. Тады кажуць досыць проста: "*Так* павінна быць".

93. Сказы, якія адлюстроўваюць тое, што Мур "*ведае*", усе такога кшталту, што з цяжкасцю можна ўявіць сабе, *чаму* нехта мусіць верыць у адваротнае. Напрыклад, сказ, што Мур усё сваё жыццё правёў на Зямлі. – Я таксама мог бы сказаць гэта ад самога сябе замест Мура. Што можа прывесці мяне да таго, каб паверыць у адваротнае? Або ўспаміны, або тое, што мне гэта сказалі. – Усё, што я пабачыў або пачуў, умацоўвае мяне ў перакананні, што ніводны чалавек ніколі далёка не аддаляўся ад Зямлі. Нішто ў маёй карціне свету не прамаўляе за адваротнае.

94. Але сваю карціну свету я маю не таму, што мяне пераканалі ў яе слушнасці; і не таму, што я сам пераканаўся ў яе слушнасці. Гэта толькі ўсёабсяжная падаснова, на фоне якой я раблю адрозненне паміж праўдзівым і фальшывым.

**парушаць правілаў граматыкі. Гэта вельмі ясна сфармулявана ў § 124: "Філасофія ніяк не павінна чапаць існае моваўжыванне. Яна можа толькі апісваць яго. Бо стварыць яго яна таксама б не здолела. Яна пакідае ўсё такім, якім яно ёсць. Яна пакідае матэматыку такой, якою яна ёсць, і ніякае матэматычнае адкрыццё не здольнае прасунуць яе наперад".**

**Падобныя меркаванні даюць падставу для "нейтралісцкага" прачытання "Доследаў": так падышоў да іх, напрыклад, Джон Л. Остын, заснавальнік філасофіі "звычайнай мовы". Остын не адпрэчвае метафізічныя пытанні і лічыць, што на іх можна даць канчатковыя адказы, дзякуючы ўважліваму вывучэнню нашых моўных практык. Яшчэ пазней неапрагматык Рычард Рорты прапанаваў пагатоў радыкальную інтэрпрэтацыю працы Вітгенштайна, сцвярджаючы, што "Філасофскія доследы" – гэта подпіс пад актам пра смерць заходняй філасофіі.**

**Аднак усё ж, мабыць, нельга так баналізаваць думку позняга Вітгенштайна. З аднога боку, як слушна зазначыў адзін з лепшых ягоных тлумачальнікаў, Стэнлі Кевэл, сур'ёзна ставіцца да звычайнай мовы азначае для Вітгенштайна ўсвядоміць нашу абмежаванасць бяссэнсіцай і вар'яцтвам, якія ў кожным з нас ёсць – усвядоміць, каб яшчэ больш прымірыцца з ёй. Калі падыходзіць з такога "экзістэнцыйнага" пункта гледжання, то, прынамсі, робіцца немагчыма паставіць пад сумненне скептыцызм.**

**З іншага боку, граматыка сама няздольная перашкодзіць нам парушаць яе. Значыць, згодна з Вітгенштайнам, адна функцыя ў філасофіі ўсё ж за-**

95. Сказы, якія апісваюць карціну свету, могуць належаць да своеасаблівай міфалогіі. Яе роля падобная да правілаў гульні, а гульнёй можна таксама авалодаць чыста практычна, без выяўных правілаў.

96. Можна ўявіць сабе, што пэўныя сказы застылі ў форме эмпірычных сказаў і функцыянуюць як кіраўнічая інстанцыя для незастылых, плынных эмпірычных сказаў; і што гэтыя суадносіны з часам змяняюцца, паколькі плынныя сказы застываюць і спакваля становяцца цвёрдымі.

97. Міфалогія можа зноў увайсці ў раку, зрушыўшы рэчышча думак. Але я раблю адрозненне паміж рухам вады ў рэчышчы і зрушэннем гэтага рэчышча; дарма што выразнага падзелу паміж імі не існуе.

98. Аднак калі нехта скажа: "Такім чынам, існуе таксама і логіка эмпірычнай навукі", ён не будзе мець рацыі. Але будзе слушным тое, што адзін і той жа сказ можа разглядацца адначасна як вымагаючы праверкі з гледзішча досведу, і адначасна як правіла праверкі.

99. Так, бераг той ракі складаецца часткова з крамянага каменя, які падлягае павольным і незаўважным змяненням, і часткова з пяску, які зносіцца і наносіцца вадой.
[...]

105. Усё выпрабаванне, усё пацверджанне або зняпраўджанне гіпотэзы адбываецца ўжо ў рамках сістэмы. А менавіта такой сістэмы, якая ёсць не больш ці менш адвольным і сумнеўным зыходным пунктам усіх нашых аргументаў, але якая належыць да сутнасці таго, што мы называем аргументам. Сістэма ёсць не столькі зыходным пунктам, колькі жыццёвым элементам аргументаў.
[...]

111. "Я *ведаю*, што я ніколі не быў на Месяцы". – Гэта гучыць зусім інакш пры існуючых абставінах, чым магло б гучаць, калі б некалькі чалавек пабывала на Месяцы, хтосьці з іх, магчыма, сам таго не ведаючы. У *гэтым* выпадку

*трычніку 1949 года дазнаецца, што ў яго рак прастаты, аднак дыктуе далей другую частку "Філасофскіх доследаў", потым выязджае ў Вену, дзе зімуе ў сваякоў. Жыве то ў аднога, то ў другога са сваіх былых вучняў і вучаніц, едзе ў апошні раз у Нарвегію, зноў вяртаецца ў Аўстрыю да сваякоў.*

***1951.*** *Складае запавет, атабарваецца ў свайго лекара, доктара Бівана, працягвае працу над рукапісамі ("Заўвагі пра колеры", "Пра імавернасць"). Большасць з ягоных рукапісаў, як апошніх, так і ранейшых, будзе надрукавана па-англійску і па-нямецку толькі ў 1970-я гады. Перад тым як страціць прытомнасць, быццам бы кажа жонцы доктара Бівана: "Скажыце ім, што для мяне маё жыццё было цудоўным". Памёр 29 красавіка, праз тры ночы пасля дня нараджэння, пахаваны 1 мая.*

**Падрыхтаваў**
**Андрэй ДЫНЬКО.**

**стаецца: лячэнне "хваробаў", якія яна сама выклікала. Толькі спосабы гэтага лячэння, прапанаваныя ў другой частцы "Філасофскіх доследаў", зусім іншага парадку, чым тыя, да якіх адсылае "Трактат": цяпер Вітгенштайн скіроўвае чытачоў не да логікі, а да псіхалогіі. Сапраўды, гаворка не ідзе пра аналіз структураў метафізічных прапазіцый дзеля іх растлумачэння, ідзецца перадусім пра "дэмантаж" разумовых працэсаў, якія прыводзяць нас да фармулявання такіх прапазіцый. Карацей, іншым шляхам да той самай мэты, толькі гэты іншы шлях нашмат складанейшы і праходзіць пад знакам песімізму.**

**Той самы песімізм прабіваецца і з некаторых старонак "Усялякіх заўваг" (1945–1947). У іх Вітгенштайн даходзіць да таго, што зычыць, каб "атамная бомба" хутчэй зруйнавала ўсё чалавецтва. Аднак пры гэтым філосаф не замыкаецца ў маўчанні, а наадварот, бярэцца працягваць псіхалагічныя доследы, запачаткаваныя ў "Доследах", і апошнія гады жыцця аддае "Заўвагам пра колеры", а затым распачынае новую працу, красамоўна прысвечаную пытанню "імавернасці".**

**Ягоная заўчасная смерць у 62 гады не дазволіла яму скончыць гэтую работу, а калі браць шырэй, не дазволіла яму надаць сваёй думцы канчатковую форму, пры якой у ёй не засталося б цёмных месцаў. Нам няма іншага выйсця, як самастойна чытаць і перачытваць гэтыя загадкавыя тэксты, багацце якіх яшчэ не хутка будзе вычарпана.**

**Крыстыян ДЭЛЯКАМПАНЬ**

# Людвіг ВІТГЕНШТАЙН пра сябе ды пра іншае

Мне зусім не зразумела, чаго б я хацеў болей – працягу маёй працы іншымі ці змены вобразу жыцця, з чаго б усе гэтыя пытанні сталіся марнымі.

***

Там, дзе другія ідуць далей, я раблю прыпынак.

***

Архітэктура нешта вялічыць і ўслаўляе. Таму там, дзе няма чаго ўслаўляць, не можа быць архітэктуры.

***

Лёс супрацьстаіць натуральнаму закону. Натуральны закон мы імкнемся абгрунтаваць і скарыстаць, а лёс – не.

***

З хібамі ўласнага стылю трэба *змірыцца*. Прыкладна гэтак жа сама, як і з хібамі ўласнага твару.

***

Калі тое, што ты пішаш, цяжка зразумець, то атрымліваецца, што ты дрэнны філосаф? Калі б ты быў добрым

можна было б намацаць падставы для гэткай веды. Ці няма тут падобнага дычынення, як паміж агульным правілам памнажэння і пэўнымі выкананымі памнажэннямі?

Я хачу сказаць: тое, што я не быў на Месяцы, для мяне відавочна *ў такой жа меры*, як гэта можа ўстанавіць якое-колечы абгрунтаванне.

[...]

113. Калі нехта хоча навучыць нас матэматыцы, ён не павінен пачынаць з запэўніванняў, што ён *ведае:* a+b=b+a.

114. Той, хто не ўпэўнены ў фактах, не можа быць упэўнены і ў сэнсе сваіх словаў.

115. Той, хто схацеў бы сумнявацца ўва ўсім, таксама не змог бы дасягнуць татальнага сумневу. Гульня ў сумненне ўжо сама прадвызначае ўпэўненасць.

[...]

121. Можна сказаць: “Там, дзе няма сумневу, няма таксама і веды?”

122. Для сумневу не патрабуецца падставаў?

123. У тым, што я бачу, я не знаходжу падставы, каб сумнявацца ў тым, што...

124. Я хачу сказаць: мы выкарыстоўваем меркаванні ў якасці прынцыпаў меркавання.

125. Калі б сляпы спытаўся ў мяне: “У цябе дзве рукі?”, то, зірнуўшы на іх, я б не ўпэўніўся ў гэтым. Так, я не ведаю, чаму я павінен давяраць маім вачам, калі я наогул сумняваюся ў гэтым. Так, чаму я не павінен праверыць свае *вочы* наконт таго, што я бачу, ці ўгледзеў я абедзве рукі? *Што* належыць праверыць *пры дапамозе гэтага?!* (Хто вызначае тое, *што* неабходна ўстанавіць?)

І што азначае выказванне: тое і тое ўстаноўлена?

# “ВЕРШНАСЦЬ” ЭТЫКІ

**Мала хто з волатаў думкі XX ст. так шанаваў этыку, як Вітгенштайн. Я кажу пра этыку, а не пра мараль, бо ў этыкі, сцісла кажучы, няма іншай цікавасці, апроч як да “сябе” і дасягнення згоды “я” з самім сабой, тады як мараль цікавіцца хутчэй неэгаістычнымі і ўнутрысвецкімі дачыненнямі, якія гэты “сам” *можа быць* абавязаны падтрымліваць з падобнымі да сябе.**

**Паводле словаў Вітгенштайна, этыка стаіць вышэй за ўсю рэшту, этыка – гэта нешта “Вышэйшае”, das Höhere (“Трактат”, 6.432). Парадокс жа, які часта надае ёй пэўны арэол і містыфікуе яе ў нашых вачах, заключаецца ў тым, што этычных прапазіцый не існуе і існаваць не можа, паколькі кожная прапазіцыя мае такое ж значэнне, як і любая іншая (6.4), і паколькі прапазіцыя як “адбітак рэчаіснасці” (4.01) не можа выказваць нічога вышэйшага за фактычнасць гэтай рэчаіснасці (6.42). Больш таго, этыка – трэба было б сказаць “Асноўнае, этыка”, бо менавіта сюды нанёс галоўны ўдар Вітгенштайн, – вышэйшая за *любую* мараль. Так, на крыжовае пытанне: “Ці магчымая этыка, калі апроч мяне няма нікога жывога?” – ён адказваў: “Так, этыка мае быць нечым асноватворным” (“Дзённікі”).**

**Сапраўды, колькі “жывая істота” будзе жывой і будзе**

126. Я не ўпэўнены ў значэнні маіх словаў як вызначаных меркаванняў. Я магу сумнявацца, што гэтая фарба называецца "блакітнай"?

(Мае) сумневы ўтвараюць сістэму.

127. Тады як мне ведаць, што нехта сумняваецца. Як мне ведаць, што ён словы "Я сумняваюся ў гэтым" ужывае гэтак жа, як і я?

128. Я навучыўся меркаваць гэтак. *Гэта і ёсць* меркаванне.

129. Гэтак я навучыўся меркаваць; *гэта* я засвоіў як меркаванне.

130. Але гэта не досвед, які вучыць нас меркаваць *гэтак*, г.зн., што правільна меркаваць гэтак? Але ж як досвед *вучыць* нас? Мы можам зрабіць з яго выснову, але досвед не радзіць нам, каб нешта высноўвалі з яго. Калі ён ёсць *падставай*, каб мы меркавалі так (а не проста прычынай), то мы зноў не маем падставы для таго, каб разглядаць гэта як падставу.

131. Не, досвед – гэта не падстава для нашай гульні меркаванняў. І таксама не яе выдатны вынік.

132. Людзі меркавалі, што кароль можа выклікаць дождж; *мы* кажам, што гэта супярэчыць усяму досведу. Сёння мяркуюць, што аэраплан, радыё etc. будуць сродкам збліжэння народаў і пашырэння культуры.

[...]

135. Але ці не прытрымліваемся мы проста прынцыпу: тое, што адбывалася *заўсёды*, будзе адбывацца і надалей (або нечага падобнага)? – Што азначае прытрымлівацца прынцыпу? Што гэта сапраўды прыўносіць у нашыя разважанні? Ці гэта толькі *закон прыроды*, якога нібыта прытрымліваецца хада нашых развагаў? Хутчэй апошняе. Гэта не звяно нашых разважанняў.

філосафам, ты зрабіў бы складанае простым для ўразумення. – Але хто сказаў, што гэта магчыма.

***

Калі хрысціянства ісціннае, то ўся філасофія аб ім аблудная.

***

Адна эпоха не разумее другую; а нікчэмная эпоха зласліва мяркуе пра ўсе іншыя па сваіх, уласных, мізэрных мерках.

***

Цяжка паказваць дарогу блізарукаму. Бо яму не скажаш: "Зірні на званіцу, што ў дзесяці мілях ад нас, і руш у тым накірунку".

***

Мой ідэал – пэўная стрыманасць. Храм, які дае прытулак страсцям, але не тоесніцца з імі.

***

Калі мы думаем пра будучыню свету, мы заўсёды мяркуем, дзе ён апынецца, калі будзе рухацца ў тым напрамку, у якім, згодна нашым уяўленням, ён рухаецца зараз. А пра тое, што свет рухаецца не напрасткі, а па крывой, напрамак якой увесь час мяняецца, мы не думаем.

**"чуць жыццё" ў сабе, як сказаў бы Жан-Жак Русо, працы якога Вітгенштайн добра ведаў, ёй заўжды, хай сабе і ў адсутнасць любога Mitsein, любога "быцця-з", патрэбна будзе этыка. І таму, хто быў бы на зямлі сам адзін, без братоў сваіх, сяброў, таварыства, этыка патрабавалася б яшчэ больш. Сёння ўсё адказвае нам, што мы маем як найхутчэй *засвоіць* тое незвычайнае спалучэнне этыкі і саліпсізму, якое прапануе нам Вітгенштайн, інача мы не трапім у браму, што магла б вывесці нас на прастор XXI стагоддзя.**

**Так, этыка – рэч асноватворная, больш фундаментальная, чым мараль, чым стасункі між людзьмі, чым грамадства, гісторыя і свет, калі бачыць у ім толькі сукупнасць фактаў. Так, Вышэйшае не належыць да гэтага свету, яно не на ім, яно не ўдзельнічае ў ім у якасці аднога з фактаў ці магчымага стану рэчаў. Аднак пры гэтым яно ў "нас", а мы на гэтым свеце; яно не недзе там, не на нейкім "тым свеце", які нам шчасціць наведваць у снах ці пасля смерці; яно ў нас, бо мы ўдзельнічаем у тым, што, не належачы да свету, з'яўляецца проста "невымоўным".**

**"Невымоўнае", безумоўна, ёсць. Яно праяўляе сябе, яно ёсць Містычным ("Трактат", 6.552). Што ж тады такое Містычнае? Адказ Вітгенштайна: "Містычнае не ў тым, *які́м* ёсць свет, а ў тым, што ён *ёсць светам*" (6.44). Такім чынам, Містычнае не адсылае ні да найвышэйшых асноваў – ні нават да "вышэйшых" асноваў, – ні да ўнутранай ці вонкавай прычыны свету (якой бы ні была тая прычына: выніковай, матэрыяльнай ці мэтавай): яно ёсць праявай свету ў ягоным (свету) Quid**

***

Я мог бы сказаць: калі б да таго месца, куды я імкнуся, можна было б патрапіць толькі па драбіне, то я б адмовіўся туды лезці. Бо месца, куды мне сапраўды трэба імкнуцца, павінна быць тым месцам, якое я ўжо займаю.

Тое, што можна дасягнуць пасродкам драбіны, мяне не цікавіць.

***

Мы змагаемся з мовай. Мы знаходзімся ў стане вайны з ёй.

***

Часам кажуць, што новая рэлігія бэсціць усіх багоў былой, называючы іх чарцямі. Але можа быць, да гэтай пары яны і сапраўды ўжо сталі чарцямі.

***

Праца ў філасофіі – як шмат у чым і ў архітэктуры – гэта ў значнай ступені праца над самім сабой. Над уласным гледзішчам.

***

Цікавую аналогію можна выснаваць з таго, што акуляр нават гіганцкага мікраскопа не можа быць большым, чым нашае вока.

136. Калі Мур кажа, што ён *ведае* тое і тое, ён насамрэч прыводзіць выключна эмпірычныя сказы, якія мы прымаем без асаблівай праверкі, сказы, якія ў сістэме нашых эмпірычных сказаў выконваюць своеасаблівую лагічную ролю.

137. Нават калі найпраўдзівейшы чалавек запэўніць мяне, што ён *ведае,* – гэта будзе так і так, я не змагу толькі па гэтым пераканаць сябе, што ён гэта ведае. Толькі па тым, што ён верыць, што ведае гэта. Таму запэўніванне Мура, што ён ведае... нас можа не цікавіць. Але сказы, якія Мур прыводзіць у якасці прыкладаў гэтых зведаных праўдаў, будуць, рэч ясная, цікавымі. Не таму, што нехта ведае іхнюю праўдзівасць або верыць, што ведае яе, а таму, што ўсе яны ў сістэме нашых эмпірычных сказаў выконваюць *падобную* ролю.

138. Толькі мы не наблізімся да ніводнага з іх пры дапамозе даследавання. Існуюць, напрыклад, гістарычнае даследаванне і даследаванне формы ды ўзросту Зямлі, але не таго, ці існавала Зямля ў апошнія 100 гадоў. Вядома, шмат хто з нас атрымлівае звесткі аб гэтым перыядзе ад сваіх бацькоў, дзядоў, але ж ці не могуць яны памыляцца? – Скажуць "Нонсэнс", "Як жа тады павінны памыляцца ўсе гэтыя людзі!". Але хіба гэта аргумент? Ці гэта не ёсць проста адмаўленне ад новай ідэі? Ці нечага накшталт вызначэння пайма? Калі я прамаўляю тут аб магчымай памылцы, то гэта змяняе тую ролю, якую "памылка" і "праўда" выконваюць у нашым жыцці.

139. Каб устанавіць праксіс, недастаткова правілаў, але патрабуюцца і прыклады. Нашыя правілы пакідаюць прабелы, і праксіс сам павінен гаварыць за сябе.

140. Мы не вучымся праксісу эмпірычнага меркавання, паколькі мы вучымся правілам; гэта *меркаванні* і іхняя лучнасць з іншымі меркаваннямі навучаюць нас. *Сукупнасць* меркаванняў робіць нас зразумелымі.

141. Калі мы пачынаем *верыць* у нешта, то не праз

**(5.552) і, адсюль, "пачуццём свету як абмежаванага цэлага", што для Вітгенштайна значыць sub specie aeterni (6.45).**

**Тое невымоўнае, якое ўласціва сферы этыкі, не праяўляецца, аднак, у тым, якім спосабам ажыццяўляецца адлюстраванне ці абазначэнне, як гэта адбываецца з "лагічнай формай" у мове. Яно праяўляецца ў форме *змянення ладу жыцця,* пераходу "пакутаў" у пэўнае "задавальненне", які, згодна з "Трактатам", адзін толькі здольны паўплываць на самую *ёмістасць* свету як абмежаванага цэлага ці, іншымі словамі, рассунуць межы свету. Вітгенштайн выказвае гэта наступным чынам: "Свет шчаслівага чалавека не такі, як свет няшчаснага чалавека" (6.43).**

**Нам дадзена здзейсніць менавіта гэтае "эмацыйнае" змяненне межаў свету – "пашырэнне" свету-ў-ягонай-цэласнасці, абавязанае шчасцю, або ягонае "звужэнне", абавязанае няшчасцю (6.43), – і нічога іншага нам не дадзена. Усё астатняе нас унікае. Таму ўся Вітгенштайнава мудрасць крышталізуецца, так бы мовіць, у волі да здабыцця асабістага шчасця, у імкненні да ўнутранай "мірацворнасці" ("Дзённікі"), да гэтае асалоды, бадай крохкай, бо залежнай ад ласкі цяперашнасці, якая, аднак, вынікае, зыходзіць ад самога жыцця, ад таго, што яно адкрывае сваю "шматколернасць" ("Усялякія заўвагі") і здольнасць жывіцца адно *сабой*, сваёй уласнай існасцю, сатканай з учынкаў і жарсцяў (тамсама).**

**"Добра рабіць і нічога не казаць", – вось такім мае быць этычны лад дзеяння (гэта, як і шмат чаго іншага, трапна вылучыў Жак Буўрэс у сваёй выдатнай працы "Вітгенштайн: рыфма і розум"): рабіць "до-**

асобны сказ, а праз цэлую сістэму сказаў. (Святло спакваля ўзыходзіць над усім.)

142. Не асобныя аксіёмы пераконваюць мяне, а сістэма, у якой *узаема*пераплятаюцца наследкі й перадумовы.

143. Напрыклад, мне сказалі, што нехта, маўляў, шмат гадоў таму ўзняўся на гэтую гару. Ці даследаваць мне, як заўсёды, праўдзівасць апавядальніка, а таксама тое, ці існавала тады гэтая гара? Дзіцё шмат пазней зразумее, што існуюць праўдзівыя і няпраўдзівыя апавядальнікі, чым засвоіць факты, пра якія яму паведамілі. Яно не засвойвае, што тая гара існавала ўжо даўно, – *зусім не;* г.зн., пытанне, ці было гэта насамрэч, перад ім не паўстае. Праглынаецца, так бы мовіць, гэтая выснова разам з усім тым, *чаму* яго вучаць.

[...]

146. Мы ствараем сабе паводле *вобраза* Зямлі кулю, якая вольна плыве ў паветры і істотна не змяняецца за 100 гадоў. Я кажу: "Мы стварылі сабе *вобраз* etc.", і гэты вобраз дапаможа нам абмеркаваць разнастайныя станы рэчаў.

Я магу, зразумела, распазнаць усе памеры мосту, часам разлічыць і тое, што мост тут выгаднейшы за паром etc.etc., – але дзе-небудзь мне давядзецца пачаць з дапушчэнняў і (валявых) рашэнняў.

147. Вобраз зямлі як кулі – гэта *добры* вобраз, ён прыдаецца паўсюль, гэта таксама просты вобраз – карацей, мы працуем з ім без сумнення ў яго дакладнасці.

148. Чаму я не пераконваюся ў тым, што я яшчэ маю дзве нагі, калі хачу ўзняцца з крэсла? Не трэба ніякіх запытанняў. Проста я гэтага не раблю. Я дзейнічаю так.

149. Мае меркаванні самі характарызуюць спосаб, праз які я мяркую пра існасць меркавання.

150. Як чалавек вызначае, якая яго рука правая і якая

***

Мова для ўсіх рыхтуе падобныя пасткі, шырокую сетку наезджаных аблудных дарог. І мы бачым, як адзін за другім людзі ідуць па гэтаму лабірынту, наперад ведаючы, што вось тут чалавек збочыць, тут пройдзе прама, не заўважыўшы скрыжавання і г.д. і да т.п. Адсюль вынікае, што ва ўсіх месцах, дзе дарогі накіроўваюцца ў тупік, я павінен паставіць шыльдачкі, якія дапамогуць абмінуць гэтыя небяспечныя месцы.

***

Сапраўднай заслугай Каперніка ці Дарвіна было не адкрыццё тэорый, а выяўленне новага аспекта, перспектыўна новага гледзішча.

***

І думкі часам падаюць з дрэва нявыспелымі.

***

Песціцца на лаўрах гэтак сама небяспечна, як адпачываць на снезе. Заснеш і памрэш у сне.

***

Ні ў чым не апраўдвайся, нічога не хавай, глядзі і кажы як усё ёсць у сапраўднасці, – але пры гэтым ты мусіш заўважаць тое, што высвятляе новыя факты.

**брае", якое нельга ідэалізаваць, пераўвасабляць, ставіць у адрыве ад самога дзеяння. Бо калі папраўдзе "мусяць быць нейкія этычныя кара і ўзнагарода", дык яны "павінны знаходзіцца ў самой дзеі" ("Трактат", 6.422). У гэтым Вітгенштайн збліжаецца са Спінозам (у V кнізе "Этыкі": "Шчасце не ёсць заплатай за дабрадзейства, шчасце – гэта самое дабрадзейства") і пагатоў Русо, для якога "задавальненне сваёй добрай работай – гэта ўзнагарода за тое, што добра зрабіў" ("Эміль"). А ў наступнай парадзе, зробленай Вітгенштайнам сабе самому ў 1948 годзе, ёсць нешта сапраўды ніцшэанскае: "З кожнай сваёй памылкі рабі набытак" ("Усялякія заўвагі").**

**Вось жа, паколькі нам заўжды ўжо дадзена жыццё, нам *ужо дадзена ўсё,* у тым ліку і неабходнасць ужыць гэтае жыццё найлепшым з магчымых чынам. Ці ўмеем мы гэта? Ці ёсць у нашым распараджэнні неабходныя правілы, каб мы маглі забяспечыць гэты найлепшы "ўжытак"? І ці *маем* мы падпарадкоўвацца гэтым правілам? Ці гэты ўжытак свой для кожнага з нас – у залежнасці ад таго, якую "форму жыцця" хто вядзе, у залежнасці ад яго-нага асабістага характару, прыроды жаданняў і межаў здольнасцяў?**

**Як трапна падкрэсліў Бууўрэс, этыка ранняга Вітгенштайна характарызуецца "амаль што поўнай адсутнасцю паняцця абавязку", на якую накладаецца "характэрная адсутнасць спасылкі на праблему іншага" (Бууўрэс там прыгадвае і каментуе яшчэ й фразу "Ein Solt an sich ist unsinning" – "узнагарода сама сабой бессэнсоўная", што належыць Вітгенштайну, а магла б выйсці**

***

Чалавек не ў стане апрацоўваць аблокі. З гэтага атрымліваецца, што будучае, пра якое ён марыць, рэальна ніколі не надыходзіць.

***

Цяпер мы змагаемся супраць нейкага накірунку. Але гэты накірунак знікне, адслонены іншымі, тады нашыя аргументы супраць яго перастануць быць уцямнымі; станецца незразумелым, навошта ўсё гэта было казаць.

***

Вер! Гэта не зашкодзіць.

***

Калі замацоўваецца новы вобраз мыслення, то старыя праблемы знікаюць, больш за тое, становіцца цяжка зразумець, у чым жа яны палягалі. Рэч у тым, што яны былі ўцялесненыя ў спосаб выражэння, а паколькі цяпер дамінуе іншы спосаб выражэння, то разам з папярэднім здымаюцца і былыя праблемы.

***

Істэрычны страх перад атамнай бомбай, які сёння адчуваецца ці прынамсі публічна выяўляецца, бадай, ёсць прыкметай таго, што нарэшце вынайдзена сапраўды нешта гаю-

левая? Адкуль мне ведаць, што маё меркаванне супадае з меркаваннем іншага. Адкуль мне ведаць, што гэтая фарба блакітная? Калі я тут не давяраю *сабе,* чаму я павінен давяраць меркаванню іншага? Ці існуе падстава для недаверу? Ці не давядзецца мне дзе-небудзь пачаць давяраць? Г.зн. мне давядзецца дзе-небудзь пачаць з адсутнасці сумневу; і гэта не будзе, так бы мовіць, нечым выпадковым, а прыналежным да самой сутнасці меркавання.

[...]

156. Ужо таму, што чалавек памыляецца, яму даводзіцца меркаваць аднолькавым з чалавецтвам чынам.

157. Уявім сабе сітуацыю, калі чалавек не можа прыгадаць, ці было ў яго заўсёды пяць пальцаў і дзве рукі? Ці змаглі б мы зразумець яго? Ці маглі б мы быць упэўненыя, што разумеем яго?

158. Ці магу я памыляцца, напрыклад, у тым, што простыя словы, якія ўтвараюць гэты сказ, з'яўляюцца нямецкімі словамі, значэнне якіх я знаю?

159. Мы, як дзеці, вучымся фактам, напрыклад, што ў кожнага чалавека ёсць мазгі, і мы ставімся да іх даверліва. Я веру, што абток Аўстралія мае такую і такую форму і г.д. і да т.п., я веру, што ў мяне былі продкі, што людзі, якія выдаюць сябе за маіх бацькоў, сапраўды мае бацькі, etc. Гэтую веру немагчыма выказаць, а думку, што гэта напраўду так, будзе немагчыма здумаць.

160. Дзіцё вучыцца, таму што яно верыць даросламу. Сумнеў надыходзіць *пасля* веры.

161. Я навучыўся безліч чаму, і ўсё гэта дзякуючы аўтарытэту людзей, і хай нехта спрабуе пацвердзіць або зняпраўдзіць маё веданне праз уласны досвед.

162. Тое, што змешчана ў школьных падручніках, напрыклад, геаграфіі, я ў асноўным лічу праўдзівым. Чаму? Я скажу: усе гэтыя факты былі пацверджаныя сто

**з-пад пяра Шапэнгаўэра). Такім чынам, у Вітгенштайна ідзецца пра этыку (ці мудрасць), а не пра мараль. Тут можна яшчэ дадаць, што мысленне Вітгенштайна вылучаецца таксама амаль поўнай адсутнасцю "асновы"; каб зрабіць уласную пазіцыю яснейшай, Вітгенштайн скарыстаўся з базавай формулы Шапэнгаўэра ("Адстойваць мараль няцяжка, цяжка заснаваць яе") – перафразаваўшы яе вось як: "Адстойваць мараль вельмі няпроста, а заснаваць яе немагчыма".**

**Перш я казаў пра пэўны *ужытак* жыцця. Вітгенштайн пісаў у "Дзённіках" на гэты конт: "Я шчаслівы або няшчасны, вось і ўсё. Можна сказаць: няма дабра й зла. [...] І калі я цяпер сам сабе думаю, чаму я маю быць шчаслівы, самое пытанне здаецца мне таўталогіяй; мусіць, шчаслівае жыццё само апраўдвае сябе, шчаслівае жыццё – адзінае правільнае жыццё". Адзінае правільнае жыццё – гэта адчуванне шчасця, а жыць шчасна, значыць, жыць жыццём, якому не трэба нічога, апроч яго самога, якое апраўдваецца толькі сабой самім і набывае ўласнае значэнне толькі праз сябе (а не праз прыемнасці свету). Гэта й ёсць галоўным дасягненнем "Трактата" ў этычным плане: сцвярджэнне нячасавасці жыцця, г.зн., ягонай непрыналежнасці да сусвету з'яваў і фактаў. Сцвярджэнне, што жыццё – нячасавае, адназначна сцвярджэнню, што жыццё адчуваецца ў цяперашнім часе, што яно – цяперашні час *сябе.* Такога цяперашняга часу стае, каб зрабіць жыццё вечным, калі пад вечнасцю разумець нешта зусім іншае, чым бясконцую працягласць. Прапазіцыя 6.4311 выразна кажа нам: калі пад вечнасцю разумець не**

разоў. Але як гэта стала вядома? На чым трымаецца мая пэўнасць у гэтым? У мяне ёсць карціна свету. Праўдзівая яна або памылковая? У гэтым перадусім і палягае субстрат усяго майго даследавання і сцвярджэння. Сказы, якія апісваюць гэта, не ўсе ў роўнай ступені падлягаюць праверцы.

163. Ці правярае сёй-той хоць калі, ці гэты стол застаецца тут стаяць, калі ніхто яго не пільнуе?

Мы спраўджваем гісторыю Напалеона, а не тое, ці не заснаваныя ўсе паведамленні аб ім на перакручванні фактаў, ашуцы і пад. Так, калі мы правяраем наогул, мы гэтым ужо прадвызначаем нешта, што не будзе праверана. Ці павінен я цяпер сказаць, што эксперымент, які я раблю практычна для праверкі аднаго сказа, прадвызначае праўдзівасць сказа, і што тут сапраўды знаходзіцца апарат, якому я давяраю (і пад.)?

164. Спраўджванне не мае канца?

165. Дзіцё можа сказаць некаму іншаму: "Я ведаю, што Зямля ўжо налічвае шмат соцень гадоў", што азначае: я навучылася гэтаму.

166. Цяжкасць у тым, каб усвядоміць беспадстаўнасць нашай веры.

167. Тое, што не ўсе нашыя эмпірычныя выказванні маюць аднолькавы статус, ясна, бо можна перарабіць сказ і з эмпірычнага сказа зрабіць яго нормай апісання.

Падумай аб хімічных доследах. Лавуаз'е рабіў эксперыменты з рэчывамі ў сваёй лабараторыі і выснаваў, што пры згаранні дзеецца тое і тое. Ён не сказаў, што ў іншым выпадку гэта, ведама, магло адбыцца інакш. Ён авалодаў пэўнай карцінай свету і, натуральна, ён яе не вынайшаў сам, а навучыўся як дзіцё. Я кажу карціна свету, а не гіпотэза таму, што першая – відавочная падстава ягонага даследавання, і як такая таксама не артыкулюецца.

чае. Прынамсі гэты страх нагадвае стаўленне да сапраўды эфектыўных, але горкіх лекаў. Я не магу пазбавіцца ад адной думкі: калі б у гэтым не было нічога станоўчага, то *філісцёр* не енчыў бы. Але магчыма, гэта і дзіцячая думка. Рэч у тым, што я ў сувязі з гэтым здольны думаць толькі аб той перспектыве, якую перад намі расхінае атамная бомба, – пра канец, разбурэнне агіднага зла – гідкіх мыльна-брудных адкідаў навукі. Гэта, пэўна, не такая ўжо і дрэнная думка; але хто скажа, што было б наследкам такога разбурэння? Тыя, хто сёння агалошваюць прамовы супраць вынаходніцтва бомбы, бясспрэчна, – адкіды інтэлігенцыі, але з гэтага зусім не вынікае, быццам трэба ўхваляць тое, што яны ненавідзяць.

***

Дастаткова *дзіўна* тое, што людзі схільныя думаць пра цывілізацыю – дамы, вуліцы, транспарт і г.д., – як пра нешта, што аддаляе чалавека ад яго пачаткаў, ад высокага, вечнага і г.д. Увесь гэты цывілізаваны асяродак, уключна з дубравамі і пасадкамі, уяўляецца як бы запакаваным у танны цэлафан і аддзелены ад усяго вялікага і, так бы мовіць, ад Бога. Досыць дзіўнае ўяўлен-

**бясконцую працягласць, а нячасавасць, тады той, хто жыве цяперашнім, мае жыццё вечнае. Такім чынам, паколькі жыццё ёсць толькі ў цяперашнім часе, то любое жыццё ў гэтым сэнсе вечнае, паколькі "смерць не з'яўляецца падзеяй жыцця" (бо "смерць нельга пражыць" ["Трактат", 6.4311]), і ёсць усе падставы сцвярджаць, што ў сцверджанні нячасавасці жыцця няма ніякай загадкі (6.5).**

**Дык што ж такое гэтае "вечнае жыццё", калі яно нават не *я сам?* Вось жа, вяртаючыся да "Лекцый пра этыку", Вітгенштайн напрыканцы больш дакладна вызначыць месца *здзяйснення і ажыццяўлення* этыкі: "Пад канец лекцыі [...] я гаварыў ад першай асобы. Як па-мойму, у гэтым ёсць нешта выключна важнае. На гэтым узроўні нічога не можа быць аб'ектам канстатацыі, я магу толькі выйсці наперад, як чалавек, і сказаць я" ("Урокі і гутаркі пра эстэтыку, псіхалогію і рэлігійную веру").**

**Вялікую слушнасць гэтага "сказаць я" можна адчуць і пакаштаваць у сіх-тых з "Усялякіх заўваг", кнігі, што нясе след сапраўднай заваёвы мудрасці, кнігі, што пазначае этапы прымірэння сябе з самім сабой; у прыватнасці, хочацца працытаваць заключны афарызм: "Вырашэнне складанасці, што паўстае перад табой у жыцці, – гэта такое жыццё, дзякуючы якому складанасць знікае". Сапраўды, "у жыцці тады з'яўляюцца складанасці, калі спосаб жыцця не адпавядае форме жыцця. У такім разе трэба, каб ты змяніў спосаб жыцця, і калі іншы спосаб будзе сугучны пэўнай форме, не стане таго, што спараджае складанасць" ("Усялякія заўвагі").**

**Поль АДЫ**

***Тэксты "Гісторыя аднаго адмаўлення" і "Вершнасць" этыкі" пераклаў з французскай Андрэй ДЫНЬКО.***

 



не, якое ўпарта навязвае сябе нам.

***

Адна справа сеяць думкі, іншая – іх жаць.

***

Эсперанта. Пачуццё агіды, калі мы вымаўляем штучна створанае слова з штучнымі флексіямі. Слова халоднае, пазбаўленае асацыяцыяў, і тым не менш яно выстаўляе сябе як мову. Калі б гэта была толькі сістэма пісьмовых знакаў, яна не выклікала б у нас такой агіды.

***

Высокі "густ" не можа стварыць новую кампазіцыю, ён можа толькі ўдасканаліць тую, што ўжо існуе. Густ толькі паслабляе і заціскае шрубы, ён не стварае новага механізму.

Густ узгадняе; ствараць новае не ягоная справа.

Густ робіць рэчы *ўжытковымі.* (Вось чаму вялікаму творцу, я мяркую, не патрэбен густ; дзіцё з'яўляецца ў жыццё ладна створаным.)

Шліфоўка *часам* – справа густу, а часам – не.

У *мяне* ёсць густ.

Нават *найдалікатны* густ не мае *нічога* агульнага з энергіяй творчасці.

Густ – гэта вытанчаная

168. Але якую ролю выконвае цяпер передумова, што рэчыва А заўсёды аднолькава пры аднолькавых абставінах рэагуе на рэчыва Б? Або гэта належыць да дэфініцыі рэчыва?

169. Можна памеркаваць, што, маўляў, існуюць сказы, якія сцвярджаюць, што хімія з'яўляецца *магчымай.* І гэта былі б сказы прыродазнаўчай навукі. На што тады павінны былі б яны абапірацца, як не на досвед?

170. Я прадумваю, што пэўным чынам перадалі мне людзі. Так я даю веры геаграфічным, хімічным, гістарычным фактам etc. Так я *навучаюся* навукам. Але навучанне заснавана, натуральна, на веранні.

Той, хто вывучыў, што вышыня Манблану складае 4000 м, і ўдакладніў гэта па карце, кажа, што ён *ведае* гэта. Але ці можна цяпер сказаць: мы аказвалі гэтаму свой давер таму, што яно ў адпаведнай меры вытрымала праверку?

[...]

173. Ці ў маёй сіле тое, ува што я веру? Ці хаця б тое, ува што я непахісна веру?

Я мяркую, што там стаіць крэсла. Ці магу я не памыляцца? Або ці магу я меркаваць, што я памыляюся? Ці магу я наогул браць гэта да ведама? І ці *магу* я таксама не прытрымлівацца сваёй веры ў тым, пра што я даведаюся пазней?! І хіба цяпер мая вера *абгрунтаваная?*

174. Я дзейнічаю з *поўнай* упэўненасцю. Але гэтая ўпэўненасць мая ўласная.

175. "Я ведаю гэта", кажу я некаму; і для гэтага існуе апраўданне. Але для маёй веры няма ніякага абгрунтавання.

176. Замест "Я ведаю гэта" ў іншых выпадках можна гаварыць: "Гэта так; пакладзіся на гэта". Але ў іншых

# ПЯЦЬ КАМЕНТАРОЎ ДА ФІЛАСОФІІ ЛЮДВІГА ВІТГЕНШТАЙНА

*"Пры філасафаванні трэба спусціцца ў старадаўні хаос, і адчуць сябе поўніцай у ім".*

Л.Вітгенштайн

**Напрыканцы XX ст. у свеце з'яўляюцца ўсё новыя і новыя даследаванні, прысвечаныя адной з самых вызначальных постацяў для заходняга філасофскага дыскурсу мадэрнасці – Людвігу Вітгенштайну. Пры ўсёй дадатнай дынаміцы гэтага працэсу ў ім можна ўбачыць і адваротны негатыўны бок – узнікае маса рознаўчытанняў, спрэчных і нават узаемавыключальных ацэнак філасофскай творчасці гэтага славутага мысляра, які нарадзіўся і ладную частку свайго жыцця правёў у Сярэдняй Еўропе. Унесці яснасць у некаторыя істотныя пытанні, датычныя адэкватнай, г.зн. комплекснай рэцэпцыі *Вітгенштайнавага даробку* – у гэтым і палягае заданне нашага артыкула.**



 

выпадках: "Гэтаму я навучыўся ўжо шмат гадоў назад"; і часам: "Я ўпэўнены, што гэта так".

177. Я ведаю адно тое, што я веру.

178. Няправільнае ўжыванне Мурам сказа "Я ведаю..." у тым, што ён разглядае яго як выраз, які ў такой жа малой ступені можа выклікаць сумнеў, як і нешта накшталт "Мне баліць". І калі з "Я ведаю, што гэта так" вынікае "Гэта так", то тады ў гэтым можна і засумнявацца.

179. Было б правільна сказаць: "Я мяркую..." мае суб'ектыўную праўду, а "Я ведаю..." – не.

180. Або таксама: "Я мяркую..." ёсць выразам, а "Я ведаю..." – не.

[...]

182. Ёсць больш простае ўяўленне, што Зямля *ніколі* не мела пачатку. Ніводнае дзіцё не мае падставы запытацца, як доўга ўжо існавала *Зямля,* таму што ўсе змены *на* ёй адбываюцца перад яго абліччам. Калі тое, што мы называем Зямлёй, сапраўды аднойчы ўзнікла, што досыць цяжка ўявіць, то пачатак, натуральна, сягае да пракаветных часоў.

183. "Гэта пэўна, што Напалеон пасля бітвы пры Аўстэрліцы..." Дык у гэтым выпадку пэўна і тое, што Зямля тады існавала.

184. "Пэўна,што мы 100 гадоў таму не сышлі з іншай планеты на гэтую". Тады гэта пэўна датуль, дакуль якраз нешта падобнае не адбудзецца.

[...]

189. Аднойчы давядзецца перайсці ад вытлумачэння да простага апісання.

190. Тое, што мы называем гістарычнай відавочнасцю, сведчыць аб тым, што Зямля існавала ўжо задоўга да маіх ўразлівасць, але ўразлівасць – гэта не *стварэнне,* а толькі ўспрыманне.

Я не магу вызначыць, у мяне ёсць толькі густ ці яшчэ і самабытнасць.

Першае я ясна бачу, другое – каб хоць трохі выразна, – дык не. А магчыма гэтак і мусіць быць, і чалавек бачыць толькі тое, чым *надзелены,* а не чым з'яўляецца. Той, хто не хлусіць, дастаткова самабытны. Бо самабытнасць, да якой трэба было б імкнуцца, усё ж не можа быць нечым пакручастым ці неардынарным, пра што звыкла кажуць.

Пачатак сапраўднай арыгінальнасці – гэта каб не жадаць быць тым, чым вы не з'яўляецеся. Зрэшты, пра тое ўжо шмат і лепей сказана іншымі.

Густ здольны здзіўляць, але не захапляць.

***

Можна было б вызначыць кошт думак. Адныя каштуюць дорага, другія танна. А чым плацяць за думкі? Мяркую, мужнасцю.

**Падрыхтаваў Валянцін АКУДОВІЧ.**

---

<u>**Каментар першы:**</u>

## ФІЛАСОФСКІЯ СТРАТЭГІІ ПАВОДЛЕ ВІТГЕНШТАЙНА

**Калі гаворка заходзіць пра філасофію Вітгенштайна, як правіла, адразу ўсплываюць два пункты гледжання, якія нібыта вычарпальна яе характарызуюць. Маецца на ўвазе ўяўленне Вітгенштайна пра "незацемненасць" мовы, а таксама пра якасць узаемаадносін паміж філасофіяй і навукай. У трактоўцы шэрага заходніх даследчыкаў гэтыя ўяўленні часта збліжаюцца паміж сабой, што немінуча выклікае вялікія інтэлектуальныя выдаткі. Нарматыўная схема інтэрпрэтацыі прыблізна такая: калі філасофія становіцца навуковападобнай дысцыплінай (ці, папросту, навукай), мова неадкладна мусіць стаць "зацемненай", цьмянай. Няцяжка заўважыць, што такі падыход фактычна абяртаецца рэдукцыяй самога паняцця філасофіі: незацемненасць мовы нібыта абумоўлівае немагчымасць філасофскіх выказванняў, а з гэтага вынікае прызнанне ненавуковасці філасофіі і катэгарычнае патрабаванне яе скасавання.**

**Насамрэч гаворку ў строгім сэнсе можна весці адно пра пэўнае ўдакладненне (сэнсавую нюансіроўку) паняцця філасофіі, якую ажыццявіў Вітгенштайн. Класічнае для заходняга дыскурсу вызначэнне філасофіі было дадзена Кантам, згодна з якім філасофія – гэта, па-першае, крытыка; па-другое, абгрунтаванне пазнання; і, па-трэцяе, рас-**

радзінаў; – супрацьлежная гіпотэза не мае *нічога* на карысць сябе.

191. Калі цяпер усё гаворыць на карысць гіпотэзы, і нічога супраць яе – ці ёсць яна насамрэч праўдзівай? Яе можна пазначыць і так. – Але ці насамрэч яна адпавядае сапраўднасці, фактам? – З гэтым пытаннем ты ўжо рухаешся па коле.

192. Ведама, існуе апраўданне; але апраўданне мае канец.

193. Што азначае: праўдзівасць гэтага сказа нібыта *імаверная?*

194. Праз слова "імаверна" мы выказваем поўную перакананасць, адсутнасць якога-кольвек сумневу, і мы спрабуем пераканаць у гэтым іншых. Гэта *суб'ектыўная* імавернасць.

Але калі нешта будзе аб'ектыўна імаверным? – Калі памылка будзе немагчымай. І што азначае гэта для магчымасці? Ці не павінна памылка быць *лагічна* выключана?

[...]

196. Пэўная відавочнасць – гэта тое, што мы ўспрымаем як безумоўна пэўнае, згодна з чым мы *дзейнічаем* з пэўнасцю і без сумневу.

Тое, што мы называем "памылкай", выконвае зусім вызначаную ролю ў нашых моўных гульнях, і тое, што мы разглядаем як пэўную відавочнасць, таксама.

197. Але было б нонсэнсам сказаць, што мы разглядаем нешта як пэўную відавочнасць таму, што гэтае нешта сапраўды праўдзівае.

198. Мы хутчэй павінны адно разглядаць ролю вырашэння за або супраць пэўнай фразы.

199. Ужыванне словаў "праўдзівы або памылковы" ўтрымлівае нешта аблуднае таму, што гэта адбываецца тады, калі кажуць "гэта супадае або не з фактамі", але гэта практычна не дае адказу на пытанне, што тут азначае "супадзенне".

200. "Гэтая фраза ёсць праўдзівай або фальшывай" азначае па сутнасці тое, што павінна быць магчымым вырашэнне за ці супраць яе. Але гэта не кажа нічога пра тое, як выглядае падстава для гэткага вырашэння.

[...]

207. "Дзіўная выпадковасць, што ўсе людзі, чые чарапы былі ўскрытыя, мелі мазгі!"

[...]

209. Тое, што Зямля існуе, бадай толькі *частка* ўсёй *карціны,* якая ўтварае зыходны пункт маёй веры.

[...]

213. Нашыя "эмпірычныя сказы" не ўтвараюць гамагеннай масы.

214. Што замінае мне дапускаць, што гэты стол, калі яго ніхто не пільнуе, або знікае, або змяняе сваю форму і колер, а тады, калі нехта на яго зноў зірне, вяртаецца ў свой ранейшы стан? – "Аднак і хто будзе дапускаць нешта падобнае!" – могуць адказаць.

**шырэнне пазнання. Вітгенштайн жа ідзе па сутнасці на далейшае асэнсаванне (пераасэнсаванне) гэтай трыадзінай дэфініцыі. У адпаведнасці з ім, філасофія – гэта, па-першае, крытыка логікі і, адпаведна, *тэрапія;* па-другое, гэта спроба вытлумачэння, па-трэцяе, спроба расшырэння веды. Своеасаблівы дыялог Вітгенштайна з Кантам атрымлівае свой працяг у паслядоўнай дэструкцыі першым Кантавага пайма "трансцэндэнтальнай эстэтыкі". Аргументацыя пры гэтым прыводзіцца наступнага роду: "Выяўленчая тэорыя" не дазваляе ясна апісаць бальшыню магчымасцяў дыферэнцыяцыі. Таму прастору і час трэба прызнаць унутранымі ўласцівасцямі прадметаў, якія не выяўляюцца пры дапамозе лагічных выказванняў, але выражаюцца ў іх. Яны не могуць папярэднічаць рэчаіснасці прадмета. Да таго ж, ідэальнасць прасторы не дапамагае зразумець шматстайнасці прасторавых стасункаў. На гэтым аргуменце заснавана палеміка Вітгенштайна з Кантам, якая вядзецца ў "Логіка-філасофскім трактаце". Палеміка страчвае якое-небудзь адценне камічнасці, калі разглядаць яе як крытыку ўжыванай Кантам у якасці нарматыўнай Эўклідавай візіі прасторы шляхам апеляцыі да матэматычна пралічваных чатырох або шматвымерных прастораў.**

**Вердыкт Вітгенштайна адносна "трансцэндэнтальнай эстэтыкі" Канта: яна альбо павінна стаць альтэрнатывай трансцэндэнталь-**

215. Тут мы бачым, што ідэя "адпаведнасці сапраўднасці" не мае яснага ўжывання.

[...]

217. Таго, хто б дапусціў, што *ўсе* нашыя разлікі няпэўныя і што мы не можам пакладацца на іх (з апраўданнем, што памылка ўсюды магчымая), мы, верагодна, палічылі б вар'ятам. Аднак ці маглі б мы сказаць, што ён памыляецца? Ён проста рэагуе інакш: мы пакладаемся на гэта, ён не, мы пэўныя, ён не.

[...]

221. Ці магу я сумнявацца ў тым, у чым я *хачу* сумнявацца?

222. Я не магу ні ў якім разе сумнявацца, што я ніколі не быў у стратасферы. Ці ведаю я гэта таму, што гэта праўдзіва?

223. Я мог бы не быць кагадзе звар'яцелым і не ставіць пад сумнеў таго, што я безумоўна павінен сумнявацца.

224. "Я ведаю, што гэта ніколі не было, таму што калі б гэта адбылося, гэтага ні ў якім разе я не змог бы забыцца".

Дапусцім, аднак, што гэта адбылося, а ты ўсё-ткі якраз пра гэта забыўся. І адкуль табе ведаць, што ты ні ў якім разе не можаш пра гэта забыцца? Ці не выключна з ранейшага досведу?

225. Тое, чаго я прытрымліваюся, гэта не адзін сказ, а гняздо сказаў.

[...]

229. Нашыя прамовы набываюць свой сэнс пры дапамозе нашых паасобных учынкаў.

230. Мы пытаемся: што нам рабіць з выказваннем "Я *ведаю...*"? Бо гаворка намі не вядзецца пра праявы або станы духу.

І *таму* трэба вызначаць, ці ёсць нешта ведай або не.

231. Калі б нехта засумняваўся, ці існавала Зямля сто гадоў назад, то я б не зразумеў гэтага, бо не ведаю, што ён яшчэ можа ўважаць за відавочнасць, а што не.

232. "У кожным асобным з гэтых фактаў мы можам сумнявацца, але ўва *ўсіх* мы сумнявацца не можам".

Ці не было б больш правільна сказаць: "Ува *ўсіх* мы не сумняваемся".

Тое, што мы не сумняваемся ўва ўсіх іх, якраз і ёсць спосабам, як мы мяркуем і, такім чынам, дзейнічаем.

[...]

248. Я дасягнуў поду сваіх пераканнняў. І аб гэтым фундаментальным муры можна ледзь чутна сказаць, што ім абнесены цэлы дом.

249. Людзі ствараюць сабе фальшывае ўяўленне аб *сумневе.*

250. Тое, што ў мяне дзве рукі, пры нармальных абставінах настолькі ж пэўна, як і тое, што я магу спаслацца на відавочнасць гэтага.

**най філасофіі, альбо "самаразвязацца".**

**На думку Вітгенштайна, галоўная праблема навукі ў тым, што крытычная функцыя тэорыі пазнання страчана, а сінтэзуючая стала неўжытковай. Таму "тэорыя пазнання – гэта філасофія псіхалогіі". Каб прадухіліць поўны заняпад тыпова заходняга разумення навукі, трэба распрацоўваць своеасаблівыя эпістэмалагічныя стратэгіі, якія ў гэтым кантэксце набываюць назву "інтэрдысцыплінарнай кагнітыўнай навукі".**

<u>Каментар другі:</u>

### "МОЎНАЯ" ТОПІКА Ў МЫСЛЕННІ ВІТГЕНШТАЙНА: "МОЎНАЯ ФІЛАСОФІЯ", "МОЎНАЯ НАВУКА", "МОЎНАЯ ГУЛЬНЯ"

**Пяройдзем цяпер ад Вітгенштайнавай канцэпцыі філасафавання як тэрапеўтычнай, гаючай дзейнасці да ягонага бачання мовы.**

**Філосаф мовы адкрывае ўва ўсіх мовах супольныя, універсальныя, фундаментальныя правілы мовы. Лінгвіст зацвярджае іх у канкрэтных паасобных моваў. Шмат лінгвістаў прынялі гэтую ролю (лінгвістыка як служка моўнай філасофіі), не заглыбляючыся далей у філасофскія або "фундаментальна-навуковыя" перспектывы тэорыі маўленчых актаў. На гэтую тэорыю, распрацаваную пераважна англасаксонскімі навукоўцамі, значна паўплывала філасафаванне Вітгенштайна, хаця яго нельга ўважаць за яе родапачынальніка. Вітгенштайнам распрацоўвалася т.зв. "тэорыя ўжывання значэння", якая ў тэорыі**

Вось чаму я не ў стане разглядаць відарыс сваёй рукі як довад відавочнасці гэтага.

251. Хіба гэта азначае: я буду абавязкова дзеяць згодна з гэтай верай і нішто мяне не саб'е з тропу?

252. Але не толькі я веру, што ў мяне дзве рукі, кожны разумны чалавек робіць гэтак.

253. У аснове абгрунтаванай веры ляжыць неабгрунтаваная вера.

254. Кожны "разумны" чалавек паводзіць сябе *так*.

255. Сумнеў мае пэўныя характэрныя адзнакі, але яны бываюць характэрнымі для яго толькі пры пэўных абставінах. Калі нехта сказаў, што ён сумняваецца ў існаванні сваіх рук, зноў і зноў кідаючы позірк на іх з усіх бакоў і спрабуючы пераканацца, што гэта не іх адлюстраванне і пад., то мы б не былі пэўныя, ці павінны мы называць гэта сумневам. Мы можам апісаць ягоны спосаб паводзінаў як адзін з тых, які прадугледжвае падобны сумнеў, але яго гульня не будзе нашай.

256. З іншага боку, моўная гульня змяняецца з часам.

257. Калі б нехта сказаў, што ён сумняваецца ў тым, ці ёсць у яго цела, то я б палічыў яго за паўдурка. Я, аднак, не ведаў бы, што б азначала пераканаць яго ў тым, што яно ў яго ёсць. І калі б я нешта сказаў, што б адразу адхіліла яго сумнеў, то я б не ведаў, чаму і як гэта атрымалася.

258. Я не ведаю, як ужываецца сказ "У мяне ёсць цела".

Гэта, безумоўна, не датычыць сказа, што я заўсёды быў на або каля зямлі.

259. Той, хто сумняваецца ў тым, што Зямля існавала сто гадоў таму, можа мець навуковы або філасофскі сумнеў.

260. Я хацеў бы зарэзерваваць выраз "Я ведаю" для тых выпадкаў, у якіх ён ужываецца ў нармальных моўных стасунках.

261. Ніякага разумнага сумневу ў існаванні Зямлі цягам апошніх ста гадоў я не магу цяпер уявіць.

262. Я магу ўявіць сабе чалавека, які вырас пры абсалютна адмысловых абставінах і яго навучылі, што Зямля ўзнікла пяцьдзесят гадоў таму, і гэтаму ён у дадатак верыць. Мы тады вучылі б яго наступнаму: Зямля існуе даўно і г.д. – Мы б імкнуліся навязаць яму нашую карціну свету.

Гэта адбылося б пры дапамозе свайго роду *намовінаў*.

263. Вучань *верыць* сваім настаўнікам і падручнікам.

[...]

284. Людзі з найдаўнейшых часоў забівалі жывёлаў, ужывалі іхнюю скуру, іхнія косткі etc.etc. для пэўных мэтаў; яны з пэўнасцю разлічвалі на тое, што ў кожнай

**маўленчых актаў перажыла сваю "сістэматычную рэканструкцыю" і паўплывала пасля на фармаванне універсальнай прагматыкі ў Габэрмаса.**

**У адпаведнасці з самаацэнкамі Вітгенштайна, ён не з'яўляецца моўным філосафам мовы, а яго канцэпцыя значэння як ужывання не ёсць тэорыяй значэння. Больш таго, філасофія мовы, згодна Вітгенштайну, гэта не навука, а тлумачэнне паняццяў і паняццёвых кантэкстаў у моўных гульнях (пры гэтым ён адрозніваe моўныя гульні каўзальнай і лагічнай абумоўленасці).**

**Што ж тады такое "моўная гульня" ў філасафаванні Вітгенштайна? Гэтае пытанне адразу набывае свой прагматычны сэнс ужо таму, што гэтае паймо ці не найбольш актыўна выкарыстоўваецца ў сучасных інтэлектуальных інстументарыях. "Моўная гульня" – гэта ўзор чалавечых паводзінаў; адпаведна Вітгенштайну, існуе "безліч" моўных гульняў. Як паказвае ўжо сама назва, моўныя гульні – гэта такія дзейнасці, у якіх ужыванне мовы выконвае важную ролю. Пры гэтым Вітгенштайн не схільны меркаваць, што мова выконвае цэнтральную ролю ў чалавечым жыцці. Адныя моўныя гульні з'яўляюцца простымі або "прымітыўнымі". Прыклады прымітыўных моўных гульняў – даваць загады, ставіць пытанні, рабіць паведамленні, гаварыць "прывітанне" і "да пабачэння", клікаць на дапамогу і г.д. Іншыя моўныя гульні больш складаныя – ува многіх сэнсах. Асаблівa**

падобнай жывёле будуць знаходзіць падобныя часткі.

Яны заўсёды вучыліся з досведу, і з іхніх учынкаў можна пабачыць, што яны, безумоўна, верылі ў нешта пэўнае, незалежна ад таго, выказвалася гэтая вера або не. Гэтым я, натуральна, не хачу сказаць, што чалавек *павінен* паводзіць сябе так, а толькі тое, што ён паводзіць сябе так.

285. Калі нехта нешта шукае і перакопвае амаль зямлю на пэўным месцы, то гэтым ён паказвае, што верыць – тое, што ён шукае, недзе там.

286. Тое, у чым мы сумняваемся, залежыць ад таго, чаго мы вучымся. Усе мы верым, што немагчыма прайсціся па Месяцы; але могуць быць людзі, якія вераць, што гэта магчыма і раз-пораз адбываецца. Мы кажам: яны не ведаюць шмат з таго, што ведаем мы. І хаця яны перакананыя ў сваёй слушнасці, – яны памыляюцца, і мы ведаем гэта.

Калі мы прыраўнаем нашую сістэму з іхняй, то іхняя акажацца нашмат бяднейшай.

287. Вавёрка без дапамогі індукцыі выснуе, што і ў найбліжэйшую зіму ёй спатрэбяцца запасы. І ў такой жа малой ступені нам патрабуецца закон індукцыі, каб апраўдаць нашыя ўчынкі і прадказанні.

288. Я ведаю не толькі тое, што Зямля існавала задоўга да маіх радзінаў, але таксама і тое, што яна ёсць вялікім целам, што гэта было ўстаноўлена, што я і іншыя людзі маюць шмат продкаў, што існуюць кнігі пра ўсё гэта, што гэтыя кнігі не ілгуць, etc.etc. І ўсё гэта я ведаю? Я даю гэтаму веры. Гэты корпус ведаў быў перададзены мне, і ў мяне няма падставаў сумнявацца ў ім, бо ёсць рознага роду пацверджанні.

І чаму я не павінен гаварыць, што ведаю ўсё гэта? Хіба якраз гэта ўсе не гавораць?

Аднак не толькі я ведаю ці даю веры ўсяму гэтаму. Але таксама і іншыя. Ці, хутчэй, я веру, што яны вераць у гэта.

289. Я цвёрда перакананы, што іншыя вераць, умеюць верыць, што справа стаіць якраз так.

[...]

292. Далейшыя спробы не змогуць *выкрыць памылковасць* ранейшых, і ў лепшым выпадку адменяць наш папярэдні разгляд.

[...]

**Пераклаў з нямецкай**
**Валерка БУЛГАКАЎ.**

**цікавыя такія моўныя гульні, якія не з'яўляюцца ні прымітыўнымі, ні камбінацыямі прымітыўных гульняў.**

**Магчыма такое толькі тады, калі мы дапусцім, што пэўныя прымітыўныя моўныя гульні ўжо існуюць. Складаныя моўныя гульні ўзнікаюць падчас спадзявання на нешта або пры выяўленні моманту выпадковасці, імавернасці, паколькі пры гэтым прадугледжваецца, што яшчэ можна перамяніць тое, чаго жадаюць або на што спадзяюцца.**

**Складаныя і прымітыўныя моўныя гульні аднолькава універсальныя – выразна падкрэслівае Вітгенштайн, – у прыватнасці адносна да выражэння жадання, намеру ці зычэння. Граматычныя заўвагі, якія ніколі не змогуць быць адзіным спосабам ужывання мовы, з'яўляюцца адной з гэтых складаных моўных гульняў, якія пашыраюцца нагэтулькі ж далёка, як і навучанне мове.**

**Граматычныя заўвагі выконваюць важную ролю ў філасофіі Вітгенштайна, згодна з якой моўныя выказванні могуць быць зразумелымі толькі ў рамках чалавечай дзейнасці, і таму выказванне, якое ў якасці пэўнай часткі дзейнасці з'яўляецца зразумелым, у кантэксце нейкай іншай дзейнасці можа быць бессэнсоўным. Сказаць "Я сумняюся ў гэтым" у якасці заўвагі да каментара тэлежурналіста: "Суд адкладзены" будзе зразумела, паколькі гэта адпавядае кантэксту, у якім выражэнне сумневу з'яўляецца адэкватнай адзнакай такога спосабу паводзінаў; але зрабіць гэты**

каментар у якасці заўвагі да словаў суддзі "Суд адкладзены" было б поўным нонсэнсам.

Гэтая заўвага з'яўляецца прыкладам таго, што Вітгенштайн пазначае ў якасці "граматычнай заўвагі", – на яго думку, якраз з гэткіх заўвагаў і складаецца праўдзівы прадмет філасофіі.

Каментар трэці:

## ВІТГЕНШТАЙН І ПСІХААНАЛІЗ

*Логіка-моўныя аналізы* задумваюцца Вітгенштайнам у якасці тэрапіі, пакліканай вывесці чалавека са стану аблытанасці рознымі фальшывымі ўяўленнямі. Хаця, на думку філосафа, суб'ект, які ўнікае філасофскіх памылак ці аблудаў, не з'яўляецца суб'ектам, здольным выстаўляць новыя філасофскія тэзы. Гаворка тут ідзе не пра суб'екта, які знаходзіцца ў апошнім вязьме ланцуга аргументаў, але пра суб'екта, які імкнецца да новых спосабаў разгляду фактаў. Новыя перспектывы, якія раскрываюцца перад суб'ектам, гэта не тое, чаму можна даць эксплiцытную дэфініцыю.

У адным са сваіх твораў Вітгенштайн сам прызнаецца, што з'яўляецца вучнем Фрэйда і шырэй, ва ўплыве псіхааналізу апошняга, які, дарэчы, праграмна не задумваўся ў якасці дысцыпліны, дапаможнай філасофіі. Як мы ўжо згадалі, Вітгенштайн мысліць філасофію не як навуку ў строгім сэнсе, а як паняццёвы або паэтычны моўны аналіз душы і, такім чынам, як нешта, што мае больш супольнага з эстэтычным аналізам, чым з навуковай тэорыяй. Псіхааналіз таксама не валодае ўласцівай навукам гіпатэтычна-дэдуктыўнай структурай, якая дазваляе нам выстаўляць тэзы і эмпірычна іх праўдждваць.

Нягледзячы на тое, што Фрэйд прытрымліваецца ў гэтай справе супрацьлеглай думкі, Вітгенштайн, тым не менш, абвяшчае сябе яго вучнем і паслядоўнікам. Больш таго, ён нават сцвярджае, што лепш разумее псіхааналіз, чым сам Фрэйд. Вітгенштайн адмаўляе псіхааналізу ў навуковасці, але пры гэтым спрабуе перафармуляваць яго наноў, каб лепш зразумець яго і вярнуць яму належную вартасць. У чым тут прычыны?

Відаць, у духовай роднасці гэтых мысляроў. Не выпадкова Вітгенштайн збліжае з псіхааналізам сваю моўна-паняццёвую тэхніку, пры якой феномены не зводзяцца да каўзальных кантэкстаў або іншых фундаментальных структур і таму не вытлумачваюцца, а проста апісваюцца, наглядна выяўляючы рэчы, паміж якімі, на першы погляд, не існуе ўзаемасувязяў. Каб вызваліць лінгвістыку ад каўзалістычных і механістычных катэгорый і мадэляў прыродазнаўчых навук, Вітгенштайн нават прапануе тэрмін "übersichtliche Darstellung" ("нагляднае выяўленне"), які павінен пазбавіць мову ад усяго гэтага.

У сваёй працы "Гіпотэза і сугестыя" Фрэйд пісаў, што пры дапамозе словаў можна ўздзейнічаць на псіхіку, больш таго, што словы з'яўляюцца важным інструментам пры псіхалагічных маніпуляцыях. У мове працэс мыслення набывае псіхічную якасць, таму што ён у нашым пачуццёвым успрынянцці звязаны з момантам прыгадвання. Пры гэтым моўным даследаванні псіхікі выяўляюцца сімвалічныя канструкты нашых зыходных канфліктаў. Для Вітгенштайна ж у мове ляжыць аснова духовай сумятні і экзістэнцыйных непакояў, якія мы называем філасофскімі праблемамі і якія не вырашаюцца, а толькі здымаюцца моўнай тэрапіяй. Пры гэтым асабліва цікавай з'яўляецца функцыя – кажучы словамі Вітгенштайна – звышпаняццяў, такіх, як "дух", "мова", "свет", "лік", "гульня". Пры іх дапамозе мы спрабуем, зыходзячы з пачуцця бяспекі "я", ствараць своеасаблівы звыш-парадак сярод звыш-паняццяў.

Вядома, што паміж Фрэйдам і Вітгенштайнам існавала шмат адрозненняў, але разам з тым былі і істотныя падабенствы. Абодва яны выказваліся супраць логіка-навуковай інтэрпрэтацыі мовы праз міфы прымітыўнай і благой навукі. Абодва яны закідалі філосафам, антраполагам і псіхолагам, што яны недаацэньваюць *вярэдзячы* характар і сугестыўнае значэнне міфаў і рытуалаў. Якраз адсюль Вітгенштайн і высноўвае, што міфічныя ўяўленні, якія захоўваюцца ў нашай мове, з'яўляюцца важнымі выяўленчымі магчымасцямі нашага духоўнага жыцця.

Каментар чацвёрты:

## ВІТГЕНШТАЙН І ПОСТМАДЭРН

Прынята лічыць, што значэнне Вітгенштайна выходзіць далёка за рамкі сучаснай аналітычнай філасофіі. Звыш таго, у вядучых катэгорыях сучаснага дыскурсу – вызвалення ад тэрору (кажучы словамі Жана-Франсуа Льётара) абстрактнай уніфікацыі, адпрэчання асобным абстрактна універсальнага (Тэадор В.Адорна) – аўтарытэтныя даследчыкі выяўляюць сляды позняй філасофіі Вітгенштайна. З увагі на тое, што дамінантнай *культураграфічнай* характарыстыкай сучаснай духоўнай сітуацыі на схіле тысячагоддзя становіцца паймо постмадэрну, мэтазгодна будзе зрабіць невялікі экскурс.

 



**Як вядома, паймо "постмадэрн" першапачаткова з'явілася ў сучасных дэбатах аб архітэктуры і пазначала там спробу адмовіцца ад "вульгарнага функцыяналізму", нядаўна яшчэ авангардысцкага мадэрну, прадукты якога – напрыклад, убогія гарады-спадарожнікі – рэальна падрывалі веру ў прагрэс і звязанага з ёй мэтаскіраванага вызвалення эстэтыкі ад т.зв. "злачынных арнаментаў". Жан-Франсуа Льётар увёў тэрмін "postmodern" у філасофскі дыскурс еўрапейскага кантынентальнага мыслення. У сваім творы "La condition postmoderne" (1979) ён выводзіць свой ключавы канцэпт з крытыкі прынцыпу адзінства і уніфікацыі ў сучаснай ведзе (крытыка вялікай нарацыі, "unified science" etc.).**

**Адзін з найбольш абазнаных удзельнікаў у дыскусіях на тэму постмадэрну Вольфганг Вэльш так падагульняе галоўныя тэзы Льётара: для апошняга сучасная веда мае пераважна форму адзінства, і гэтае адзінства было дасягнута коштам звароту да вялікай мета-нарацыі. Новы час і мадэрн выпрацавалі тры такія мета-нарацыі: *эмансіпацыя чалавецтва* (у Асветніцтве), *тэлеалогія духу* (у ідэалізме) і *герменеўтыка сэнсу* (у гістарызме). Сучасная сітуацыя, насуперак, вызначаецца тым, што гэтыя кірункі ўстанаўлення адзінства ўжо не дзейнічаюць. Таму постмадэрн, згодна з Льётарам, можна акрэсліць прынамсі дваяка. Негатыўна-мінімалістычна, як адмаўленне ад прэтэнзій на адзінства: найбольш агульна можна сказаць, што "постмадэрн" азначае, што гэтыя мета-нарацыі больш не маюць патэнцыялу веры. Другое, пазітыўнае, вызначэнне постмадэрну "звязана з выслабненнем і ўзмацненнем моўных гульняў у іх гетэрагеннасці, аўтаноміі і нерэдукавальнасці"[1]. Няцяжка заўважыць, што тут, пры вызначэнні пазітыўнай сутнасці постмадэрну, выкарыстоўваецца вядучая ідэя моўнай філасофіі Вітгенштайна, – "моўная гульня". Апеляцыя да Вітгенштайна прысутнічае і ў Льётаравай візіі (постмадэрнавай) ідэі сацыяльнай справядлівасці: "Справядлівасцю было б наступнае: прызнаць шматстайнасць і неперакладальнасць угорнутых адна ў адну моўных гульняў, як непадлеглых рэдукцыі адна ў адной"[2].**

З гэтага лейтматывам постмадэрнавага дыскурсу ёсць *плюралізм,* ад якога чакаюць, што ён зможа асягнуць усё татальна без універсалісцкіх прынцыпаў. Да таго ж, выяўляецца, што пра-плюралістычны супраціў Льётара любым формам універсальнага насамрэч уфундаваны на пастулатах Вітгенштайна што да "моўнай гульні" і "фамільнага (сямейнага) падабенства" з мэтай прадухілення "веды ўсіх моўных гульняў", якія актыўна распрацоўваліся ў "Філасофскіх даследаваннях".

Такім чынам, супраціў Льётара універсальнаму быў шмат у чым падрыхтаваны распрацоўкай Вітгенштайнам пайма "моўнай гульні". Але ўплыў мыслення Вітгенштайна на Льётара закранае не толькі гэты метадычны аспект, але і субстанцыйную ацэнку гісторыі. У сваім невялікім эсэ "Пасля" Вітгенштайна", напісаным у 1983 г., Льётар цытуе фрагменты з Вітгенштайна, у якіх ён "індустрыйнай Techno-Science", наіўным спадзевам на рацыяналісцкую уніфікацыю свету супрацьстаўляе апакаліптычную, шпэнглераўскую візію будучыні, – "тэхнічная эпоха пачнецца з канца чалавецтва".

Разам з тым Льётар не хоча ажыццявіць – імкнучыся вызначыць постмадэрн як нешта абсалютнае "безсуб'ектнае" – дыхатамічны падзел паміж мадэрнам і постмадэрнам, хаця яны, безумоўна, рэзка канстрастуюць: у сувязі з гэтым ён надае моўным аналізам Вітгенштайна месца ў "мадэрным" антрапалагічным мысленні і, відаць, не зусім абгрунтавана спрабуе вызваліць Вітгенштайнаву тэорыю ўжывання мовы ад нібыта прысутных у ёй "антрапалагічных забабонаў".

Для Льётара Вітгенштайн "сукрыты постмадэрнавы мысліцель мадэрну", бо ён – падобна таму, як Кант плюральнасць развагі – аналізаваў плюральнасць мовы: "Постмадэрн месціцца ні пасля мадэрну, ні супраць яго, – кажа Льётар, – ён быў ужо ўключаны ў яго, толькі сукрыта"[3]. Дзякуючы гэтаму існуе, як піша Льётар у сваім артыкуле "Пасля" Вітгенштайна", вялікая розніца паміж паймом мовы ў Вітгенштайна і тым "постмадэрнавым" паймом, згодна з якім "падзейны характар мовы" ("Ereignischarakter der Sprache"[4]) – у сувязі з неаструктуралісцкім "узвышэннем" "коду" – трэба ўважаць за нешта безумоўнае пэўнае. "Істотнае адрозненне палягае ў тым, – кажа Льётар, – што Вітгенштайн прытрымліваецца па сутнасці эмпірычнай ідэі ўжывання. Людзі ўжывалі мову. Яны гулялі мовай або ў мову. Акалічнасць, што ім былі невядомыя ўсе правілы шматлікіх гульняў, нічога не змяняе ў гэтым антрапалагічным забабоне. "Пасля" Вітгенштайна" застаецца наперад заданнем вызваліць даследаванне сказа (іншы магчымы пераклад нямецкага слова *der Satz* на беларускую мову – (лагічная) прапазіцыя. – *В.Б.*) ад гэтай гуманістычнай перашкоды і абесчалавечыць філасофію. Чалавек не ўжывае мову, ён нават не яе пастух; у такой жа малой ступені, як існуе *пэўная* мова, існуе пэўны



 

суб'ект"[5]. Тым не менш, гэтая неаструктуралісцкая радыкалізацыя Вітгенштайнавых аналізаў "ужывання" мовы прыводзіць да шэрага парадоксаў: там, дзе моўная гульня пераасэнсоўваецца на карысць "аўтаномных структур", вымыкаецца глеба не толькі з-пад ног фальшывай, дакрытычнай метафізікі суб'екта, але адначасна – і з-пад ног прагматычных і неапрагматычных рэфлексій над "моўнай дзеяй".

Каментар пяты:

### УВОДЗІНЫ Ў ТРАКТАТ ВІТГЕНШТАЙНА "АБ ІМАВЕРНАСЦІ"

Трактат "Аб імавернасці", з якога і быў узяты шэраг апублікаваных тут параграфаў, з'яўляецца апошнім творам Вітгенштайна. На гэты роздум яго ў 1949 годзе натхніў Норман Малкалм, які нараіў яму асэнсаваць працу Джорджа Эдварда Мура (1873–1958) "Defence of Common Sence", найперш цверджанні Мура, што ён ведае пэўную колькасць сказаў, якія непазбежна будуць праўдзівымі (напрыклад: "Зямля існавала задоўга да майго нараджэння"). Вітгенштайн пакінуў пасля сябе гэтыя запісы ў чарнавіку. Ён так і не прыступіў да іх прагляду і апрацоўкі. Укладальнікі выдання, паводле якога быў зроблены пераклад (Ludwig Wittgenstein: Über Gewiβheit. Herausgegeben von G.E.M. Anscombe und G.H. von Wright. © Suhrkamp Verlag Frankfurt am Main 1970) разбілі тэкст на параграфы, адпаведна з пазначанымі ў Вітгенштайнавых нататніках датамі (першая дата – 23.09.1950, пачынаючы з параграфа 287; апошняя дата – 27.04.1951, пачынаючы з параграфа 670). Запісы падзяляюцца на чатыры часткі (параграфы 1-65, 66-192, 193-299 і 300-676).

У гэтым творы Вітгенштайн спрабуе давесці немагчымасць логіка-рацыянальнага мадэлявання т.зв. дыспазіцый і асабліва прапазіцый (сказаў), якія б былі імавернымі – г.зн. вытрымлівалі праверку на сапраўднасць. Аналагічную пазіцыю, згодна з якой рэлятывізм разглядаецца як перспектыва эпістэмалагічнай роўнасці тэорый, Вітгенштайн займае і ў сваёй канцэпцыі правілаў як "парадоксу". Гэтая ідэя, якая ў "Філасофскіх даследаваннях" з'яўляецца цэнтральным момантам, фармуе падмурак пад "новую форму філасофскага скептыцызму", у адпаведнасці з якой "правіла нельга вызначаць як спосаб ужывання, таму што кожны спосаб ужывання будзе ўзгоднены з правілам".

Як мы ўжо сказалі, Вітгенштайн тут ідзе ў рэчышчы эпістэмалагічнага рэлятывізму, які пераносіць акцэнт на мэтаскіраванае і прагматычнае значэнне выказванняў, якімі мы спрабуем выразіць аб'ектыўныя веды аб свеце. У першых параграфах "Аб імавернасці" ён досыць выразна адсоўвае намаганні эпістэмалогіі, а менавіта рэлятывісцкія ўдакладненні, звязаныя з тэорыяй пазнання ў духу Юма і абапёртыя на рэалістычныя падставы.

Як вядома, "прапісныя праўды" Мура сапраўды былі "чулым" месцам Вітгенштайна, але дыяпазон яго крытыкі сягае значна далей і закранае ўсе пазіцыі, якія ідэнтыфікуюць веду ці то ў пабытовым сэнсе, ці то ў сэнсе навукі, апошняя фармуе сваю сістэму сказаў-прапазіцый, якія выяўляюць сваю праўдзівую або фальшывую вартасць і маюць аб'ектыўнае значэнне. Пазіцыю, якую Вітгенштайн займае супраць Мура, можна назваць своеасаблівым "зняпраўджваннем" Муравага зняпраўджвання рэлятывізму; толькі адметнасць яе палягае не ў тым, каб сфармуляваць новыя аргументы, якія таксама можна будзе "зняўпраўдзіць", але каб давесці беспадстаўнасць рэлятывізму.

Аднак, каб вытлумачыць такую пазіцыю, патрэбна ў асноўных рысах рэканструяваць кантэкст рэфлексіі, дзе змяшчаецца тэзіс, сэнс якога – закладзены Вітгенштайнам – супярэчыць такому ж самаму тэзісу Мура: сказы, якія выражаюць імавернасць, не будуць ніколі ў строгім сэнсе "праўдзівымі" сказамі, па якіх можна, як у выпадку эмпірычных сказаў, выявіць іхнюю праўдзівую ці фальшывую вартасць і якія можна абгрунтаваць пры дапамозе логіка-рацыянальных аргументаў.

Аналіз імавернасці і сумневу, веры і веды, як гэта паказвае Вітгенштайн у сваёй позняй філасофіі, у сапраўднасці з'яўляецца працягам яго асэнсавання дыспазіцый, да якіх ён пільна прыглядаўся на працягу свайго аналізу феномена "разумення". Тэзіс, паводле якога дыспазіцыі будуць не эмпірычнымі сказамі, характар якіх вынікае з псіхічных станаў або асабістых дазнанняў, але хутчэй набытымі здольнасцямі, якія падпарадкоўваюцца правілам сістэмы, якая валодае сваёй уласнай тэхнікай пэўнай моўнай гульні, распрацоўваецца ў "Філасофскіх даследаваннях" пры дапамозе аналізу словаў, "спароднёных" з "разуменнем", а ў трактаце "Аб імавернасці" ўзмацняецца разглядам моўных гнёздаў "пэўнасць", "вера", "сумнеў".

Такім чынам, на думку Вітгенштайна, крытыцы павінны падлягаць традыцыйныя мадэлі рацыянальнага і аб'ектыўнага абгрунтавання пазнання. Яе заканамернае завяршэнне палягае ў адрозненні эмпірычна інтэнцыянальных і прагматычных кампанентаў пабы-

товай ды навуковай мовы. Больш таго, Вітгенштайн выстаўляе тэзіс пра не-экстэнсіянальны (інтэнсіянальны) характар мовы, згодна з якім інтэнцыі – такія, як гіпотэзы, спадзевы, імавернасці, чаканні – не з'яўляюцца ментальнымі феноменамі, а іх праявы не датыкаюцца да т.зв. псіхічных працэсаў унутранай і асабістай прыроды, але залежаць ад правілаў, якія вызначаюць моўныя гульні, у кантэксце якіх яны выконваюць нарматыўную, прагматычную функцыю. Гэткая функцыя розніцца ад дэскрыптыўнай функцыі эмпірычных сказаў, значэнне якіх акрэсліваецца стасункам да фактаў пазамоўнай прыроды і таму вызначаецца семантычнымі, а не прагматычнымі крытэрыямі. Паймо "прагматычны" тут варта разумець у сэнсе "ўзгоднены з нормай", "у адпаведнасці з правілам", значэнне якога не заснавана на аб'ектыўным або "суб'ектыўным" пазнанні – яго значэнне можна выявіць толькі адносна правілаў і нормаў, паводле якіх ажыццяўляюцца сацыяльныя гульні, куды ўключаныя чалавечыя ўчынкі і камунікацыйныя акты. Гэтыя сацыяльныя гульні прадвызначаюцца не "непасрэдным" пазнаннем, а тым, што па-ангельску называецца *background knowledge*, на фоне чаго яны набываюць сваю сапраўдную вагу; такім чынам, яны адлюстроўваюць не стабільныя і ўстойлівыя дамінанты веды, а плынную і няўстойлівую сумесь з этычных, эстэтычных, гаспадарчых, сацыяльных крытэрыяў, схіляюць да апрабаваных звычаяў пэўнага грамадства ці пэўнай групы, карацей кажучы, да характэрных прыёмаў прагматычнай рацыянальнасці. А адсюль недалёка і да тэзіса Вітгенштайна пра некаўзальны характар вытлумачэння фармулёвак, якія выражаюць адвольныя акты.

Апрача гэтага, у трактаце "Аб імавернасці" Вітгенштайн спрабуе давесці, што сказы, значэнне якіх залежыць ад сістэмы правілаў, не маюць рацыянальнага абгрунтавання, бо іх нельга ні эмпірычна пацвердзіць, ні зняпраўдзіць. – Вітгенштайн імкнецца ажыццявіць рэвізію поймаў "рацыянальнасць" і "аб'ектыўнасць", а таксама ў спецыфічным ракурсе аспрэчыць "рэлятывізм" і "ірацыяналізм". Тым самым Вітгенштайн даводзіць немагчымасць стварэння пры дапамозе логіка-рацыянальных метадаў падстаў для універсальнай класіфікацыі сказаў, што выражаюць імавернасць, сумневы, намеры, гіпотэзы і г.д. Кантэксты, якія, паводле Мура, выяўляюць "неаспрэчныя" імавернасці накшталт "вось мая рука", згодна з Вітгенштайнам, набываюць значэнне не столькі ў стасунках да прадметаў, колькі з апеляцыі да сістэмы, якой яны належаць, да комплексу правілаў, якія яе ўтвараюць. Гэтыя кантэксты знаходзяцца ў стане "недаакрэсленасці" як з боку логікі, так і з боку досведу, таму што ў іх не закладзены прынцып неабходнасці логіка-рацыянальнага абгрунтавання. Гэта адначасова сведчыць аб недастатковасці іх эмпірычна-эксперыментальнага базісу і пазбаўляе сэнсу працэдуру верыфікацыі/фальсіфікацыі. Было б неабачліва пры дапамозе лагічных аргументаў або ў святле эмпірычных відавочнасцяў ці дадзеных імкнуцца пацвердзіць такія выказванні, сцвярджаць аб'ектыўнасць і рацыянальнасць якіх нагэтулькі ж недарэчна, як і выкарыстоўваць тыя ж самыя аргументы, каб аспрэчыць іх і ў выніку давесці іхнюю не-аб'ектыўнасць і ірацыянальнасць, абвінавацíўшы іх у рэлятывізме і ірацыяналізме. Толькі ў святле радыкальнага мадэлявання сказаў, як гэта выяўляецца з перспектывы неаэмпірысцкіх і неарацыяналісцкіх тэорый пазнання, можна рашуча пазбавіць рэлятывізм прэтэнзій на рацыянальнасць і аб'ектыўнасць. У сапраўднасці сістэма і яе правілы – як давёў Вітгенштайн у трактаце "Аб імавернасці" – утвараюць "самазразумелы" базіс, "карціну свету", якую нельга абгрунтаваць ні лагічна, ні рацыянальна і пагатоў паддаць працэдуры верыфікацыі/фальсіфікацыі. Гэта хутчэй усяго толькі "ўсёабсяжная падаснова", "на фоне якой я раблю адрозненне паміж праўдзівым і фальшывым" (гл. § 94 у гэтай публікацыі).

***

І на заканчэнне некалькі пасажаў з Вітгенштайна:

"Філосаф – гэта той, хто мусіць выгаіць у сабе шмат хваробаў розуму, перш чым ён зможа падысці да паймa здаровай чалавечай развагі. Калі ў жыцці мы абкружаем сябе смерцю, то ў здароўі розуму – вар'яцтвам.

Філасофія выкрывала спакусы аблудаў, якія існавалі на *гэтай* ступені развіцця веды. (На іншай ступені існуюць новыя.) Але гэта не рабіла філасафаванне лягчэйшым!

Каб развязаць гэтыя філасофскія праблемы, трэба параўнаць паміж сабой рэчы, якія раней нікому не прыходзіла да галавы параўноўваць".

Валерка
БУЛГАКАЎ

---

[1] Welsch W. Unsere postmoderne Moderne. Wienheim: Acta humaniora, 1987. S.32.

[2] Lyotard J.F. Das postmoderne Wissen. Ein Bericht. Graz/Wien: Edition Passagen, 1986. S.131.

[3] Цыт. паводле: Welsch W. Unsere... S.80,82.

[4] Тамсама, S.249.

[5] Lyotard J.F. "Nach" Wittgenstein", In: Das Grabmal des Intellektuellen. Graz/Wien: Edition Passagen, 1985. S.73.

 

ЁН

# Казімеж СВЯГОЦКІ



*Штодня да сябе*
*падаюся бязмежжам,*
*ды толькі дайду —*
*знікаю.*

## *Пра Казімежа СВЯГОЦКАГА*

**Нашаму беларускаму чытачу імя польскага паэта Казімежа Свягоцкага, бадай, зусім незнаёма. А між тым, гэта паэт, які ў польскай пасляваеннай паэзіі займеў імя, будучы адным з найбольш цікавых паэтаў пакалення, якое ў нас называецца другім пасляваенным. Ён нарадзіўся ў 1943 годзе, як і большасць беларускіх пасляваенных паэтаў, на сяле. У польскай паэзіі XX стагоддзя гэта была другая хваля наплыву паэтаў з сяла, але тое, што прадвызначыла знак паэтычнай асобнасці Казімежа Свягоцкага, было абумоўлена яшчэ і тым, што ён стаў прафесіяналам-філосафам. Паланістыка, якую даў яму універсітэт Лодзі, яго не задаволіла, і ён канчае яшчэ і факультэт філасофіі Варшаўскага універсітэта, а затым абараняе Вучоны дыплом доктара гуманістычных навук. У выніку ў паэзіі Казімежа Свягоцкага зліліся памяць аб польскім сяле і эрудыцыя, якую дало яму пазнане філасофіі антычнасці, якою ён найбольш захапляецца. Не будзем называць імёнаў філосафаў, бо не ў імёнах разгадка феномена паэзіі Казімежа Свягоцкага, — яна — у збегу так блізкай беларускай паэзіі сялянскасці і так няблізкай яшчэ нам формы неаарыстоцелеўскай, не канкрэтна-адлюстравальнай, а закладзенай на падвалінах паэтыкі, у нас яшчэ мала рэпрэзентаванай, мала-закааптаванай.**

**Яе разумеюць равеснікі па-**



 

## *ДЫК ХТО Я?..*

**Дык хто я, што, з якіх іду краінаў,**
**куды і да каго мне закарцела?..**
**Гляджу, мінулае ва мне ўстае ўспамінам,**
**і камень, і святло кранаюць цела.**

**Ці час, аднак, таксама душу выме,**
**глыне, як акіян глынае мора?..**

**Ці ж я адзіна для таго, каб імя**
**сваё, узяўшы ад зямлі, разбіць аб зоры?..**

## *ПЛЁН ЗАБЫЦЦЯ*

**Я – вечны світанак**
**і захад сонца, якi бясконцы;**
**я – нахілены над сабой**
**між тым, што бачыцца**
**і тым, што існуе,**
**між мовай і вялікім даждЖом.**

**Ты, які не з'яўляешся днём,**
**як і не з'яўляешся ноччу,**
**паветрам, каменем**
**і ніякай з рэчаў, якія ёсць у табе,**
**і ніякай, якая па-за табой,**
**ты, можа, спазіранне вужа**
**у гадзінку сну, на якой Бог пакінуў**
**салодкі яблык – плён забыцця.**

**эта – польскія крытыкі, паэты. Вось словы пра Казімежа Свягоцкага паэта Земавіта Скібіньскага: "Калі я чытаю Свягоцкага, у мяне ў таварышах здзіўленне ад яго ўмення карыстацца шырокай фразай дзеля вобразатворчых, візуальных адкрыццяў, ад яго дару свабоднага валодання філасофскай тэрміналогіяй, якую ён свабодна спалучае з пластычнасцю паказу матэрыяй верша і дзеля даверлівага карыстання светаценню ў пейзажах сапраўды метафізічных".**

**Згадаю словы і Мар'яна Філіпяка: "Амаль у кожным вершы гэтага паэта і філосафа знаходжу нешта з Бібліі..., асабліва знаходжу ў іх атмасферу ненасытнасці быццём, пасіянарнасць пазнавання спраў чалавечых, смутак, не аднойчы – трагізм... Гэтую драму ненасыту паэзія Свягоцкага выражае мовай сімвалаў і метафар. Пагэтаму не здолееш яе чытаць у алімпійска-спакойным настроі; не здолееш пазбегнуць таго напяцця, якое стварае неўтаймаванае змаганне паміж святлом і цемрай, верай і няўпэўненасцю, Злом і Дабром, Небам і Зямлёй".**

**Паэзія Казімежа Свягоцкага, пры яе пасіянарнасці, усё ж складаная для ўспрыняцця з-за сваёй паэтыкі. Паэт гэта сам разумее, калі ў сваіх даследчых працах сцвярджае: "... Не я паную над маёй паэзіяй, але яна сама валадарыць над сабой...", "...усё ў ёй ёсць крэацыя, а не імітацыя, усё тут пазбаўлена першаснага, эмпірычнага значэння, бо ўсяму тут нададзена значэнне сімвалічнае". Спадзяюся, што паэтычная мова Казімежа Свягоцкага з зацікаўленнем будзе прынята і беларускімі чытачамі.**

**Алег ЛОЙКА**

## З ЛЯСНОЙ БІБЛІІ

Калі сонца – агромністае – гасла над пушчай
і вецер ад зямлі адрываў азмрочаныя горы,
дрэвы ўзнеслі да неба кароны
і заплакалі голасам высокім:
"Сонца, Сонца, чаму нас пакідаеш?!."

Тады над пушчай выплыў снежны анёл хмараў
і мовіў: не плачце, святла зямлі не збракне,
таму што вы родам з Каралеўства Зяляніны,
дзе Сонца ўсцяж вяртаецца да крыніц колераў.

Бо не з гэтай пушчы Каралеўства ваша,
не з гэтай вады, корань якую п'е,
не з гэтай зямлі, вада якую росіць,
не з гэтага святла, што вам свеціць штодня.

Бо ёсць жа Сонца-сонцаў і вятроў-Вецер
і дрэў найрозных адно Дрэва.
І адзін Корань нас жывіць. І ёсць
Зямля спакою за той зямлёй,
дзе той самы Стрыжань вечна існы,
хоць усцяж зменьваецца ў пушчу.

## ВЕЦЕР АД БОГА

Калі Вялікі Птах
устрапянуўся ва мне
крыламі хмар,
снег паваліў
у пустыя мае артэрыі.

Рос я зоркай і зарой палярнай,
а думак маіх лядовыя горы
крышыў у моры
Дух Паўночны,
як благое зерне.

Высокім цёмным небам
цякла мая кроў,
клічучы: "Выйдзі,
вандроўніку, са сваіх берагоў,
бо ж кліча цябе Вялікі Птах
на нязнаную лавітву,
святло згаслых целаў
да бясседнага стала кліча!.."

І я ўзняўся на крылах хмар,

дзе маладзік бесшалесна
піў сваім рогам
маю кроў,
а Бог сабе спаў.

І я даткнуўся да Божага сну,
як да зямлі выратавальнай –
зорка ж пакацілася ў мой слых
асілкавым плачам.
І я зразумеў: Бог сніць мяне,
я расту на глебе яго сну;
зорка ва мне коціцца і грыміць,
вецер ад Бога сэрца маё калыша.

## *АПОВЕСЦЬ ПРА ЖУРАВОЎ*

Ой, на лузе зялёным журавы селі-палі,
закрычалі над ставам, каб яго адчынялі.
Толькі ж стаў той замкнёны, без віны вінаваты.
Ой ты, ставе-нeставе, ой, вада-невада ты!..

Як алей тлусты, глеба, сенажацяў паромы,
хто карэннем жывіўся, з кветам лугу знаёмы.
І на захад плыве ён, і ў зарніцаў засекі;
журавель адзінокі стаў, нібы чалавек ён;
шум са ставу глыбеў падаўжэлаю шыяй,
ён здзіўляўся: лугі нічые воўкам выюць.

А паром лугу плыў: там тарфянішчы спалі,
лес глядзеў у ваду, хорам жабы спявалі.
І ён чуў: пад цяжарам напавал чэзлі ніца
існаванняў палаці ў куп'і і ў вадзіцы.

Змрок альшыны ў макрэчу звільнуў лугавіска,
птах даваў птаху знак, што пагібель дзесь блізка.
Жураваў чарада супраць плыні ўзлятала,
што ёй крылы цялá, скамяняць лёт іх стала.
Сам іх крык нёс яшчэ, бунт, што пёр, як паводка,
праз гушчары нябёс, цераз рэчы, што вокал.
У іх позірках збеглася неба ў аўчынку,
час на торф прысядаў ці наогул чэз, нікнуў.
Гас паволі прастор. Змрок ішоў цэнтрам, бокам.
Ля вады стаў жураў: "Паратуй жа ад змроку!"
Ды вада-невада глухла ў ставе-нeставе,
не пачула вада жураваў і журавак.
І гром грымнуў на цішу з таго боку йснення,
да касцей спапяляючы іх, да наймення.

Як алей тлусты, глеба, праз яе – луг паромам,
а хто чуў, як грыміць, з перуном той знаёмы.
Хто ж кранаў перуна, піў агонь з яго корня,
знае той: журавель не знікае пакорна.
Цень ад рэчы трывалей. Ценяў цень чарадою
па-над ставам-неставам і вадой-невадою.

*Пераклаў з польскай*
*Алег ЛОЙКА.*

## УНАЧЫ

У цішы начной найлепш
чуваць таямнічыя шэпты
маленькіх рэчаў.

Зіркастыя вочы нябёсаў
тонуць у кроплі расы,
спадаюць
з вежаў падзёртыя аркушы
Колішняга Закону,
і вецер трубіць на трубах
егіпецкіх святароў.

## КАЛІ ПОЎНАЧ

Калі поўнач
дзейсніць паганскі абрад
і паліць
на вогнішчы згубы
сцятыя целы гадзін,
ува мне
абуджаецца і маўчыць,
Што Мінула.

І гэтага
я баюся
найбольш за ўсё.

## ВЯРТАННЕ

Вярнуцца сюды?
Дзе ціхмяныя слімакі
плытнікуюць па сажалцы
на шырачэзных

 



гарлачыкавых лісцінах,
дзе раздзімае
вецер агеньчыкі белых лілеяў?

Вярнуцца сюды,
каб угледзець
свой леташні твар,
зламаны ў вадзе?

## *ПЕРАПАЎНЯЕ ПА БЕРАГІ*

Перапаўняе па берагі
мяне гэты свет: плыву
разам з ягонай плынню.

Усякая раніца – порт:
адгэтуль
скіроўваюся ў прасторы
разгорнутых дзён.

Уначы апускае моўча
якары ў маю глыб –
акіянскую бездань.

Не маю ні прошласці
і ні прышласці,
існую без межаў,
увязнены ў кожнай хвіліне
свайго трывання.

Ці ведала маці, нашто
мяне пасылае
у наваколле?

## *МАЯ ГЕАМЕТРЫЯ*

Уклалі мяне ў глыбіню
паверхні,
напялі на лініі
руху,
звязалі гордзіевым вузлом
небасхілаў.

Спалоханы, ападаю
па ўскрайках часу,
якіх няма.



 

Кранаюся рэчаў,
якія даўно пазнікалі,
з людзьмі,
якія без цела жывуць,
размаўляю.

Штодня да сябе
падаюся бязмежжам,
ды толькі дайду —
знікаю.

## ДА ЦЁМНАГА БОГА

Скідае сад аблаткі спеву,
самота лічыць рысы дзён,
і ўпадабняюся я дрэву,
якое йдзе ў зімовы сон, —

адкрыты цішы цэлым целам...
Ты адчуваеш, Божа, ўміг —
што калі цела дзе змярцвела,
дык нараджае ціша ўздрыг.

І тым уздрыгам трапятлівым
са мной яднаешся, як збег.
І што Цябе ўмяшчаю — дзіва...
Ды ўжо ідзе за мною снег.

Абняты непагаддзю, слотай,
вяду бясчассем, наўздагад,
сваю драўляную істоту
на твой дапытлівы разгляд.

Што зробіш з ёю Ты, што ісціш —
і зычыш мне — агонь і меч:
ад цішы змерлае ачысціш
ці, спапяліўшы, кінеш прэч?

О, Цёмны Божа, ацалелы
ў Тваёй спрадвечнай цемнаце,
чакаю, што нанова цела
з глыбіняў цішы зацвіце.

## ВАРОЖАСЦЬ

Стаім над вялікай ракою,
ты з гэтага, я з таго боку,
і цэлім адно ў аднаго.

**За намі пустыня, мора,**
**над намі дзень, ноч.**

**Не адварочваюся —**
**каб ты не забіў мяне,**
**не адварочваешся —**
**каб не забіў цябе я.**

**Гэтак трымаемся тысячагоддзі,**
**з'яднаныя,**
**быццам сяброўскім абдымкам,**
**разлогам варожасці,**
**над ракой,**
**якая нас некуды зносіць.**

## *ДОМ НА РАЗДАРОЖЖЫ*

**Бог да цябе**
**прыходзіць і — адыходзіць.**
**А ты застаешся —**
**дом**
**на разнасцежаным раздарожжы.**
**Вандроўныя птахі сядаюць**
**на схаладнелы комін,**
**у вокны**
**зоркі дапытліва зазіраюць.**

**Час-пачас, у белым дні,**
**вяртаецца да цябе**
**твой Бог, а ты бачыш:**
**варушыцца лапушынне каля сцяны,**
**і чуеш:**
**звініць у зеніце жаўрук —**
**трапяткая кропка.**

**Надзея прыходзіць і адыходзіць —**
**як вецер,**
**што поўны Ім.**

## *ЦЕНЬ НАД РАЎНІНАЙ*

**Калі памерлае зернейка прамаўляе**
**шумам вясновай лістоты**
**да нас з глыбіні каранёвай**

 



і адрываецца дзень ад ночы,
як птах ад полымнай вершаліны,
нагадваючы, што не толькі
згода, аднак і верад
здружаны з Непарушным, —

пільна сачы,
бо зараз
аб'явіцца над зямлёю
люстэрка раўнінных водаў —
сумленне свету.
І можа, за зменлівай з'явай
свайго, ад цябе
аднятага, адлюстравання
ты распазнаеш якраз
кроў сваёй душы
і соль свайго цела —
к а н ч а п а ч а т к і,

як ва ўсіх рэчах распазнаваў
дагэтуль адно толькі знакі
Ценю, што нацянькі
ляціць над Раўнінай.

## *ЗНОЎКУ*

Зноўку зямля падлегла
заходзіць у зону злівы.
Сем каласоў нягеглых
з'ядаюць плён цэлай нівы.

Сямёра кароў заняпаду
глытаюць кароў дабрабыту.
Ляціць саранча — і з саду
уся зеляніна збрыта.

Звер зверу ізноўку зверам
і бліжні бліжняму пасткай.
І Бог чалавеку ў меру,
калі Ён агонь — не ласка.

Крывёю Чырвонае мора,
Ніл гоніць мёртвыя хвалі.
Бы звонам, трасе прасторай
вецер нястрымны ў шале.

*Пераклаў з польскай*
*Алесь РАЗАНАЎ.*



 

# Янка СУРВІЛА

НАШ



*Уплыў хрысьціянства на беларускія звычаёвыя і пісаныя правы заключаўся ў прышчапленьні ўжо існуючай юрыдычнай сыстэме хрысьціянскіх прынцыпаў і маралі, якія, культываваныя пазьней на працягу стагодзьдзяў, далі прыгожы рэзультат у галіне беларускае юрыдычнае культуры, творам якое і найлепшым адбіткам якое зьяўляецца Літоўскі Статут.*

## *Пра Янку СУРВІЛУ*

**У чатыры гады хлопчык з Бельвічаў, што каля Жодзішкаў на Віленшчыне, ужо чытаў па-беларуску і ведаў на памяць Купалаву паэму “Курган”.**

**У 1942-м семнаццацігадовы Янка Сурвіла – дырэктар пачатковай школы ў розных мясцінах.**

**Пасля другой сусветнай вайны ў беларускім лагеры перамешчаных асобаў у Ватэнштэце (Нямеччына) ён засноўвае і рэдагуе часопіс “Шляхам жыцця” і выдае серыю паштовак з відамі Беларусі.**

**1947-мы – эміграцыя ў Францыю, дзе ў наступным годзе Сурвіла ўдзельнічае ў якасці сакратара ў Першым сусветным з’ездзе беларускай эміграцыі ў Парыжы. З’езд быў месцам знаёмства з Івонкаю Шыманец, якая праз дзесяць гадоў станецца спадарожніцаю яго жыцця.**

**З 1951-га, дзякуючы намаганням вядомага беларускага святара айца Льва Гарошкі, Янка Сурвіла атрымлівае стыпендыю Мадрыдскага універсітэта, дзе вывучае эканоміку. 25 сакавіка 1952 года ён выходзіць у эфір з першай накіраванай на Беларусь беларускамоў-**

Янка СУРВІЛА

# Аб уплыве хрысьціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы

## 1

<...> Апостал Павал кажа, што “пагане, ня маючы закону, па прыродзе робяць законнае... яны паказваюць дзела закону, напісанае ў іх сэрцах...” і паводля яго будуць суджаныя ў дзень узнагароды (Рым. II, 14–16).

Агульна ведама, што кожнае славянскае племя мела свае асаблівыя звычаі і свае норавы, але вельмі мала ведама аб тых асаблівасьцях.

Хаця агульна прызнаецца, што жыцьцё старадаўных славянскіх сем’яў азначалася спакоем і лагоднасьцю, ня было яно аднак пазбаўленае і дзікіх практыкаў. У балтыцкіх славянаў, а гэтым самым і ў нашых люцічаў, існаваў звычай забівання дзяцей; маткі душылі нованароджаных слабога полу – тады, калі яны іх ужо мелі больш, і гэта нібы дзеля таго, каб магчы лепш апекавацца іншымі[1]. Нідэрле, успамінаючы аб гэтым зьявішчы, ня ведае, як яго тлумачыць, і прыпускае, што яно было выклікана прычынамі характару эканамічнага і сацыяльнага; магчыма была надвышка жанчын, бо мужчыны ў тыя часы ў вялікай колькасьці гінулі ў безнастанных войнах.

Няма сумніву, што ў перадгістарычных часох звычаі нашых продкаў былі даволі грубыя, але цяжка згадзіцца з праф. Нідэрле, што старыя славяне жылі ў поўным бязладзьдзі і памяшаньні полаў і толькі пад канец паганскага пэрыяду плоцявае жыцьцё было ўжо абмежаванае да аб’яднаньня мужчыны з адною ці некалькімі жанчынамі[2], бо ёсьць сьведчаньні аб’ектыўных сьведкаў, якія даюць іншы абраз жыцьця нашых прашчураў.

Праўда, летапісы адносна матрыманіяльнага права некаторых пляменьняў даюць непахвальную характэрыстыку: “Радзімічы, вяцічы і северане... жылі ў лесе, падобна да зьвяроў, елі ўсё нячыстае... і ня было ў іх жанімстваў, а толькі мелі мейсца гульні між пасёлкамі. Яны сходзіліся на гэныя гульні, на танцы і на д’ябальскія песьні і там хапалі сабе жонак, з катораю хто перш згаварыўся; яны мелі па дзьве і па тры жонкі”[3]. У сапраўднасьці аднак гэта толькі асуджэньня паганскага звычаю жанімства, якое адбывалася пры купальскіх кастрох, з гэтаю мэтаю і сходзілася туды моладзь, каб даканаць фармальны акт шлюбу паводля тагачасных звычаяў. Але пэўна-ж абрад хапаньня жонкі мусіў мець старэйшую традыцыю і таму праф. Кадлец цьвердзіць, што хапаньне жонкі было першаю і найстарэйшаю формай жанімства[4]. Потым яна была забаронена, і каралі ўсіх, хто браў жонку сілаю. Пазьнейшая форма сужэнства, паводля Кадлеца, заключалася ў куплі або ў прадажы дзяўчыны; уканцы паганскага пэрыяду жанімства характэрна было тое, што дзяўчына мусіла мець пасаг.

**наю перадачай, а ў 1958 – 1965 гг. вядзе штодзённыя беларускія радыёперадачы ў Гішпаніі.**

**Пасля пераезду напрыканцы 60-х у Канаду Янка адразу ўлучаецца ў жыццё эміграцыі. Ён – шматгадовы старшыня Атаўскага аддзелу Згуртавання беларусаў Канады, сябра Канадыйскай рады для паняволеных еўрапейскіх народаў, сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе.**

**З дзіцячых гадоў, калі сам змайстраваў свой першы фотаапарат, Янка Сурвіла захаваў захапленне мастацкай фатаграфіяй. Дзякуючы яго здымкам створаны сапраўдны летапіс беларускай дыяспары ў Канадзе. Ён – аўтар вядомых фотапартрэтаў замежных беларускіх літаратараў, у тым ліку і мастацкага партрэта Наталлі Арсенневай, змешчанага ў выдадзенай “Мастацкай літаратурай” у 1996 годзе кнізе вершаў нашай выдатнай паэтэсы “Яшчэ адна вясна”.**

**У вечнасць Янка Сурвіла адышоў у 1997 годзе, паспеўшы наведаць пасля доўгай ростані Бацькаўшчыну і ўзяць у ліпені 1993-га ўдзел у Першым з’ездзе беларусаў свету.**

**Ён памёр, як і жыў, грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, з 1948 года ўваходзячы ў яе Раду, якую нядаўна ўзначаліла Івонка Сурвіла.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

Што да разводаў у нашых продкаў, дык цяжка аб гэтым сказаць штосьці канкрэтнае. Праўдападобна, што яны былі ведамыя, але агулам сямейнае жыцьцё стараветных славянаў характэрызавалася нявіннасьцю і вернасьцю жанчыны. Нідэрле цытуе аднаго арабскага гісторыка з X ст.[5], які кажа, што чужаложства сярод славянаў не практыкавалася[6]. Іншыя зноў[7] захапляюцца чыстасьцю славянскае жанчыны і кажуць, што яна сягала па-над усе людзкія магчымасьці[8]. Вернасьць і любоў былі ў славянскай жанчыны сталай і нязьменнай якасьцю; а гэта сьведчыць аб высокім узроўні маралі і культуры.

Бязумоўна, аднак, што з гэтага былі выняткі, ня гледзячы на вельмі суровыя кары; чужаложства звычайна каралася сьмерцю. У пачатку хрысьціянскае пары нячыстасьць і чужаложства ўспамінаюцца, як грахі вельмі пашыраныя (Нідэрле, там-жа с.20).

Выглядае, што моладзь не падлягала такім строгім карам за вольнае жыцьцё[9]. Дайшлі так-жа да нашых дзён некаторыя казаньні з першых часоў хрысьціянства на нашых землях, у якіх відаць высілкі духавенства адвучыць моладзь ад розных "шатанскіх і д'ябальскіх гульняў", але ня выключана, што гэта ёсьць простым паўтарэньнем казаньня сьв. Івана Златавуснага аб немаральных бізантыйскіх звычаях, супраць якіх ён выступаў вельмі востра: "Жанчына, якая гуляе, ёсьць каханкай сатаны і жонкай д'ябла"[10].

Паводля сьведчаньня Масудзі[11] славянскія дзяўчаты мелі быць зусім вольных звычаяў, але, выйшаўшы замуж, ставаліся вернымі свайму мужу, цяжка аднак паверыць, каб магла наступіць такая раптоўная зьмена на лепшае, хутчэй трэба думаць, што і моладзь адзначалася чыстым жыцьцём.

Гвалт быў сурова караны старымі славянскімі звычаямі і больш сурова тады, калі ён стаўся ўдома, чым тады, калі стаўся ў полі, ці падчас сьвяткаваньня, бо "дзяўчына не абавязкава мусіла туды "йсьці"[12].

У сям'і нашых продкаў ня было роўнасьці правоў. Паўнапраўным сябрам роду быў толькі мужчына і суадносіны між ім і жанчынай былі такія, як між князем і падданым. За зламаньне сужэнскае вернасьці муж ня меў ніякіх караў, а жанчына каралася сьмерцю. Былі гэтак сама часы, калі жонка па сьмерці мужа палілася на кастры разам з трупам мужа і ягонымі нявольнікамі; праўда, яны часам кідалася ў касьцёр дабравольна з тагачасных рэлігійных перакананьняў, каб быць разам з мужам у загробным жыцьці.

Было-б памылкай уважаць, што жанчына была нявольніцай у сям'і і ў старым грамадзтве. Ёсьць дадзеныя, як кажа Нідэрле, якія паказваюць, што роля жанчыны ня зводзілася толькі да дагляду хаты, але што яна таксама ўдзельнічала ў грамадзка-палітычным жыцьці.

За жыцьця мужа жанчына не карысталася правам прыватнае ўласнасьці, але пасьля ягонае сьмерці, калі ён меў якіясь рэчы, то яны пераходзілі жонцы як спадчына. Да яе гэтак сама пераходзіў абавязак апекі над малалетнімі дзяцьмі і адміністрацыя ўсяе маемасьці[13]. Удовы карысталіся агульнай пашанай.

Суадносіны між бацькам і дзяцьмі ня шмат розьніліся ад адносінаў між гаспадаром і нявольнікамі (рабамі). Гэта сьледна нават і ў этымалёгіі слова "раб", якім азначалася калісь таго, хто ня ўмее гаварыць і адносілася да дзіцяці і да чужынца, а нявольнікамі ў нас былі першапачатна толькі чужынцы[14].

Назовам "сям'я" ахопліваліся калісь усе асобы, якія знайходзіліся ў хаце пад уладай гаспадара, гэта значыць: жонка, дзеці і нявольнікі. Бацька мог караць сваіх дзяцей уключна да кары сьмерці. Праф. Кадлец успамінае аб выпадках на Русі, дзе дзеці прадаваліся ў нявольнікі. Трэба аднак заўважыць, што гэтыя бацькаўскія правы былі адменныя ад "бацькаўскае ўлады" ў рымскім праве, дзе бацька меў абсалютную ўладу адносна ўсіх у сваёй сям'і, распараджаючыся імі як звычайнымі прадметамі. Тут дарослыя сыны дзейна ўдзельнічалі ў карыстаньні і гаспадараваньні супольнае сямейнае маемасьці[15].

Да часу, пакуль сем'і не дзяліліся, жывучы разам і творачы цэлы род, праблема апекі над малалетнімі, як такая, не існавала, бо гэты абавязак належаў да ўсяго роду, але з часам, калі роды пачалі дзяліцца на паасобныя сем'і, паўстала неабходнасьць унармаваньня справы апекі і гэты абавязак перайшоў да ўдавы, або выбіралася адна асоба з найбліжэйшае радні[16].

Родавая форма сямейнага сужыцьця не дазваляла на паўстаньне спадковага права, бо сям'я як юрыдычная адзінка ня ўмірала, але з мамэнтам, калі роды пачалі распадацца, зьявілася неабходнасьць унармаваньня права прыватнае ўласнасьці, спачатку выключна адносна рухомае маемасьці, якая ў практыцы пераходзіла да найбліжэйшае радні. Воля нябожчыка пры падзеле ягонае маемасьці заўсёды бралася пад увагу. Нярухомая маемасьць, потым, дзялілася паміж сынамі[17].

Што да нявольніцтва, дык спачатку, пакуль нашы продкі жылі родавым ладам, дык мелі нявольнікаў толькі чужынцоў, якія здабываліся ў войнах, або купляліся на рынках. Нявольнікі мяйсцовага паходжаньня зьявіліся толькі пасьля ўпадку родавага ладу, і з часам іхняя колькасьць была так вялікая, што імі былі завалены тагачасныя рынкі. З гэтае прычыны быў нават вытварыўся пагляд, што слова "славянін" сталася сынанамам слова "нявольнік" для заходняэўрапэйскіх моваў (slave, slaef, esclave, slave, schiavo, esclavo, escravo). Аднак Нідэрле зусім слушна заўважае, што ня слова "славяне" выводзіць свой пачатак ад слова абазначаючага рабства, але наадварот, слова "рабства" выводзіць пачатак ад этнічнага назову[18].

Адносна права маемасьці, дык як ужо ўспаміналася перш, да часу існаваньня родаў уся нярухомая маемасьць была калектыўнаю ўласнасьцю роду, але ўжо і ў той далёкі час існавалі зародкі прыватнае ўласнасьці адносна рухомае маемасьці. Ведама, што вопратка, зброя і прадметы першае патрэбы, якімі чалавек карыстаўся заўсёды, уважаў іх выключна сваімі. Уканцы паганскага пэрыяду ўжо мела мейсца выразная індывідуалізацыя маемасьці наагул, а зямельнае ў асаблівасьці[19].

Карнае права спачатку выконвалася кіраўнікамі родаў. Крывавыя парахункі між сем'ямі ўважаліся справамі родаў і толькі з мамэнтам праяўленьня дзяржаўнае арганізацыі дзяржаўная адміністрацыя пераняла на сябе абавязак абароны грамадзянства перад парушэньнем справядлівасьці.

Прынцып "вока за вока і зуб за зуб" існаваў калісь усюды, але ў славян ён быў асабліва пашыраным. З часам аднак помста прыняла менш вострыя формы і за некаторыя злачыны вымагалася ад вінаватых матэрыяльная рэкомпэнсата. Гэтая сыстэма была ведамая славянам ужо ў X ст.[20], але прайшло шмат часу, пакуль яна змагла паўсюдна ўспрыняцца.

Між шматлікіх звычаяў ёсьць адзін характэрны, які быў пашыраны між усіх славянаў, гэта салідарнасьць супольнасьці (роду, сям'і) у выпадку, калі здарыцца якоесьці праступства. За праступства сямейніка адказвала ўся сям'я, род, або і большая сацыяльная адзінка. Яны мусілі злавіць і выявіць вінаватага, а калі адмаўляліся гэта зрабіць, хоць было ведама, што вінаваты хаваецца ў іх, тады гэтая сям'я або род былі змушаныя направіць шкоду, прычыненую тым вінаватым, заплаціць за яе.

Уканцы колькі слоў аб судовай арганізацыі таго пэрыяду.

У найбольш старых часох судзьдзямі былі галовы родаў, або пляменьняў. Іхныя прысуды вытваралі свайго роду карны кодэкс. Супярэчнасьці між родамі спачатку ня мелі арбітраў, і справы вырашаліся сілаю. Калі зьявілася вышэйшая грамадзкая арганізацыя, зьявіліся і арбітры ў спрэчках родаў.

У больш агульных і больш важных справах часта практыкаваліся адкрытыя дыскусіі, у якіх устанаўлялася, хто вінаваты і прысуджвалася адпаведная кара. Гэта былі свайго роду калектыўныя суды, дзе пераважалі людзі старэйшыя і найбольш паважныя. Гэта быў пачатак трыбуналаў, дзе судзьдзямі былі людзі, ведаючыя судовыя традыцыі. Сапраўдныя трыбуналы зьявіліся толькі з мамэнтам утварэньня княстваў з князёўскімі трыбуналамі. Аднак і тады незалежна ад тых трыбуналаў часам некаторыя большыя грамадзкія супольнасьці выбіралі "добрых людзей" для выконваньня ролі судзьдзяў[21].

Гэтак у агульных рысах меў-бы выглядаць юрыдычны аспэкт у жыцьці нашых продкаў таго пэрыяду, калі яно было ў іх найбольш натуральным. Разам з гэтымі агульнымі звычаямі, яны ў кожным племені мелі свае звычаі, законы сваіх бацькоў і свае асобныя традыцыі, якімі кіраваліся ад вякоў, але яны яшчэ чакаюць сваіх дасьледнікаў.

## 2

Ці прыход хрысьціянства запачаткаваў новую пару ў жыцьці нашых продкаў? А тым самым, ці мела яно ўплыў на разьвіцьцё звычаяў і правоў на Беларусі? – Гэта асноўнае пытаньне, якое ставіцца ў гэтым артыкуле, і адказ на яго будзе бязумоўна пацьвярджаючым. Але далей насоўваюцца два наступныя пытаньні: 1) Якім чынам, якім шляхам і ў якой форме адбываўся ўплыў хрысьціянства і 2) у якой ступені хрысьціянства як такое спрычынілася да эвалюцыі беларускага законадаўства?

Калі нашыя продкі прынялі хрысьціянства, яны ня сталіся так адразу сапраўднымі хрысьціянамі. Старая паганская рэлігія яшчэ доўга трымалася ня толькі ў глухіх вёсках, але і ў гарадох з такою ўпорыстасьцю, што была вытварылася свайго роду падвойная рэлігія, з якою Царкве прышлося вясьці нялёгкае змаганьне[22].

Наяўнасьць цэлае масы чараўнікоў і паганскага клеру – спадчына папярэдняе эпохі –

 



станавіла сабою важны сацыяльны дзейнік у тагачасным грамадзтве. Гэта яны ў першую чаргу вялі зацятую вайну супраць хрысьціянства. Царква, бачачы іхны ўплыў на людзей, была змушаная накіраваць супраць іх усе свае сілы, спатыкаючы – асабліва ў першыя часы – паважны супраціў гэтага ворага[23].

Хрост князёў спрычыніўся да зьмены палітычных умоваў старое і новае рэлігіі. Дзяржава ступіла на шлях поўнага разрыву з паганшчынай і да аб'яднаньня з хрысьціянствам, але гэта ўсё сталася толькі з некаторым спазьненьнем. Паганізм хаця і пераможаны, ня быў аднак зьнішчаны; бараніўся ён яшчэ доўгі час пры дапамозе нават законаў і звычаяў самога грамадзтва, у якім быў глыбока закарэнены[24].

Наагул шмат чаго, што было ў паганскую эпоху, перайшло ў хрысьціянскую з тымі толькі зьменамі, што пад уплывам Царквы некаторыя звычаі і практыкі, якія зусім не гадзіліся з духам хрысьціянства, былі выэлімінаваныя, а іншыя прыстасаваныя да новага духу. Тут варта заўважыць, што Усходняя Царква адносна да паганскіх звычаяў і абрадаў была больш талерантнай, чым Заходняя. Да таго адвечныя звычаі былі так глыбока закарэнены ў жыцьці нашых продкаў, што нават у 14 стагодзьдзі знаходзіліся простыя людзі, якія ўважалі царкоўныя цэрэмоніі за нешта, што добрае толькі для князёў[25]. Некаторыя звычаі і практыкі паганскага пэрыяду сталіся складовай часткай рэлігійных хатных звычаяў, а некаторыя нават і царкоўных і дахаваліся аж да нашых дзён.

На пачатку хрысьціянскае пары грамадзтва адзін раз было больш хрысьціянскім, чым ягоныя законы, а іншым разам гэтыя законы былі больш хрысьціянскімі, чым самое грамадзтва. Быў сталы брак гармоніі, які трэба тлумачыць змаганьнем двух прынцыпаў: элемэнту паганскага і элемэнту хрысьціянскага[26]. Гэтак сама трэба заўважыць, што на пачатку Царква і дзяржава знаходзіліся ў замоцна непасрэдным кантакце. Гэта было якраз вынікам таго, што Царква ня была поўнасьцю незалежнай у сваіх дэтэрмінацыях і акрэсьленьнях; пратэкцыя сьвецкае ўлады адбівалася нярэдка адмоўна на ўладзе пратэгаванай і вялікія думкі гэтае апошняе зьменшваліся і звужаліся, як толькі яна лучылася з палітыкай гэтага сьвету[27].

Ужо гэтых некалькі заўвагаў агульнага характару даволі, каб сьцьвердзіць наяўнасьць уплыву хрысьціянства на фармаваньне беларускіх абычаёвых, а тым самым і пісаных правоў. Ідучы далей, трэба прыглянуцца, якім чынам, якім шляхам і ў якой форме адбываўся той уплыў? Ёсьць звычайнай рэччу, калі князь прымаў новую рэлігію, дык адначасна браў на сябе абавязкі абараняць яе. Гэты абавязак быў неразлучны з князёўскім урадам, і таму князі заўсёды ўважалі сябе абаронцамі веры. Дык будзе зусім зразумела, што нашыя князі, прыняўшы хрысьціянскую веру, ставілі яе ўва ўпрывілеяванае становішча, акружаючы яе сваею непасрэднай апекай і надаючы прывілеі розным царкоўным інстытуцыям і клеру. З другога-ж боку падобны стан рэчаў адначасна мусіў азначаць абвешчаньне дзяржавай адкрытага змаганьня супраць паганства. Як у адным, так і ў другім выпадку ўсе князёўскія акты заключаліся ў першую чаргу ўва ўстанаўленьні адпаведных законаў і нормаў дзеля рэгуляваньня суадносінаў людзей у княстве згодна з духам новае веры. Гэткія законы, якія маглі маніфэставацца ў вуснай ці пісанай форме, і прычынаю зьяўленьня якіх было якраз прыняцьце хрысьціянства, далі пачатак хрысьціянскім правом і законам, уводзячы хрысьціянскі элемэнт у беларускае законадаўства. Паколькі, асабліва ў пачатках хрысьціянскае пары, амаль усе нормы і законы паўставалі пад уплывам Царквы, ня былі творам якогасьці даўжэйшага эвалюцыйнага працэсу, але іхняй крыніцай была непасрэдна князёўская ці царкоўная ўлада, дык гэты спосаб і гэты шлях уплыву можна назваць простым, непасрэдным і рэвалюцыйным.

Успомнены шлях ня быў адзіным. Ён быў уласьцівым, калі ня выключна, дык у пераважаючай ступені, толькі ў першыя вякі пасьля прыняцьця хрысьціянства. З часам ён уступіў мейсца іншай форме пранікальня хрысьціянскага элемэнту і ягонага ўзьдзейваньня на беларускія інстытуцыі права.

Хрысьціянская Царква вяла доўгае і напружанае змаганьне за хрысьціянізацыю старых практыкаў, звычаяў і сацыяльных нормаў сужыцьця грамадзтва. Працэс гэтае хрысьціянізацыі – беручы пад увагу ўласьцівасьці псыхікі беларускага народу – мусіў быць павольным і патрабаваў шмат часу, каб выэлімінаваць калішнія паганскія звычаі і практыкі ды замяніць іх хрысьціянскімі, з аднаго боку, як і змадыфікаваць да дастасаваць да вымогаў Царквы і хрысьціянскае навукі іншыя з іх. Ведаючы, што звычаі зьяўляюцца адною з крыніцаў права, можна лёгка бачыць той іншы шлях і іншы спосаб, якім хрысьціянства праяўляла свой уплыў на нармаваньне і рэгуляваньне людзкіх суадносінаў у беларускім



 

 



народзе. Гэты шлях моцна розьніўся ад папярэдняга. Вымагаў ён даўжэйшага эвалюцыйнага працэсу, і таму будзе найлепш яго назваць эвалюцыйным шляхам і пасрэдным уплывам хрысьціянства на фармаваньня беларускага правадаўства.

Прыходзячы яшчэ бліжэй да самае тэмы, трэба зазначыць, што ў тым часе, калі Царква пачала пашыраць сваю навуку на беларускіх землях, яна ўжо мела дакладна апрацаваныя вялікія зборнікі царкоўнага права, т.зв. номаканоны, якія ў царкоўнаславянскіх перакладах называліся Кормчымі кнігамі. Няма сумніву, што гэтыя зборнікі, якія прыйшлі на Беларусь з Баўгарыі, сваім зьместам і сваімі прынцыпамі мелі ўплыў на мяйсцовае законадаўства.

З арыгінальных памятнікаў законадаўства першых вякоў хрысьціянства і агулам сярэднявечча на Беларусі да нашых дзён захавалася толькі некалькі. Першым з іх агульна лічыцца "Руская Праўда"[28], асабліва ў пазьнейшай пашыранай рэдакцыі з канца Х-га і пачатку XI ст. Гэта ёсьць кодэкс юрыдычных нормаў крымінальнага права, дзе ўжо заўважаюцца сьляды ўплыву хрысьціянскіх прынцыпаў на ягонае фармаваньне. Напр., помста тут ужо адменьваецца, уносяцца артыкулы, рэгулюючыя нормы цывільнага права, якіх ня мела "Руская Праўда" кароткае рэдакцыі. Таксама рэгулююцца ў ёй суадносіны куплі-прадажы, пазыкаў, перахаваньня, спадчыны і апекі.

Цікавымі праўнымі дакумантамі былі т.зв. Устаўныя Граматы, якія рабілі князі падчас заснаваньня біскупстваў. Нажаль найстарэйшыя такія граматы беларускіх князёў з Полацка і Турава загінулі, захавалася толькі грамата князя Расьціслава Смаленскага з 1150 г. У ёй рэгулююцца ня толькі чыста рэлігійныя справы, але так-жа і некаторыя з тых, дзе сходзілася рэлігійная і сьвецкая ўлада[29].

Іншым цікавым памятнікам нашага сярэднявечнага законадаўства зьяўляецца Смаленскі Дагавор з Рыгай і Готляндам, заключаны князем Мсьціславам Давідавічам у 1229 г. Хаця ён прысьвечаны галоўным чынам рэгуляваньню гандлёвых дачыненьняў паміж смаленскімі і нямецкімі купцамі – прадстаўляе сабою тып міжнароднага дагавору, – але мае ў сабе вельмі цікавыя артыкулы аб праступствах супраць маралі, адносна чужаложства і гвалту. Таксама поўна прадстаўлены ў ім артыкулы цывільнага права і судаўніцтва.

Маецца яшчэ адзін пазьнейшы дагавор Смаленску з немцамі, які адносіцца да 1240–50 г. Ягоны зьмест падобны да дагавору з 1229 г., але мае артыкулы аб спадковым праве, чаго ня было ў папярэднім дагаворы[30].

Яшчэ перш, у 1210 г., была зроблена гандлёвая ўмова Полацку з Рыгай, і потым падобныя ўмовы некалькі разоў аднаўляліся і дапаўняліся. Аб некаторых з іх захаваліся толькі ўспаміны[31].

Адносна судаўніцтва, дык з Смаленскага Дагавору (1229 г.) даведваемся аб новым спосабе караньня, аб заключэньні. "Руская Праўда" ўспамінае толькі аб такіх пакараньнях, як: штраф, патоп і разграбленьне. У Дагаворы-ж успамінаюцца яшчэ "пограб" ці "поруб" (вязьніца-зямлянка з бярвеньнем на нагах пакаранага) і "жэлеза" (закуцьці). Яны мелі практыкавацца ў нас пачынаючы ад XIII-га стаг., хоць у летапісе з пачатку XI ст. успамінаецца ўжо аб заключэньні ў "паруб"[32].

Да іншых праўных памятнікаў гэнае пары адносяцца яшчэ князёўскія даравальныя граматы розным інстытуцыям, пераважна царкоўным і вышэйшаму клеру. Характэрыстыка феодальнае эпохі ёсьць якраз наяўнасьць вялікіх магнацтваў, якія мелі свой пачатак у князёўскіх надзелах. Іх можна здэфініяваць як інстытуцыі, пры помачы якіх сяляне групаваліся каля магнатаў царкоўных (біскупаў, манастыроў), ці сьвецкіх уласьнікаў вялікіх зямельных абшараў з тым, каб іх абаранялі ад вонкавых нападаў і каб атрымаць ад іх зямлю для апрацоўкі. Такія князёўскія надзелы былі пераважна імунітэтныя і таму тэрытарыяльнае магнацтва прадстаўляла сабою жыцьцёвую адзінку, у нутры якое здавальняліся ўсе ейныя патрэбы: палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, юрыдычныя і рэлігійныя. Вось-жа свайго роду поўная аўтаркія.

## 3

Тэрытарыяльнае магнацтва адыграла вялікую ролю ў фармаваньні і эвалюцыі беларускага законадаўства. На тых абшарах, якія належалі царкоўным інстытуцыям і вышэйшаму клеру, якраз гэтыя апошнія і зьяўляліся тэй непасрэднай і амаль выключнай крыніцай панаючага там права. Паўстаўшыя гэткім чынам у такіх магнацтвах нормы і законы, мусілі быць найбольш адказваючымі вымогам царкоўнае навукі, а творачы складовую частку агульнае юрыдычнае сыстэмы, ці маючы непасрэдны і вялікі ўплыў на



 

яе фармаваньне, уводзілі туды элемэнты хрысьціянскае маралі, якія мелі служыць базай усім нормам і законам у матэрыі суадносін людзей у беларускай дзяржаве.

Адсутнасьць дастатковае колькасьці матэрыялаў і дадзеных адносна беларускага права з сярэднявечнага пэрыяду змушае абмежавацца да гэтых некалькі агульных заўвагаў. Яны паслужаць за ўступ да наступнага пэрыяду ў беларускім правадаўстве; пэрыяду, які распачынае Літоўскі Статут, дзе будзем ужо мець змогу затрымацца над спосабам нармаваньня і рэгуляцыі галаўнейшых аспэктаў адносна людзей, што ў сваю чаргу дапаможа ўканцы зрабіць адпаведныя высноўкі. І тут дамо голас самым "артыкулам" Статуту; хай яны, абтросшы пыл стагодзьдзяў, самі прамаўляюць да чытача: "Усе абываталі Вялікага Княства Літоўскага тым адным правам пісаным і ад нас даным, суджаны быці маюць", гучыць першы артыкул першага разьдзелу. – "Наперад мы, гаспадар, абяцуем і шлюбуем... іж усіх княжат, паноў-рад духоўных і сьвецкіх, станаў у тым панстве нашым Вялікім Княстве Літоўскім... пачаўшы ад Вышшага стану аж да ніжшага, тымі аднымі правы і артыкулы, у тым-жа Статуце ніжэй пісанымі і ад нас данымі, судзіці і справаваці маем"[33]. Вось маем ажыцьцяўленьне таго, што кажа ў Новым Запавеце ап. Павал: "Няма ўжо раба, ні свабоднага... бо ўсе вы адно ў Хрысьце Ісусе" (Гал. III, 28).

У іншым артыкуле (I. раз. III) законадаўца абяцае і шлюбуе ў першую чаргу бараніць інтарэсы і працаваць на карысьць свайго народу і свае бацькаўшчыны, ды спаўняць перад імі свае абавязкі, а ўканцы кажацца: "І хаця-б Пан Бог, з ласкі Свае сьвятое, нам, гаспадару, ужычыці рачыў панства іного, або і каралеўства, тады прэд ся сяго панства нашага Вялікага Княства Літоўскага князёў, паноў-рад духоўных і сьвецкіх і ўсіх ураднікаў земскіх і дворных, шляхту і рыцарства і ўсіх іншых станаў ні ў чым не паніжаці, але ад усякае лёгкасьці і паніжэньня сьцерагчы і бараніці будзем, з помаччу Божаю, стараючыся а прымнажэньне і вывышшэньне таго панства і ўсіх дастойнасьцяў, аздоб і пажыткаў, з найбольшаю пільнасьцю і ўсілаваньнем нашым".

Свабода сумленьня і рэлігійная талеранцыя гарантуюцца законадаўчым шляхам. У арт. 3.III[34] кажацца: "А іж тэж прывілеем і папрысяжэньнем нашым ёсьць уцьверджана пакою межы рознымі ў рэлігіі сьцерагчы"...

"А іж у рэчы паспалітай ёсьць рознасьць немалая з стараны веры хрысьціянскае, забягаючы таму, абы ся з тое прычыны межы людзьмі зашцьце якое шкадлівае ня вшчэла, каторую па іншых каралеўствах ясна відзім, абяцуем то сабе спольна за нас і за патомкі нашы на вечныя часы пад абавязкам прысягі, пад вераю, чэсьцю і сумленьнем нашым, іж, каторыя есьцясьмо розьні ў веры, пакой межы сабою захаваці, а для螺 рознае веры і адмены ў касьцёлах крыві не праліваці, ані ся караці адсуджаньнем маетнасьці, пачцівасьці, вязеньнем і выгнаньнем, і зьверхнасьці жаднае ані ўраду да таковага поступку жадным спосабам не памагаць, і оўшэм дзе-б яе хто праліваць хацеў, з тае прычыны застаўляць ся а тое ўсё будзем павінны, хаця-б тэж пад аблігам выраку або за паступкам якім судовым хто то ўчыніць хацеў".

З іншых асабістых вольнасьцяў гарантуецца свабода выезду ў іншую краіну (16/III), "кроме зямель няпрыяцельскіх" і краіна тая мае быць хрысьціянскай. У тым-жа артыкуле рэгулюецца справа апекі над маемасьцю выехаўшага. У выпадку, калі-б ён памёр, "урад наш земскі судовы маець апякуна, чалавека добрага, растаропнага, цнатлівага, пабожнага і добра ў тым панстве і ў тым-жа павеце, дзе тыя іменьні ляжаць, аселага, на таковыя іменьні ўстанавіці..."

Нявольнікі яшчэ прызнаюцца Літоўскім Статутам, але іх бярэцца ў апеку хоць у некаторых выпадках. Арт. 20/XII кажа, калі-б пан сваю чэлядзь нявольную ў галодны час выгнаў з дому, ня хочучы яе карміць, і яна-б сама сябе пракарміла, то "таковыя ўжо ня маюць быці нявольнымі, але вольнымі".

Ня ўсе веравызнаньні ў Вялікім Княстве Літоўскім карысталіся з тых самых правоў, што да юрыдычных эфэктаў, але хрысьціянскія веравызнаньні мелі ўпрывілеяванае становішча. Нехрысьціяне ў некаторых выпадках былі пазбаўлены некаторых юрыдычных магчымасьцяў, як гэта мела мейсца напр. з правам быць сьведкаю: "ня маюць ку сьвядэцтву прыпушчаны былі жыдове, адно людзі веры хрысьціянскае ўсякага стану і тыя, каторыя прывілеям нашым ку сьвядэцтву прыпушчаны, толькі-б былі людзі добрыя, цнатлівыя, багабойныя і нічым не падазронныя...", кажацца ў арт. 14/IX.

У **сямейным праве** падчыркваўся аўтарытэт бацькі. Калі дзеці важыліся панізіць, ці абразіць бацькаўскую годнасьць, дык бацька мог іх вырачыся. Арт. 7/VIII пералічае тыя прычыны, калі бацькі могуць вырачыся сваіх дзяцей: "Першая – есьлі-б сын, або дачка,

 



ня помнячы на Пана Бога і на родзічы сваі, тарганууся рукою, ударыў або пхнуў з гневу, таковага ня толькі вырачыся можэць, але горлам ад ураду, за жалабаю і довадам родзічаў каран быці маець,

другая – калі-б сын або дзеўка значную крыўду родзічам чынілі ў забіраньню маетнасьці бяз волі і ведамасьці іх,

трэцяя – естлі-бы сын або дзеўка са злосьці сваёй, а не для пажытку рэчы паспалітае, фольдравалі на родзічаў сваіх, на горла каму гволі,

чацьвёртая – естлі-бы ся трапіла, дзе ў права айца або маткі ручыць не хацелі ку пастанавеньню, а звлашча дзе-б таго ўрад дапусьціў,

пятая – естлі-бы дзеўка не статэчна, чыстасьць сваю на вшэтэчэнства абарачаючы, мяшкала,

шостая – естлі-бы родзічаў сваіх апусьцілі ў зошлых і старых лецех, а не давалі жыўнасьці і іншых патрэб родзічам,

сёмая – гды-бы родзчаў з рук няпрыяцельскіх акупіць, або вызваліць не хацелі, а маетнасьці атцоўскае, або матчынае ўжывалі".

У **сужэнскім праве** маецца ня толькі ўплыў хрысьціянства, але так-жа выразнае датарнаваньне да царкоўнага права. Вось напр. артыкул датычны разводаў 20/V: "Тэж уставуем, іж развод малжэнскі, каму-бы да таго спору і розьніцы прыходзіла, маець быці водлуг права хрысьціянскага кождым асобам нідзе індзе, адно перад судом духоўным іх набажэнства".

"І естлі муж застанець вінен з разсудку права духоўнага, тады жана застанець на аправе ад яе апісанай... а пак лі-бы жана вінна найдзена, тады ўнясеньня і аправу сваю траціць".

Калі-б аднак развод быў выкліканы слушнымі прычынамі, "іж ся малжэнства ў няведамасьці і крэўнасьці стала, альбо для іншых прычын, каторыя-бы ся перад правам духоўным паказалі, іж-бы слушны развод меў быці, тады пры разводзе прывенак пры мужу, а ўнясеньне пры жане застаці маець".

Уканцы зазначаецца: "Але на расправу судовую межы такімі разьведзенымі вакол вяна маець суд духоўны, выпісаўшы праўдзіва і верна прычыны разводу, адаслаці іх да суду належнага сьвецкага... які... водлуг навукі сяго Статуту" задэцыдуе ў справе маемасьці.

Тут бачым, што кампэтэнцыі між духоўнымі і сьвецкімі судамі былі падзелены. Гэтай справе прысьвячаецца спэцыяльны арт. 31/III. "А непазываньне сьвецкіх у духоўнае права а рэчы сьвецкія", дзе чытаем: "Тэж уставуем, іж біскупове, пралаці стану духоўнага і іх спраўцы княжат, паноў і ўсей шляхты-рыцарства, і мяшчан, і ўсіх падданых нашых, як і шляхоцкіх, ня маюць нікога ку сабе да духоўнага права а сьвецкія рэчы пазываці"... Але, "Ніжлі што ку праву духоўнаму належаці і прыслухаці будзець, то ў духоўным праве справована і суджана быці маець".

Аб поўнапраўнасьці жанчыны ў Вялікім Княстве сьведчыць артыкул, датычны выхаду замуж жанчыны, – 39/III: "Тэж абяцуем і прыракаем, іж княгінь, паней-удоў, княжэн, панен, дзевак шляхцянак і ўсякага іншага стану ражаю жэнскага, як людзей вольных, пад вольным панаваньнем нашым гаспадарскім у тым панстве нашым Вялікім Княстве Літоўскім мяшкаючых, пры вольнасьцях іх захаваці маем, а гвалтам ні за каго ня маем даваці бяз волі іх, з парадаю прыяцеляў іх, за каго хаця, за таго ў малжэнства вольна будзець хадзіці і аддавація".

Сям'я ў Вялікім Княстве Літоўскім цешылася спэцыяльнай апекай, і маецца цэлы рад дыспазыцыяў, якія прызначаны для абароны яе ад магчымых вонкавых пасяганьняў, накіраваных супраць хрысьціянскіх сямейных прынцыпаў і маралі. Характэрным з гэтага гледзішча ёсьць арт. 29/XIV, у якім гаворыцца: "Паўсьцягаючы злосьць людзей сваволных, уставуем, іж дзе-б хто, якога-кольвек стану будучы, прапомнеўшы баязьні Божае і павіннасьці сваей хрысьціянскае, сьмеў падмовіці і ўзяці каму жану, хаця-ж з яе прызваленьнем, і ўехаў-бы з ёю, тады, будзець лі пасьцігнен у дарозе, у месьце, у гасподзе і на каторым кольвек месцу, маець быці пойман і да ўраду гродзкага ведзен, як і каторы іны злачынца, або тэж з аселасьці яго земскае позвы ку праву будучы прыцягнен на рок завіты, – таковы за довадам слушным горла трапіць". "Так тэж і тая нявеста, каторая на то пазволіла, на горла карана быці маець і кроме таго, естлі-бы муж яе на горла караці не хацеў, – то маець застаці пры волі яго".

**Права ўласнасьці.** Яно ня было абсалютным, і ў пэўных выпадках меліся абмежаваньні ў карыстаньні з яго. Гэтыя абмежаваньні заключаліся ў тым, што ўласьнік ня меў права



 

 



вольна дыспанаваць сваімі добрамі, сваею маемасьцю ў выпадку, калі-б чыніў пры гэтым шкоду іншаму. І так у арт. 21/IX аб патапленьні сваім ставам іншага ставу або сенажаці, і аб прысыпаньні грэблі да чужога берагу кажацца, што ў такіх выпадках уся спрычыненая шкода мае быць напраўленая, паднятая вада мае быць зьніжаная і прысыпленая грэбля адкапаная. Калі-б аднак пашкадаваны да 10 гадоў не скарыстаў з свайго права, дык "тады ўжо таковы ато вечна маўчаці маець".

Цікавы з гэтага гледзішча ёсьць арт. 31/IX, у якім кажацца, што калі-б хто, вязучы водным шляхам тавары, і меў няшчасны выпадак, што судно разьбілася і тавары патапіліся, дык іх уласьнік мае права выцягваць тавары з вады на бераг, пры чым гаспадар берагу ня можа вымагаць за гэта ніякае аплаты. "А хто-б хацеў тым онаму стануламу труднасьці задаваці, тады будзець павінен усю шкоду, што будзець на тым шкадаваці, савіта аправіці".

**Карнае права.** Усякага роду праступствы, асабліва крамольныя, караліся з асаблівай суровасьцю. Умыснае забойства сынам ці дачкою бацькі або маткі, або калі-б каторы з іх нейкім чынам прычыніўся да сьмерці свайго родзіча, "ня толькі горлам маець быці каран – кажа арт. 7/XI – але і пачцівасьці і ўсі іменьня і маетнасьць траціць на іншую брацьцю, сёстры, або блізкіх сваіх, звлашча таго ўчынку нявінных".

У выпадку, калі-б бацькі сваё дзіця ўмысна забілі, тады "таковы ацец і матка маюць быці караны за тое – год і шэсьць нядзель, маюць яшчэ да году чатыры кроць пры цэркві, пры касьцеле, якога набажэнства хрысьціянскага будзець, пакутаваці і вызнаваці яўны грэх свой перад усімі людзьмі сабраньня хрысьціянскага".

Практыкаваньне абортаў было сурова забаронена, і вінныя караліся сьмерцю. Гэтак арт. 60/XI кажа: "Рады то відзячы, абы ў панстве нашым хрысьціянскім усякая ўчцівасьць і паважнасьць, паваланьню хрысьціянскаму належачая, была захована, а праціўныя таму жэбы караньне слушнае на сябе аднасілі, адкуль-бы і іншыя няраднага прадсяўзяцьця свайго паўсьцягаціся маглі, уставуем, іж гды-бы каторая белая галава, ня жывучы ў стане малжэнскім, але вшэтэчне ся і нерадне справуючы, і так плоду набыўшы, а па тым для стыду або баязьні караньня той плод сама або цераз каго інага траціла і на сьмерць прыправіла, а на тым учынку была-бы сама альбо той, хто ад яе справаваці то будзець, поймана альбо-бы то якім слушаным, пэўным, і ўяўным довадам пераведзена была, таковыя, як той, хто ся таго чыніці а плод такі губіці падвязаў як і тая, каторая плод свой на страту дала, самі маюць горлам караны быці". "А ў таковай рэчы ўрады нашы гродскія і местскія маюць выведаньне чыніці і таго пасьцерагаці, а дазнаных і правам у тым пераконаных караці".

Вызваньне на руку (дуэль) забаранялася Літоўскім Статутам і, "не інак, адно на горла маець быці каран на сьмерць – той хто вызваў, або хто астаўся жывы з дуэлі – і кроў яго сваёю кроўю заплаціці маець"... арт. 14/XI.

Зладзейства каралася як цяжкае праступства. Вось прыклады: "Уставуем: каму-б зладзейскім абычаем злоўлена рыбу ў ставе або ў сажаўцы, таковы, гды будзець пойман і прыведзен да ўраду з ліцом (пакражаю) першы раз, за довадам маець быці пугамі біт".

"А дзе-б той-жа другі раз з ліцом быў пойман, той за довадам слушным урэзаньнем вуха каран будзець".

"А естлі ся тако-ж трэці раз дапусьціць, той за довадам слушным маець быці каран як злодзей (горлам), хацяб ліцо ня стоіла, шацуючы, і дзесяці грашэй".

Ува ўсіх выпадках "ня маець ніхто ні за каго цярпеці, толькі кожды сам за сябе", кажа арт. 18/I. "Тэж уставуем, іж ніхто ні за чыйкольвек учынак ня маець каран і сказован быці, толькі той, каторы ў чым сам вінен застанець, гдыж таго права Божае і справядлівасьць вучыць, якож так хочам меці, абы ні ацец за сына, ані сын за атца... і слуга за пана, пан за слугу, і ніхто іны ні за чый выступ і ўчынак ня быў каран, толькі кожды сам за свой выступ маець цярпеці і каран быці".

І ўканцы заўважым яшчэ, што карчмы, як мейсца, дзе падкопвалася матэрыяльнае і духовае здароўе народу, былі забаронены ў Вялікім Літоўскім Княстве. Дазваляліся толькі "стадолы пры гасьцінцах і дарогах звычных... у каторых для людзей пераежджых як рэчы страўня, так і шынак уставічна быці можэць".

"А таковыя корчмы пакутныя – у якіх як кажацца вышэй – уставічна забойства, зладзейства, разбой і іншыя многія збыткі дзеюцца... у кождым ваяводзтве, землях і паветах урад наш гродскі... гамаваці маець, і дзе-б у каторага кольвек падданага нашага піва, на шынк уваранае, так-жа мёд і гарэлку шынкаўную знайшлі, тады як трунк, так і ўсё



 

 



начыньне піўнае, мёдавае і гарэлачнае, катлы, кублы, бочкі а ня іншую маетнасьць, забіраці маюць да замку або двору нашага, а з таго палавіна пажутку маець іці на шпіталь, а другая палавіна на оны ўрад гродскі".

З усяго вышэй сказанага, выразна бачым, у якім кірунку йшла эвалюцыя беларускіх пісаных і звычаёвых правоў, пачынаючы ад часу прыняцьця хрысьціянства і да канца XVI ст., дзе мы спыніліся. Якую-ж ролю адыграла хрысьціянства ў гэтай эвалюцыі?

"Моцная рэлігія – кажа Буркгард – разьвіваецца і пранікае ўва ўсе жыцьцёвыя справы, захварбоўваючы кожны духовы імпульс і кожны элемэнт культуры"[35]. Так было і ў нас.

Такім чынам хрысьціянства, паканаўшы паганізм на нашых землях і знайшоўшы падатны грунт для свайго разьвіцьця, пачало пранікаць ува ўсе галіны індывідуальнага і сацыяльнага жыцьця, з тою мэтаю, каб там праявіўшыся навонках у сваіх чынах, сфармаваць нанова ўсё грамадзтва, выходзячы з самога сябе, ці базуючыся на сваіх уласных прынцыпах і маралі. У нашым канкрэтным выпадку ўплыву хрысьціянства на беларускія звычаёвыя і пісаныя правы, роля хрысьціянства заключалася, у пачатковай стадыі, у прышчапленьні ўжо існуючай юрыдычнай сыстэме хрысьціянскіх прынцыпаў і маралі, якія, культываваныя пазьней на працягу стагодзьдзяў, далі прыгожы рэзультат у галіне беларускае юрыдычнае культуры, творам якое і найлепшым адбіткам якое зьяўляецца Літоўскі Статут. З цытаваных урыўкаў Літоўскага Статуту дакладна гэта бачым, бо ніякія іншыя, як толькі хрысьціянскія прынцыпы, заключае ў сабе так ягоная форма як і ягоны зьмест.

*Часопіс "Божым Шляхам". №№ 56–58, 1953–1954 гг.*

---

[1] Niederle. L. Manuel de l'antiquité slave. (Paris 1926) t. II, st. 10. Гэты звычай быў асабліва пашыраны сярод гэрманскіх народаў і балтаў.

[2] Niederle, op. cit. st. 13.

[3] "Повесть временных лет по Лаврентийской летописи". Часть I. (Москва 1950), ст. 15.

[4] Karel Kadlec, Wstep do Historji prawa slowian. Encyklopedya Polska (Krakow 1912) t. IV, st. 104.

[5] Niederle, op. cit. st. 19.

[6] Масуді, Абул-Гафан Алі † 956.

[7] Маўрікій Лявон.

[8] Калі верыць Нідэрле, дык гэта мела-б адносіцца толькі да замужных жанчын.

[9] Niederle, op. cit. st. 20.

[10] Niederle, op. cit. st. 21.

[11] Niederle, op. cit. st. 22.

[12] Niederle, op. cit. st. 22.

[13] Kadlec, op. cit. st. 104.

[14] Niederle, op. cit. st. 244–245.

[15] Kadlec, op. cit. st. 106.

[16] Kadlec, op. cit. st. 106.

[17] Kadlec, op. cit. st. 108.

[18] Niederle, op. cit. st. 244–245.

[19] Niederle, op. cit. st. 163.

[20] Глядзі "Русскую правду".

[21] Kadlec, op. cit. st. 128–132.

[22] Niederle, op. cit. st. 128.

[23] Niederle, op. cit. st. 162.

[24] M.M. Troplong, De la influencia del Cristianismo en el Derecho Civil de los Romanos (Madrid 1851), st. 7.

[25] Niederle, op. cit. st. 16.

[26] Troplong, op. cit. st. 5.

[27] Troplong, op. cit. st. 76.

[28] Ёсьць многія гісторыкі, якія ўважаюць, што "Руская Праўда" адносіцца ня толькі да Кіеўскай Русі, але гэтак сама і да Смаленску і да Ноўгараду. (Гл. В.Г. Гейман "Право и суд" у "История культуры древней Руси" (Москва–Ленинград, 1951). Т. II, стар. 41).

[29] Яе поўны тэкст з крытычнымі заўвагамі падаены ў "Памятники русского права" (Москва 1953). Вып. второй, стар. 37–54.

[30] Гейман, назв. твор, стар. 48.

[31] Іх пералічае В.Ластоўскі, Гісторыя крыўскае (беларускае) кнігі, Коўна 1926.

[32] Гейман, назв. твор, стар. 59.

[33] Усе ўрыўкі з Літоўскага Статуту, якія тут падаюцца, узятыя з "Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1588 году (вынятккі)", Ватэнштэт 1947 (выд. Ч.Будзькі), што ў сваю чаргу ёсьць перадрукам з выд. I.I. Лаппо: "Літоўскі Статут 1588 году", Т.I. (тэкст), Коўня 1938, стар. XI.VIII+516.

[34] У далейшым першая цыфра будзе азначаць артыкул, а другая, рымская, разьдзел Статуту.

[35] Jakob Burchardt, Weltgeschichliche Betrachtungen (Stuttgart 1949) st. 98.



 

# Ишла Марыля по полю

## ЯНО

***

ишла Марыля по полю
к осокорю-тополю.
тополий-то пух, пух
по полю шух, шух!

веночек белый
панны-королевы.
лазоревые вочки
у шляхетской дочки.

видит Марыля: козлятко,
малое немовлятко.
копытцами туп-туп!
Марыле он люб, люб.

жалобно блеет,
сказать не умеет:
"возьми мене, панночка, до хаты,
будем с тобой играти".

"нельзя, козличек, до хаты,
нельзя, серенький, играти.
батюшка крут, крут,
поехал в суд, суд.

не велел гуляти,
с хлопами размовляти.
кажеть: приеду з Менска –
будут тебе ленты!"

а козлик Марылю облащивает,
вьюном Марылю обскакивает.
серенький скок-скок,
беленький бок, бок.

взяла панночка козлика,
прийшла домой поздненько.
отец тивуна пинает,
за усы по двору тягает!

“где дочка, падла собачья?!
где Марыля, сволочь жабрачья?!
одна у меня дочура.
сгною, запорю, немчура!”

а Марыля тихонько входит,
козлятку на двор заводит.
вжо отец тивуна оставил,
Иисуса Христуса прославил!

простил дочке гулянье,
дочернее непослушанье.
легла Марылька спати
на дубовой резной кровати.

укрылась медвежьей шкурой,
того мишки, что мать задрал,
да так и уснуло дитятко,
а рядом ее козлятко.

да не козликом был найденыш,
то был черт из Горы Бронной.
обернулся чертом поганка,
схватил Марылю – и с ганка!

целит Михась Кадуба с пистоли –
да шукай теперь ветра в поле!
схватился за голову седую:
не сберег кровинку родную!

поехал к бискупу в Вильно,
подарков привез обильно.
в слезах поклонился низко:
“помоги-научи, святый бискуп!”

задумался отче, покачал головою:
“не кручинься, шляхтич, Езус с тобою!
пер аспера – пшыдзеш до гвязд праз терны,
праз многия печали и многия скверны.

гору найдешь ля Мазовши далёко,
в той горе ты увидишь Цмока,
найвысшего черта с тремя главами,
что пышут огнем да плюютца камнями.

волосом толстым он привязан надежно,
але ж его победить не можно.
кодла бесовская Цмоку служит.
там в темнице Марылька тужит”.

ездит Михась, проезжих пытает:
никто про такую гору не знает.

вжо из Городни едет в Берестье,
треба ж на ночку остатца гдесьти!

видит: в корчме-корчемцы
рачьи потемки.
гей! Собралася бедна босота
мед-гарелку пить!

жиденок несет питво,
а вместо ноги копыто!
"эге! – Михась тут смекает. –
на ловца и зверь набегает!"

вгляделся: в корчме одни черти!
стало жутко ему до смерти.
але взяла шляхетская годность,
панская благородность.

"эй, вы, – говорит, – гостики!
сыграем, нечистики, в костики!
ставлю душу свою христианскую
против шляху в гору поганскую!"

а чертям, ведомо, то в радость,
душа человечья в сладость.
садитца корчмарь на лавке,
кости болтает в чарке.

призвал Михась на подмогу Ойца,
бросил кости: одинка и двойца!
завизжала чертячья нечисть:
"с кем тягаешься, человече?!"

глянул Михасько в узвышша:
анёл небесный сидит на крыше!
"эге! Поглядим, чья возьмет в поединке!" –
бросил кости корчмарь: две одинки!

тут Михась корчмаря за чуб хватает:
"веди в гору, поганец, где Цмок обитает!
а не то ж, не будь я Михась Кадуба,
головы лишишься, не то что чуба!"

повел корчмарь Михася в погреб,
в подземный бесовский город.
нема там бурмистра гродского,
права нема ж Майдеборского.

видит Михась Жикгимонта-сына –
хлебало набито землею и глиной:
вот тебе, Августе, и Волынь, и Подляшша!
ти смачна небожчику земелька наша?

а рядом инший, незнаемый, стогнет:
на лысине выжжен рицер "Погони";
такого ж на лбу и на задницы травят:
помни, товарышч, о дедовской славе!

раптом слезми шляхтич умылся:
голос из темры к нему пробился,
поет ему доченька-солнышко
с колодезя, с самого донышка:

"не обняти мне болшы тату,
не побачить родную хату.
на мокрое дно, дно
утягнуло мене Чмо, Чмо..."

побежал батька по лесьвенке
насустреч тихусенькой песенке.
корни деревьев его цепляют,
саблю з ножон вырывают!

да стена пред ним разышлася-ка,
видит гору пустую Михасько.
там, что твой волкодав на ланцуге,
сидит Цмок, трехголовый зверюга!

пасти свои он скалит,
дыханьем смердючим с ног валит.
"ты откуда пожаловал, шляхтич?
не боишься голову стратить?"

отвечает Кадуба: "я в Божией силе,
не уйду отсюда без дочки Марыли!
а як требует рицерский гонор и звычай,
бросаю перчатку во вси три лыча!"

сказал Михась да пальнул с аркебузы –
расплющилась пуля об Цмоково пузо!
огнь тройной зрыгнула зверюга –
был седой Михась, а стал черным, что уголь!

саблею рубит – чешуя, что железо!
ти то сабля тупая, ти нема смерти у беса!
а Цмок рогочет, метает каменне,
кожное з Мирскую башню – не меней!

троежды йшел Кадуба на приступ:
гей! все святые и Матерь Пречиста!
разрубил, не жадаючи, Боский волос,
дал волю Цмоку – тут земля раскололась!

затряслася зямля, небо упало наземь,

 



реки выйшли з берегов, война пачалася тым
часом.
паньство на паньство, птаство на птаство,
великое княство на великое княство!

иных дярэ надвое, як листье, –
со рта анёл, а из заду нечистик!
але черти не той хоть моцы,
да много ж поганцев, каб всих перемогчи!

видит Михась: пойшла лихоманка!
Иисус Христус в Цмока кидает маланки!
войски анёлов свои шикует,
на бесовскую рать накирует!

что ж тут робить человеку просту?
в носе не кругло, нема того росту!
спустился Михась в колодезь глубокий,
знайшовшы Марыльку, гойда на утеки!

говорит тут Марылька батьке:
"треба лодку скорей девбати!
приснила я сон злой,
поймал нибы нас водяной!"

три дни и три ночи йшла битва,
вся земля дождями залита.
выдевбал лодку Михасько,
так с Марылькою спасся.

але ж, верне, згинуло всё живое,
крыжы церквов торчат над водою.
где вода, а где поднебесье?
сверху-снизу одно Полесье.

плывут в човне отец и дочка,
смешалися день и ночка.
нема ани Черта, ни Бога.
одна тольки путь-дорога.

1998

Алег ЛІЦКЕВІЧ





 

**КРЫНІЦА № 7**

**1998**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**

**Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**Рэдакцыя:**
**Валянцін АКУДОВІЧ,**
**Уладзімір АРЛОЎ, Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК,**
**Алесь РАЗАНАЎ (намеснік галоўнага рэдактара),**
**Юры СТАНКЕВІЧ**

**Мастацка-тэхнічная група:**
**Вольга БОЛДЫРАВА, Кастусь ВАШЧАНКА,**
**Кастусь ДРОБАЎ, Ірына КЛІМКОВІЧ,**
**Марыя МАЛЕЦ, Галіна УЛАСАВА**

**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Званіце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 8. 06. 98. Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.-друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 1736.

**Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**